# Да чытачоў

Паважаныя нашы суайчынікі ды ўсе нашыя сябры і дабразычліўцы! Мінула ўжо бязмала пяць гадоў, як было заснавана Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Яно паставіла сваёй мэтай, каб тутэйшыя беларусы адчувалі сябе роўнымі сярод роўных у сям'і розных народаў, што засяляюць дзяржаву, у якой яны жывуць. Але на працягу ўсіх пасьляваенных дзесяцігодзьдзяў яны сябе такімі не адчувалі... Не маглі адчуваць сябе роўнымі, бо ў іх адабралі школу на роднай мове, забаранілі свае грамадзкія суполкі, адабралі і катэгарычна забаранілі друкаванае слова на сваёй мове, як гэта ўжо было аднойчы за царскім часам.

Дык ня дзіва, што тутэйшы беларус быццам заснуў ды ніяк ня можа зразумець, хто ён такі, нават мову сваю матчыну, мову сваёй бабулі, называе простай.

Беларусаў будзіў ад сну Кастусь Каліноўскі—*„Яська, гаспадар з-пад Вільні"* ў сваёй „Мужыцкай праўдзе"; іх перасьцерагаў ад духоўнай сьмерці Мацей Бурачок, што нарадзіўся ў Сьвіранах непадалёк ад Вільні; іх будзілі віленскія газэты „Наша Доля" і „Наша Ніва" на зары дваццатага стагодьдзя.

Урэшце беларусы абудзіліся і абвесьцілі сваю незалежную рэспубліку яшчэ ў 1918 годзе амаль адначасова з літвінамі, толькі ж лёс не дазволіў ім зьберагчы яе. І яны былі адкінуты далёка назад ад тых дасягненняў, якія яны ўжо здолелі здабыць.

Мо сёння нам яшчэ цяжэй узьнімацца з-пад таго прыгнёту, чымся было сто гадоў таму назад, але ўсё ж Беларусь жыве... А каб яна сапраўды жыла, дык трэба яе любіць, трэба шанаваць сваю родную мову, трэба пазбыцца свайго гістарычнага бяспамяцтва.

Сягоньня надыйшоў час, калі гэта стала магчымым. Гэтая сьціплая старонка паказвае, што ня ўсе вакол нас адносяцца да нас непрыхільна. Жывое друкаванае слова шмат што можа зьдзейсьніць.

Мо гэты наш лісток на беларускай мове пакуль што толькі кволая іскрынка, але ж раздьмухаўшы яе можна распаліць і вогнішча, ля якога сагрэюцца схаладзелыя душы тых дарагіх землякоў, забыўшых сваё радство і племя ды якім трэба крыху цяпла. Дык гуртуймася ж, каб зьвінела наша песьня, гучэў прыгожы верш, цешыў вока бадзёрны танец...

Пішэце нам пра ўсё тое, што вас хвалюе, пра тое, што хацелі б вы даведацца з гэтае старонкі, дасылайце нам свае матэрыялы, працуйма разам,—тады і Таварыства нашае набудзе больш сілы ды здолее пашырыць сваю дзейнасьць!

**Рэдакцыйная Калегія Таварыства Беларускай Культуры.**

# Ёсць Пасольства Беларусі ў Вільні!

## Гутарка з Паверaным у справах Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Уладзімірам Шчасным.

**— Як вы ставіцеся да таго, што паміж суверэннымі дзяржавамі Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай прайшла ўжо сапраўдная дзяржаўная, а не ўмоўная адміністратыўная мяжа?**

— Асабіста я амаль прызвычаіўся. Адчуванне такое, што даводзіцца разязджацца добрым суседзям па камунальнай кватэры. З аднаго боку—у кожнага ёсць надзея на ўтульнасць і асабісты парадак, а з другога боку—ўсё ж не пакідае пачуццё смутку ад знікнення былой супольнасьці, узаемападтрымкі.

**— Ці не здаецца Вам, што парушэнне эканамічных і іншых сувязей адмоўна адгукнецца на становішчы грамадзян нашых дзяржаў?**

— Не думаю што гэта будзе нейкае фатальнае парушэнне. Упэўнены, што дарога паміж Мінскам і Вільнюсам не зарасьце травой. Цяпер кожны з нас заклапочаны ўнутранымі справамі. З цягам часу аддыхаемся, азірнемсяі зноў адновім тыя трывалыя і прыязныя адносіны, што спрадвеку існавалі паміж нашымі народамі. Але цяпер будзем будаваць іх, як бы мовіць, „па гарызанталі" а не „пірамідальна", як раней калі мы ведалі адзін пра аднаго праз цэнтральнае тэлебачанне з Масквы. Ужо цяпер паміж нашымі краінамі падпісана два дзесяткі пагадненняў, пастаянна вядуцца двухбаковыя перамовы на самых розных узроўнях. Зрэшты, упершыню ствараюцца дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў Вільнюсе і Мінску. Што ж датычыцца эканамічных сувязей, то ва ўмовах рынковай, а не адміністратыўна-каманднай сістэмы, прадпрымальніцтва, як тая вада, знойдзе сабе дарогу праз усе перашкоды.

**— Якой бачыцца Вам роля Пасольства Беларусі ў такі вось пераходны перыяд?**

— Падтрымліваць ужо існуючыя і разьвіваць новыя палітычныя, культурныя, эканамічныя сувязі, інфармаваць свой урад аб падзеях у суседняй краіне, ажыццяўляць консульскую дзейнасць.

**— Дарэчы аб ёй... Літва ўводзіць візавы рэжым у дачыненні да дзяржаў СНД, у тым ліку і Беларусі. Якая будзе рэакцыя беларускага боку?**

— Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка ў час свайго візіту ў Літоўскую Рэспубліку напачатку верасьня прапанаваў не ўводзіць візавы рэжым паміж нашымі дзяржавамі. У выніку перамоў паміж прэм'ер-міністрамі абедзвюх краін, што адбыліся 29 кастрычніка, была дасягнута дамоўленасць наконт таго, што візавы рэжым адносна грамадзян Беларусі не будзе уведзены да 1 студзеня 1994 года. Будуць працягвацца перамовы па спрашчэнню візавога рэжыма ў будучым.

**— Вы трапна ахарактарызавалі адносіны паміж нашымі народамі як прыязныя і трывалыя. Гэта не дзіўна, бо нас яднаюць як гістарычныя, так і сямейныя і кроўныя сувязі. Вядома, што ў Віленскім краі, ды і па ўсёй Літве жыве шмат беларусаў, як па пашпарту, так і па сьвядомасьці ці проста па паходжанню. Як Пасольства будзе ладзіць адносіны з імі?**

— Будзем бараніць, калі раптам гэта спатрэбіцца, правы грамадзян Беларусі, што стала жывуць у Літве, і клапаціцца наконт культурных патрэб тых беларусаў, якія выбралі грамадзянства Літвы, але жадаюць захаваць сваю этнічную адметнасьць. Вядома, адпаведная дзейнасьць будзе праводзіцца ў межах заканадаўства і згодна з Канстытуцыяй Літоўскай Рэспублікі, а таксама міжнароднага права. Беларусы—народ памяркоўны і ніколі не патрабуюць зашмат. Калі агульнымі намаганнямі разам з літоўскім бокам будзе створана патрэбная колькасць беларускіх навучальных устаноў, культурных цэнтраў і сродкаў масавай інфармацыі, беларусы, якія жывуць у Літве, сваёй руплівай працай, а яны на яе здатныя, будуць шчыра спрыяць росквіту Літоўскай Рэспублікі. Такія ж умовы беларуская дзяржава будзе імкнуцца стварыць і для літоўцаў, якія жывуць у Беларусі.

**— Што пажадаеце нашай старонцы?**

— Вядома, усяго самага найлепшага, і каб Голас тутэйшага беларуса быў заўсёды чуцен у сугучнасьці галасоў народаў, што спрадвеку жывуць на гэтай зямлі.

Сьв. Прадслава-Еўфрасіня Полацкая

# Юбілей граматыкі Тарашкевіча

У адным з верасьнёўскіх нумароў газэты „Эхо Літвы" была адзначана юбілейная дата выхаду першага выданьня „Беларускай граматыкі для школ" Браніслава Тарашкевіча. Гэтая падзея адбылася ў верасьні 1918 году ў Вільні, а значыць з таго часу мінула 75 гадоў.

Браніслаў Тарашкевіч гэта беларус з-пад Вільні, ён нарадзіўся ў засьценку Мацюлішкі былой гміны Міцкуны і ўсё яго далейшае жыцьцё цесна зьвязанае з Вільняю. Тарашкевіч пакінуў глыбокі сьлед у гісторыі нашай культуры як вучоны-філёляг, а таксама пісьменьнік-перакладчык, асьветнік і грамадзка-палітычны дзеяч, але ж бадай, найважнейшае з яго творчай спадчыны гэта стварэньне навукова апрацаванай граматыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Яго граматыка пазьней шмат разоў перавыдавалася і была асноўным і хіба адзіным дапаможнікам выкладаньня беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Аснаўнымі прынцыпамі граматыкі і правапісу Тарашкевіча карысталіся і ў Савецкай Беларусі ажно да рэформы, праведзенай у 1933 годзе. Сваімі адступленьнямі ад асноваў граматыкі Тарашкевіча гэтая рэформа была дужа шкоднай зьявай і прывяла сёння беларускае мовазнаўства да неабходнасьці новага перагляду правілаў і вяртання да шматлікіх папярэдніх дасягненьняў Тарашкевіча.

Сучасны правапіс мае шмат заганаў, бо быў вынікам не навуковых досьледаў, а загаду ўладаў, ад чаго і завуць яго крыху зьдзекліва „наркамаўкай", затое можна часта пачуць такое выражэньне, што многія пачынаюць ізноў пісаць „тарашкевіцаю". Гэта сьведчыць аб няўміручасьці яго імені і навуковых здабыткаў...

А ў Вільні пра Тарашкевіча яшчэ ведаюць як пра аднаго з дырэктараў Віленскай Беларускай гімназіі, аб адраджэньні якае сёньня шмат гаворыцца, ды як пра выкладчыка ў ёй лацінскай мовы. У 1922 годзе вялікі аўтарытэт Тарашкевіча дапамог яму трапіць у польскі парлямент як дэпутату ад жыхароў Заходняй Беларусі. Ён шчыра бараніў інтарэсы беларускага насельніцтва ў польскім сойме, здолеў арганізаваць і стаць лідэрам стотысячнай сялянска-работніцкай Грамады. Ён быў выдатным аратарам, здольным арганізатарам і таленавітым публіцыстам.

Ды ён ня мог дагадзіць ні польскаму акупацыйнаму рэжыму, які разграміўшы Грамаду пасадзіў яго ў вастрог, ні такому ж антынароднаму Савецкаму рэжыму, трапіўшы ў кіпцюры якога, Тарашкевіч быў расстраляны ў лістападзе жудаснага 1938 году... Але да тэмы пра складаны, гераічны і трагічны жыцьцяпіс Браніслава Тарашкевіча мы яшчэ не аднойчы вернемся на нашай старонцы.

Сёньня ж рэдакцыйная Рада нашага сьціплага лістка апынулася перад неабходнасьцю разважыць пытанне, якім правапісам карыстацца ў сваіх артыкулах і наважыла прыняць пад увагу наступныя аргумэнты. У Вільні і на Віленшчыне ў беларускім друку заўсёды карысталіся тарашкевіцаю, яе карані тут вельмі моцныя і яна захавалася ў памяці старэйшага пакаленьня, якое на гэтай зямлі вучылася ў беларускіх пачатковых школах і Віленскай Беларускай гімназіі. Гэтым правапісам карыстаецца таксама газэта „Наша Ніва", якая ўжо трэці год, хаця і зрэдку, выдаецца ў Вільні. Хаця з некаторымі зьменамі, але ў аснаўным паводле правапісу Тарашкевіча выдаецца друк у беларускім замежжы. На гэты правапіс пераходзяць і некаторыя часопісы ў Рэспубліцы Беларусь.

Дык хіба ж давядзецца захаваць даўнюю традыцыю і ў нашых публікацыях прынамсі да часу, калі будуць аканчальна апрацаваныя і ўведзеныя ва ўжытак новыя нарматывы беларускай граматыкі і правапісу ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

**Лявон Луцкевіч**

# 820 гадоў з дня сьмерці Еўфрасінні Полацкай

Сярод сьвятых у хрысьціян Беларусі асаблівай павагай і любоўю карыстаецца Прасьвятая Еўфрасіння Полацкая. І гэта зразумела. Сьвятая Еўфрасіння прысьвяціла сваё жыццё ня толькі справам боскім, але ня ў меншай меры барацьбе за матэрыяльны дабрабыт насельніцтва, за яго здароўе і агульналюдзкую культуру.

На поглядах і фармаванні характару Сьвятой Еўфрасінні бязумоўна адбіліся падзеі, беды і трагедыі тагачаснай эпохі. Гэта быў час жорсткай барацьбы князёў-феадалаў за пяршынство, "сэньёрат" на усходне-славянскіх тэрыторыях, калі супроцьпаставіліся Полацкія і Кіеўскія князёўскія роды.

Дачка полацкага князя Сьвятаслава (унучка Усяслава-Чарадзея)—12-гадовая Прадслава перажыла трагічную долю Бацькаўшчыны, праіграўшай вайну з Кіеўшчынай. Крывавае змаганне, распачатае Уладзімірам Манамахам прадоўжыў яго сын Мсьціслаў. Ён падгаварыў сваіх шматлікіх саюзьнікаў і нечакана напаў на беларускія землі. Быў захоплены непадрыхтаваны належна Полацк. Бацька Прадславы разам з іншымі беларускімі князямі быў захоплены ў палон і высланы ў Візантыю, дзе імператарам быў іх сваяк з роду Каменаў (па мацяры). Толькі менскі князь Глеб загінуў у Кіеўскім Княжым астрозе.

Юная князеўна Прадслава знайшла ратунак у манастыры, дзе Ігуменяй-Княгіняй была яе цётка. У гэтым жа кляштары прытуліліся і сястра Градзіслава, і дваюрадная сястра—Зьвеніслава. Рэлігійная і ваенная этыка тых часаў сурова забараняла вайскам любой стараны захапляць і бясчэсціць манастыры.

Характэрна, што ў выпадках палону або гібелі пануючых князёў, улада фактычна перайходзіла ў рукі іх жонак, або дачок,—у манастыры. Адным з доказаў гэтага зьяўляецца знойдзеная пячатка Еўфрасінні Полацкай, якою карысталіся пры афармленіі дзяржаўных дакументаў.

Будучы пастрыжанай у манашкі, Прадслава прыняла імя Еўфрасінні. Яна старанна вучылася, пільна выкарыстоўвала гэтыя гады для паглыблення сваіх ведаў і вывучэння грэцкай мовы. Рыхтавалася да будучай вялікай працы. І адразу ж пасьля дасягнення паўналецця распачала шырокую і важную для нацыі дзейнасць. Пакідае кляштар свае цёткі-княгіні і распачынае будаўніцтва манастыра пры храме Сьвятой Сафіі, каторы незадоўга становіцца адным з найбольшых цэнтраў рэлігійнага і культурнага жыцця Беларусі. Па яе заказу выконваецца напрастольны крыж, які атрымаў памятную для ўсіх пакаленняў назву ЕЎФРАСІНЕЎСКАГА. Тварцом яго быў Лазар Богша. Такі крыж з двума папярэчкамі значыўся на патрыяршым посаху і быў сімвалам патрыяршай улады. А патрыярх лічыўся галоўнай уладай краіны. Сёння гэты крыж (арыгінал) паводле некаторых зьвестак знаходзіцца ў Амерыцы, аднак дакладнае месца не ўстаноўлена. Мяркуецца, што гэты наш нацыянальны скарб хаваецца ў прыватным сховішчы аднаго з мульцімільянераў.

Наступнай важнай для Полаччыны падзеяй было заснаванне Спаскага манастыра ў Сяльцы каля Полацка, а крыху пазьней—мужчынскага манастыра. Трэба памятаць, што ў тыя часы манастыры былі галоўнымі цэнтрамі разьвіцця асьветы і навукі краю.

Сьвятая Еўфрасіння аддавала свае веды і сілы ня толькі рэлігійнай дзейнасці, ня толькі ўзначальвала пабудовы манастыроў і цэркваў. Яна сама пісала летапіс, вершаваныя творы, перакладала кнігі з грэцкай мовы на старабеларускую. І нават уласнаручна выконвала красьлярскія работы і планы архітэктуры храмаў. Адначасна была выкладчыцай у манастырскай школе і актыўна удзельнічала ў дзяржаўным жыцці Полаччаны.

Немагчыма не адзначыць велічы і чуласьці яе душы адносна балючых патрэбаў яе суайчыннікаў. Побач з важнейшымі дзяржаўнымі і агульнанацыянальнымі справамі, Еўфрасіння штодзенна прымала бедных, хворых і пакрыўджаных людзей, ратавала іх ад бедаў, дапамагала ў няшчасьці. Полацкі летапісец піша, успамінаючы дзейнасць Сьвятой Еўфрасінні:

— "Еўфрасіння—арол паднябесны, праляцеўшы з Захаду на Усход, каторы як сонечны промень асьвяціў усю полацкую зямлю... Яна была заступніцай пакрыўджаных, суцяшальніцай пакутуючых, апранаючай нагіх"...

Сьвятая Еўфрасіння і пасьля свае сьмерці ў Ерусаліме асталася для беларускага народу яго заступніцай перад Усявышнім і перад крыўдзіцелямі на нашай грэшнай зямлі. Пад імем нашай вялікай асьветніцы—Сьвятой Еўфрасінні пабудаваны і асьвечаны першыя беларускія Храмы у Амерыцы, Канадзе, Англіі.

У Вільні царква Еўфрасінні Полацкай знайходзіцца на Еўфрасіньеўскіх магілках, на Ліпаўцы.

**Аляксей Анішчык**

# Віленскае Згуртаванне палітзняволеных

Нядаўна ў Вільні зарэгістравана яшчэ адна беларуская арганізацыя: Згуртаванне беларусаў-палітзьняволеных. Статут прадугледжвае прыналежнасьць да згуртавання былых палітвязьняў-беларусаў, а таксама членаў іх сямей, якія згодны з вымаганнямі статута арганізацыі і выяўляюць жаданне супрацоўнічаць.

Статут і дзейнасць членаў згуртавання асноўваюцца на платформе

1. **Незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі;**
2. **Узмацнення добрасуседзкіх узаемаадносін між Рэспублікамі Летувы і Беларусі;**
3. **Сяброўскай узаемадапамогі беларусаў-палітвязьняў.**

Прадугледжваецца таксама наладжванне сувязі з суполкамі былых палітычных вязьняў Беларусі і іншах рэспублік, а таксама цеснае супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі Віленшчыны і Летувы.

У склад Рады Згуртавання выбраны:

**Анішчык Аляксей (старшыня)**
**Шыцея Кастусь (намесьнік старшыні)**
**Каўшанка Зоя**
**Навумчык Яўгеня**

*Тымчасовы тэлефон арганізацыі — 75-86-06*

**Андрэй Чэмер**

## ІНФАРМАЦЫЯ

Харавы гурток пры клюбе аматараў беларускай культуры „Сябрына" узнавіў пасьля летняга перапынку сваю дзейнасць. Рэпэтыцыі адбываюцца ў кожную суботу ў $15^{00}$, у Палацы ПРАФСАЮЗАЎ (вул. Міколайчо-Пуціно 5). Усіх, хто любіць беларускую песьню—запрашаем!

Варта паслухаць ПЕРШУЮ праграму Літоўскага радыё штодня ў $21^{05}$, навіны на беларускай мове. Па ДРУГОЙ праграме—кожную суботу ў $11^{30}$ беларускую перадачу.

Кожную суботу ў $16^{05}$ ТЭЛЕБАЧАННЕ Літвы перадае беларускую праграму.

**ВЫДАВЕЦ — Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.**

***Свае допісы, пажаданні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільнюс, вул. Селю 21 кв.2 Па ўсіх пытаннях званеце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49***




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 2


## Пазнайма свой горад!

Вільня — гэта горад адметны сваёй шматнацыянальнай культурай. Так склаўся яго лёс. Ужо ад самага заснаваньня горада, а бадай яшчэ значна раней, гэтая тэрыторыя засялялася плямёнамі розных энічных групаў. Гэта было балцка-славянскае пагранічча. Прашчуры карэнных жыхароў сучаснай Літвы і сучаснай Беларусі здавён жылі на гэтай зямлі.

Гэтая адметнасьць Вільні і Віленскага краю захавалася і да сёньняшняга дня. Толькі сёньня Віленшчыну можна назваць больш канкрэтна: — літоўска-беларускім памежжам.

Старажытнае паселішча, пра існаваньне якога сьведчаць толькі археалягічныя раскопкі, ператварыўшыся ў абарончае гарадзішча, зрабілася сталіцай магутнай балцка-славянскай імпэрыі, якая называлася Вялікім княствам Літоўскім. Ужо ў першай чвэрці XIV стагодзьдзя Вільня стала сталіцай гэтай дзяржавы.

У працэсе разьвіцьця горада пастунова ўліваліся прадстаўнікі і іншых народнасьцяў, якія траплялі сюды рознымі шляхамі і пры розных абставінах. Гэтак за панаваньня вялікага князя Вітаўта на пераломе XIV і XV стагодзьдзяў у Вільню і яе ваколіцы трапілі татары і караімы ды з таго часу сталі карэннымі жыхарамі гэтага рэгіёну.

Эканамічныя зносіны гістарычнай Літвы — Вялікага княства Літоўскага з Заходняй Эўропай паспрыялі зьяўленьню тут немцаў і жыдоў. На нейкім этапе яны ігралі значную ролю ў гаспадарчым жыцьці гораду, — у гандлі і пашырэньні рамёстваў.

Далейшае больш сьціслае аб'яднаньне ВКЛ з Польшчай прывяло да экспансыі апошняй ня толькі ў палітычным, але і ў культурным жыцьці. Палітычны і рэлігійны націск каталіцызму, які ажыцьцяўляўся праз Польшчу, паступова прывёў да зьяўленьня польскага духавенства і інтэлігенцыі ў нашым горадзе. Гэта паспрыяла апалячваньню вышэйшых пластоў грамадзтва ВКЛ, якія ўсё ж, ня гледзячы на гэта, не пераставалі лічыць сябе за літвіноў, бяз розьніцы свайго этнічнага паходжаньня.

У канцы XVIII стагодзьдзя, калі дзякуючы канстытуцыі 3-га траўня рэчпаспалітая многіх народаў стала называцца рэчпаспалітаю польскай, а ВКЛ страціла значную частку свайго сувэрэнітэту, наступае падзел гэтай аб'ядчанай дзяржавы між трыма эўрапейскімі імпэрыямі, а ўся тэрыторыя сучаснай Літвы і сучаснай Беларусі як адно цэлае трапіла пад акупацыю Расейскай імпэрыі разам са сваёй супольнай сталіцаю — Вільняю.

Імпэрская палітыка Масквы з шчырай дапамогай праваслаўнай царквы імкнулася да поўнай асыміляцыі гэтага краю, да ператварэньня яго ў правінцыю Расеі. І ўсё ж рух супраціўленьня агрэсару на працягу XIX стагодзьдзя прыводзіць пастунова да абуджэньня прыспаных нацыянальных сілаў народаў-аўтахтонаў: літвіноў і беларусаў. Складаныя шляхі нацыянальна-вызваленчых рухаў сьведчылі тады і напаміналі пра супольны гістарычны лёс гэтых абодвух народаў, умацоўвалі іх салідарнасьць у барацьбе за волю.

Але ж прадстаўнікі ўсіх пералічаных тут народаў у большай ці меншай меры, у той ці іншай ролі ўдзельнічалі ў стварэньні культурнага аблічча гораду, спрыялі яго разьвіцьцю, — нават тыя, што трапілі сюды ў выніку палітычнай экспансыі.

Сёньня ўсе яны маюць права ганарыцца гэтым горадам, адчуваць яго ў нейкім сэньсе сваім і адчуваць, што ён прымае іх за сваіх, лічыць яго сваім родным, урэшце шчыра любіць яго...

Ня меншую, як хто іншы, маюць падставу і права да гэтага беларусы, якіх мова ня толькі ў гаворцы, але і на пісьме стасавалася тут ад самага пачатку, калі даўняе паселішча набыло статус стольнага гораду. Менавіта тут сфармавалася старажытная беларуская літаратурная мова, узьнікла найраней з усіх усходніх славянаў беларускае кнігадрукаваньне, нарадзіўся першы Літоўскі Статут, першыя літоўскія хронікі, — і ўсё гэта на старабеларускай мове.

Нашай гістарычнай спадчыны ў Вільні шмат, — гэта і сівая даўніна, гэта і гады змаганьня за вызваленьне. Спадзяюся, што на гэтую тэму ў нас адбудзецца яшчэ не адна гаворка, а па жаданьні нашых чытачоў мо і не адна вандроўка па вулках старое Вільні. Вядома, калі дазволіць здароўе, —

Ваш дзядзька Лявон.

## НАШАЯ ХРОНІКА

* * *

У суботу 16 кастрычніка адбылося сьвята беларускіх школьнікаў у Вільні. Праходзіла яно ў круглай залі палаца культуры на Туравай Гары. Упершыню гэтая заля прыняла вялікую колькасьць беларускіх вучняў. Гэта было іх сьвята, іх першае хрышчэньне на сапраўдных вучняў адраджаючагася ў Літве беларускага школьніцтва. Атмасфэра была вельмі цёплай і нават сямейнай. Пачалося яно ўступным словам настаўніцы мастацтва Касі Харэўскай. Затым выступленьне настаўніцкага гуртка, які падрыхтаваў урывак з ведамай п'есы Янкі Купалы «Паўлінка», а пасьля пачалася галоўная частка вечарыны — гэта выступленьне дзяцей. Кожная кляса выступіла са сваёй праграмай, сваімі нумарамі. Гэта былі вершы, сьпевы, невялічкія гумарыстычныя сцэнкі. Выступалі дзеці розных узростаў — ад пачатковых клясаў да найстарэйшых. Выступленьні 10 і 11 клясаў пацьвердзілі цяжкасьці адаптацыі старэйшых дзяцей у беларускае асяродзьдзе. Яны яшчэ не адважыліся сказаць сваё беларускае слова — але ж гэта толькі пачатак. Мабыць за такі кароткі час дужа цяжка было пераступіць мяжу рускамоўнага насельніцтва і катэгорыі нацыянальна сьвядомага грамадзяніна. Затое ўзнагароду за лепшую беларускую мову атрымала 4-ая кляса і яе настаўніца Валянціна Слесарава. Пачатак зроблены, посьпехаў вам, дзеткі і настаўнікі, на вашым нялёгкім шляху.

* * *

У той жа дзень і, як ні дзіўна, а той самай 15-ай гадзіне, адбылася першая сьпеўка беларускага хору пад кіраўніцтвам Юрыя Зімніцкага. Сёньня ў Вільні яшчэ ня дужа многа розных беларускіх суполак, дык вельмі насьцярожвае поўная адсутнасьць каардынацыі іх дзейнасьці... А сваю дзейнасьць хор спыніў на летні адпачынак яшчэ ў траўні. Ці не зьяўляецца гэта адной з перашкодаў у дасягненьні гэтым калектывам больш важкіх посьпехаў?

* * *

21 кастрычніка ў Вільні ў Міністэрстве культуры і адукацыі Літвы адбылася першая сустрэча двухбаковай міждзяржаўнай камісіі па аднаўленьні ў Вільні музэю імя Івана Луцкевіча. Перамовы пачаліся ад узгадненьня пазыцыяў беларускага боку міжсобку, бо ў яго ўвайшлі прадстаўнікі Міністэрства культуры і дзяржаўных структураў Рэспублікі Беларусь ды прадстаўнікі беларускага грамадзтва Літвы. Прынцыповых разыходжаньняў у поглядах не было. Затым у канфэрэнц-залі міністэрства адбыліся перамовы з прадстаўнікамі літоўскага боку. Першую сустрэчу асабліва плённай назваць нельга. Хаця беларускі бок даволі канкрэтна акрэсьліў канцэпцыю аднаўленьня музэю, літоўскі бок, бароначы свае заваёвы савецкага часу, абраў тактыку замаруджваньня прыняцьця канструктыўных рашэньняў. Ён запрапанаваў беларускаму боку на працягу двух-трох месяцаў распрацаваць канцэпцыю музэю, а гэтым самым адкласьці далейшую працу камісіі да наступнага году, на што беларускі бок пагадзіўся, паказаўшы сваю безпапаможнасьць і адсутнасьць настойлівасьці ў вырашэньні праблемы. Бясспрэчна канцэпуальнае рашэньне аднаўленьня беларускага музэю ў Вільні магло быць прынята ўжо на першай сустрэчы. Пазыцыя літоўскага боку зразумелая, а вось беларускага крыху зьдзіўляе. Ізноў славутая памяркоўнасьць, ці што?

* * *

22 кастрычніка ізноў жа ў круглай залі палаца культуры на Туравай Гары адбылася вечарына, прысьвечаная 100-гадоваму юбілею нараджэньня Паўліны Мядзёлкі. Як і ў бальшыні дзеячоў беларускай культуры, яе равесьнікаў, прасочваецца яе блізкая сувязь з беларускім асяродзьдзем Вільні, якое гуртавалася вакол газэты «Наша Ніва». У Вільні Мядзёлка нейкі час вучылася ў гімназіі, удзельнічала ў працы Віленскага музычна-драматычнага гуртка. Дарэчы, яна выконвала ролю Паўлінкі у Купалаўскай камэдыі «Паўлінка» ў лютым 1913 г. у Пецярбурзе і ў верасьні таго ж году ў Вільні. Дык не прыпадкова юбілей Паўліны Мядзёлкі быў адзначаны спэктаклем Купалаўскай «Паўлінкі», які паказаў віленчукам пінскі тэатр-студыя «Дыяген» у пастаноўцы яго кіраўніка І.Базана. Перад спэктаклем гледачы выслухалі кароткую інфармацыю пра жыцьцёвы і творчы шлях Мядзёлкі. Спэктакль, пастаўлены на добрай беларускай мове, быў цёпла прыняты публікай, якой сабралася каля паўтараста чалавек.

Аглядальнік.

## Дзе нашы парафіі?

На Віленшчыне дзейнічаюць сотні каталіцкіх парафіяў з літоўскай мовай набажэнства. У 65 парафіях гучыць польская мова. А ў якім жа касьцёле можна пачуць тутэйшую беларускую мову?.. Парафіяне-беларусы пазбаўлены такой магчымасьці. На працягу апошніх 50-ці гадоў беларускае каталіцкае слова чулася ў Вільні толькі з вуснаў Сьвятога Айца Яна-Паўла II, біскупа Кандрусевіча ды ксяндзоў Алюліса і Чарняўскага.

Толькі яны зразумелі, што Ўсемагутны Бог ня прызнае імперыялізму. Што да яго дайходзяць малітвы на ў с і х мовах, а ў першую чаргу на «хамскай», як яе назвалі варожыя нам духаўнікі.

Тутэйшы.

## *Бацькаўшчына...*

*Да вас, радзімыя мясьціны,*
*Вядзе нас успамінаў рой.*
*Прытульнасьць бацькавай*
*хаціны,*
*Бяроз зялёна-белы строй,*
*Сузор'і, сполахі зарніцы,*
*Паходы ў вёскі, вечарніцы,*
*Лужкоў, узлескаў зелень,*
*краскі,*
*Скупыя матчыныя ласкі,*
*Бязлікіх птушак галасы,*
*Брылянты ранішняй расы.*
*І ніва, што ўсіх нас карміла*
*— Усё нам блізка,*
*сэрцу міла...*

Андрэй ЧЭМЕР.

## *ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ*

* * *

Паводле заявы кіраўніка Канстытуцыйнай Камісіі — Генеральнага пракурора Беларусі Шаладонава, Вярхоўны Савет 60 артыкулаў праекта Канстытуцыі прыняў цалкам, а 20 — часткова. Кіраўніком дзяржавы прызнаны прэзыдэнт, катораму падначалены Кабінет Міністраў.

* * *

Прыняццё Канстытуцыі мае адбыцца на сесіі ВС, якая пачне сваю працу 9 лістапада.

* * *

У МЗС Беларусі падпісаны пратакол між РБ і КНР пра юрыдычнае супрацоўніцтва ў галіне грамадзянскіх і крымінальных справаў.

* * *

Кіраўнікі Міністэрстваў Абароны ЗША і РБ падпісалі пагадненне пра паглыбленне супрацоўніцтва ў справах абароны і бясьпекі.

* * *

У Менску распачаўся сэмінар у выніку супрацоўніцтва унівэрсытэта г. Брэмэн і Палітэхнічнай Акадэміі РБ. Беларускія эканамісты і гаспадарнікі будуць вучыцца працаваць па-эўрапейску.

* * *

У сувязі з ростам цэнаў на тавары і абслугу, СМ РБ устанавіў з пачаткам лістапада 1993 г. мінімальную зарплату 20 тысяч рублёў у месяц. Прадугледжваюцца меры сацыяльнай дапамогі для нізка аплачваных працаўнікоў.

* * *

Статыстыка РБ паказала, што ўраджайнасьць збожжа з кожнага гектара ў 1993 г. — 33,4 цэнтнера. Усяго сабрана 8,7 мільёнаў тон, — значна больш, чым у мінулым годзе.

А.А.

## Горадзенская гімназія

Гаворачы пра сярэднія школы дваццатых-трыццатых гадоў, старажылы звычайна ўспамінаюць Віленскую, Навагрудзкую, Клецкую і Радашкаўскую гімназіі. Аднак у 1920—1921 гадах існавала Горадзенская Беларуская Гімназія, але яе гісторыя бадай нідзе не друкавалася.

Думаецца, што гэты прабел яшчэ можна (і неабходна!) запоўніць. Напэўна жывуць яшчэ яе гадунцы і сьведкі яе існаваньня. А можа нават педагогі ці спадчына па іх.

Зьвяртаемся да ўсіх патрыётаў роднай культуры: напішэце ў нашу рэдакцыю, прышлеце зьвесткі, успаміны і здымкі (мы іх вернем). Будзем Вам вельмі ўдзячны! Гэта ж наша нацыянальная спадчына.

Адрас: Літва, 2051, Вільня, вул. Жырмуну 52-32. Анішчыку Аляксею (тэл. 75 86 06), альбо (там жа) вул. Селю, 21-2, (тэл. 35 55 95) Нюньку Хведару.

Аляксей АНІШЧЫК.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве.
Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька. 2004 Вільня-4 вул. Селю 21, кв. 2

Свае допісы, пажаданьні і заўвагі дасылайце на адрас 2004 Вільня, Селю 21 кв.2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 35-55-95, 44-90-01, 75-86-06.




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 4

## ЦІ АДРОДЗІЦЦА МУЗЭЙ?

Штораз часьцей і сьмялей выказваюцца погляды аб неабходнасьці ўзнаўленьня ў Вільні беларускага музэю, які афіцыйна існаваў тут больш чвэрці веку. А паступовае назапашваньне экспанатаў і ствараньне калекцыяў пачалося ўжо ад самага пачатку нашага стагодзьдзя, а бадай і крыху раней. Усё гэта адбывалася дзякуючы ініцыятыве і самаахвярным намаганьням археоляга і аднаго з пачынальнікаў нашага адраджэньня Івана Луцкевіча. Яго імёнем і быў названы музэй.

Гвалтоўная ліквідацыя музэю у 1945 годзе была злачынствам бальшавіцкага рэжыму і яго мясцовых калябарантаў, накіраваным супраць беларусаў Вільні і Віленскага краю, супраць усяго беларускага народу і яго культуры. Гэты акт ідэалягічнай рэпрэсіі быў спалучаны з рэпрэсаваньнем асноўных супрацоўнікаў музэю і сяброў Беларускага Навуковага Таварыства, да якога належыў музэй па волі яго стваральніка. Усе гэтыя дзеячы былі фізычна зьнішчаны або адпакутавалі доўгія гады ў сталінскіх лягерох. Вось іх няпоўны пералік: Уладзімір Самойла, Антон Нэканда-Трэпка, Вячаслаў Багдановіч, Антон Луцкевіч, Мар'ян Пецюкевіч, Янка Шутовіч, Уладзіслаў Паўлюкоўскі...

Каму замінаў беларускі музэй у Вільні? Перш за ўсё тым сілам, якім перашкаджала праўда аб гістарычных традыцыях беларускага народу, а яна ж сьведчыла аб фармаваньні беларускага этнаса на працягу прынамсі тысячагодзьдзя.

У дачыненьні да беларусаў савецкая гістарычная навука ні ў чым не зьмяніла канцэпцыяў колішняй Расейскай Імпэрыі, якая разглядала наш край, як спрадвечную расейскую правінцыю. Больш за паўтысячы гадоў суіснаваньня Беларусі як раўнапраўнага партнёра ў складзе Вялікага княства Літоўскага разглядалася ёю як эпоха прыгнёту і няспыннага імкненьня далучыцца да «единой Матушки-России».

Збальшавізаваным гісторыкам Савецкай Літвы гэтая канцэпцыя ня дужа замінала ў стварэньні міта пра яе выключнае права на пераемнасьць традыцыяў ВКЛ. Гэтым беларусы пазбаўляліся сваёй гісторыі, асновы свайго адраджэньня. У свой час экспазыцыя Віленскага Беларускага музэю мэтанакіравана, пасьлядоўна і пераканаўча абвяргала ўсю гэтую антыгістарычную лухту. Музэй узгадоўваў нацыянальную самасьвядомасьць многіх пакаленьняў самых шырокіх колаў беларускага грамадзтва Вільні і Віленскага краю.

Калекцыі будучага музэю яшчэ ў 1911 годзе пабачыў гасьціўшы ў Вільні Максім Багдановіч. «Гэта ёсьць фундамэнт нашага адраджэньня! Гэта і за тысячу гадоў будзе сьведчыць аб нас!» — у захапленьні казаў паэт. Дык ці ж можна пакінуць зруйнаваным свой фундамэнт?

Іван Міхальчук.

## НАШАЯ ХРОНІКА

* * *

Беларусаў-віленчукоў няспынна турбуе бязьдзейнасьць камісіі па вырашэньні лёсу і адраджэньня беларускага музэю ў Вільні. Два тыдні таму назад быў накіраваны беларускаму боку ў Менску праект канцэпцыі музэю, распрацаваны актывам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, а днямі яшчэ адзін напамін аб неабходнасьці стварэньня тэрмінова рабочай групы, якая павінна пачаць працу непасрэдна ў Вільні. Пакуль што адчуваецца абыякавасьць да гэтай справы.

* * *

12 лістапада адбылося вельмі сумнае і трывожнае здарэньне. На ўласнай кватэры няведамымі злачынцамі быў па-зьверску зьбіты старшыня беларускай суполкі ў Салечніках Пятро Малафей. Калі пакалечаны і страціўшы прытомнасьць Пятро ачуняў і здолеў выклікаць па тэлефоне паліцыю, тая зьявілася толькі цераз паўтары гадзіны, ад чаго шансы знайсьці злачынцаў значна зьменшыліся. Бандыты нічога з дому не забралі, што прыводзіць да прыпушчэньня пра палітычныя матывы злачынства. Малафей у цяжкім стане знаходзіцца ў шпіталі. Распачата сьледзтва. Пра гэты факт паведамлены вышэйшыя ўлады Рэспублікі і Беларускае палітычнае прадстаўніцтва ў Літве. Няўжо тэрарызм перанёсься ў наш дагэтуль адносна спакойны край?

* * *

18 лістапада намаганьнямі Інстытуту літоўскай літаратуры і этнаграфіі ды Літоўскага асяродка Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у памешканьні Інстытуту адбылася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная 110-й гадавіне ад нараджэньня Вацлава Ластоўскага.

Канфэрэнцыя мела даволі багатую праграму. Было выслухана 8 дакладаў на розныя тэмы, прысьвечаныя жыцьцяпісу і розным аспэктам дужа разнастайнай дзейнасьці Ластоўскага, які быў пісьменьнікам, журналістам, гісторыкам і грамадзка-палітычным дзеячом беларускага адраджэньня першай паловы нашага стагодзьдзя.

З дакладамі выступілі госьці з Менску, у тым ліку прафэсар Анатоль Грыцкевіч, Вінцук Вячорка і спадарыня Хрышчановіч, астатнія дакладчыкі былі з Вільні. Закранутыя былі такія тэмы: Вільня і Коўна ў жыцьці Ластоўскага, палітычная сытуацыя ў Літве і Беларусі 1915-23-га гадоў, накід жыцьцяпісу, Ластоўскі ідэоляг беларускага моўнага пурызму, Ластоўскі — дзецям, Ластоўскі і літоўская літаратура, ідэалёгія старое дзяржаўнасьці ў нацыянальным адраджэньні. Ініцыятарам канфэрэнцыі была старшыня асяродка асацыяцыі спадарыня Альма Лапінскене. Пасьля канфэрэнцыі адбылася дыскусія, а затым усе прысутныя былі запрошаны на супольную каву.

* * *

19 лістапада ў залі Дзяржаўнага Дэпартамэнту нацыянальнасьцяў Літвы на вул. Раугіклос 25 адбылася публічная лекцыя на тэму «Беларускі жывапіс XII—XIX стагодзьдзяў», якую прачытаў мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, сябра Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Лекцыя суправаджалася паказам слайдаў з узорамі беларускага жывапісу. На высокім прафэсыйным узроўні і ў дастаткова папулярнай форме лектар выклаў гісторыю беларускага жывапісу ажно да мінулага стагодзьдзя ўключна. Пры гэтым ён прадэманстраваў на экране выявы лепшых работ ужо вядомых мастакоў, як Дамель, Хруцкі, Ваньковіч, Сілівановіч і іншыя. Можна меркаваць, што гэта першая і сапраўды дужа ўдалая спроба далейшай сэрыі лекцыяў, якую запрапанаваў мастак Харэўскі. Прысутнічала звыш сарака чалавек.

Як паведаміў старшыня клюба «Сябрына» Валянцін Стэх, цяпер заляй на вул. Раугіклос змогуць карыстацца беларускія суполкі кожную пятніцу.

* * *

І зноў жа 19-га лістапада ў салёне Літоўскага Фонду Культуры у 17 гадзін 30 хвілін адбылося адкрыцьцё выставы народных тканінаў з ваколіц вёскі Пелясa на Гарадзеншчыне. У гэтым маляўнічым краі на тэрыторыі Беларусі ёсьць літоўскія вёскі, якія дасюль захавалі сваю самабытнасьць, сваю этнічную адметнасьць, звычаі, мову і песьні... На вечарыне, якая была прымеркавана да адкрыцьця выставы, гучалі песьні фальклёрных гуртоў Пелясы і суседніх вёсак, дарэчы, прагучала і адна беларуская песьня. Імпрэзу падрыхтавала літоўская суполка пры Фондзе Культуры, якая дзейнічае ў Пелясе. Прысутнічаў паверан Рэспублікі Беларусь у Літве спадар Шчасны, які выступіў з кароткай прамовай, былі запрошаны і прадстаўнікі беларускага грамадзтва.

* * *

Бацькоўскі камітэт Сярэдняй Гуманітарнай Беларускай школы ў Вільні накіраваў ліст у Міністэрства адукацыі і культуры, дзе патрабуе ўласнага памяшканьня для школы. Як ведама, сёньня беларускія клясы месьцяцца пры расейскай школе, і немагчыма наладзіць належны выхаваўчы і адукацыйны працэс. У лісьце падкрэсьлена, што памяшканьне трэба выдзяліць менавіта цяпер, бо падрыхтоўка яго да новага навучальнага году запатрабуе нямала часу.

Аглядальнік.

## Віленскі скульптар Эдуард Падбярэзкі

Між народных мас Віленшчыны жыве і працуе таленавіты беларус — мастак Эдуард Падбярэзкі. Нарадзіўся ён на Магілёўшчыне ў 1947 годзе. Бацька — біёлаг, працаваў у школе. Маці паходзіла з Піншчыны. Жылі на Палесьсі, а пазьней перабраліся ў Відзы, Вогіна. Іх сын Эдуард, закончыўшы віленскую мастацкую школу, на стала абаснаваўся ў Вільні. Яму спадабаўся гэты край і яго спакойны, працавіты народ, цудоўныя краявіды, ціхія воды спакойнай Віліі і бурлівай Віленкі. Збудаваў у прыгарадзе дом, ажаніўся з добрай і шчырай Луцыяй, абзавёўся дзяцьмі.



Ня ўсё ўкладалася гладка. Былі завідныя шкоднікі, былі цяжкасьці. Але дружная сямейка ўсё перамагла. Творчы талент мастака гарэў няспынна. Прышлося больш часу прысьвяціць не пейзажам і абстрактным малюнкам, а рэстаўрацыі гінучай спадчыны тытанаў мастацтва мінулых эпохаў.

Асабліва ў запушчаных сьвятынях. Эдуард з захапленьнем вяртаў да жыцьця паблёкшыя і рассыпаючыяся шэдэўры, тварыў уласныя скульптуры. Яго рэдкі дар пачулі і ацанілі людзі іншых краін, зьявіліся заказы з Украіны ды іншых дзяржаваў. Талент Падбярэзкага сталеў і ўзбагачаўся.

Непазьбежна сутыкнуўся ён з дзіўнай творчасьцю мастака-самародка Язэпа Драздовіча, Рушчыца, Смуглевіча, Сяргіевіча, Варнаса і многіх іншых. Аднак у яго мастацкіх пошуках самаго сябе верх узяла скульптура. Хоць не закінуў Эдуард і партрэтнай спецыяльнасьці.

Старшыня віленскага Таварыства Беларускай Культуры вырашыў бліжэй запазнацца з мастаком. Прыязджаем да яго каля поўдня. Знаходзім яго ў невялічкай драўлянай майстэрні, як заўсёды занятага працаю.

Дзяцюк рослы, моцна скроены, выглядае даволі молада. Знаёмімся. Гутарыць на добрай беларускай мове, хоць знае таксама польскую і рассійскую, у пэўнай меры — літоўскую. У цэнтры майстэрні стаіць скульптура ў рост чалавека. Па вуглах і пры сьценах нямала іншых работ.

— Бедна ў мяне тут, — нясьпешна гаворыць гаспадар. — Людзі разьбіраюць, раскупляюць усё.

Мы ўзрушана маўчым. Скульптуры ствараюць моцнае ўражаньне. Вычуваецца подых божай іскры, прыроджанага рэдкага таленту.

— Мне шмат дала віленская Вячэрняя мастацкая школа. Там я пазнаў чароўнасьць рысунка, жывапісу, скульптуры, гісторыю мастацтва і яго вялікую ролю ў жыцьці людзей. Ацэнкі ў школе меў выдатныя. Закончыўшы навуку ў 1971 годзе, адразу атрымаў нямала заказаў на рэстаўрацыйныя работы. Вільня багата скульптурамі і фрэскамі вялікіх тварцоў мінуўшчыны. Вякі і войны многа разбурылі, патрабуецца тэрміновая дапамога, або проста паратунак. І хоць прыходзіць нямала заказаў на мае ўласныя кампазыцыі, прыходзіцца ратаваць старыя шэдэўры.

У 1975 годзе Эдуард ажаніўся. Мілавідная, стройная сп. Луцыя стала здольнай і працавітай супрацоўніцай. Падрастаюць дзьве дачушкі.

Просім Эдуарда запраектаваць і выканаць помнік вядомаму беларускаму драматургу, віленчуку Францішку Аляхновічу. Мастак згаджаецца, толькі папярэджвае, што зробіць гэта няскора, бо тэрмінова чакаюць выканчэньня даволі многія заказы. Прышлося пагадзіцца. Але цераз год на Росьсе зьявіўся манументальны помнік (пад чорны граніт) замардаванаму ў Вільні Аляхновічу, побач з помнікамі Дубейкоўскага, кс. Стэповіча, братоў Луцкевічаў.

Помнік выканаў мастак, улічваючы нашу беднасьць, бясплатна..

Андрэй Чэмер.

НА ЗДЫМКУ: віленскі мастак скульптар Эдуард Падбярэзкі.

***Паважаная рэдакцыя газэты «Эхо Литвы»!***

Мы, беларусы Віленшчыны, вельмі ўдзячны Вам і тым інстанцыям, якія далі магчымасьць друкаваць старонку «Беларус Віленшчыны» ў Вашай вельмі папулярнай газэце. У нас, чытачоў, з выхадам гэтай старонкі будзе магчымасьць больш даведацца аб грамадзкай і культурнай дзейнасьці нашых суполак, актыўна ўдзельнічаць у іх працы... Асабліва падтрымліваю заклік да цеснага супрацоўніцтва, дасылаць актуальныя зьвесткі і матэрыялы ня толькі з Вільні, але з вёсак і мястэчак, як гэта шырака практыкавалася на старонках даваенных газэт і часопісаў, якія выдаваліся ў Вільні.

Вельмі цікавыя гістарычныя зьвесткі пра Еўфрасіньню Полацкую, «Пазнайма свой горад», актуальныя сёньня разважаньні аб вяртаньні да правапісу Б.Тарашкевіча. На мой погляд ня трэба напамінаць аб варожых адносінах да нашай мовы, як «хамскай» у зацемцы «Тутэйшага».

Хацелася б пажадаць рэдакцыі посьпехаў у яе працы, а чытачоў заклікаць да актыўнага супрацоўніцтва.

С.Карабач

Вільня.

**Шаноўны чытач! Дзякуем за дабразычлівасьць і за ліст, які публікуем у скароце. Астатнія Вашы заўвагі таксама будуць прыняты пад увагу.**

Рэдкалегія.

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*

— кожную суботу ў 15.55 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё-перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— сьпеўкі беларускага хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.00 у Палацы культуры на Туравай гары, пакой 341.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях звaніце па тэлефонах: 35-55-95, 44-90-01, 75-86-06.




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 9

## Ад рэдакцыі

Шчыра віншуем вас, дарагія нашы чытачы, з Новым Годам! Напярэдадні надыходзячага 1994 году прымеце нашы сяброўскія пажаданьні моцнага здароўя, многа шчасьця і радасьці ў жыцьці, посьпехаў у працы і ўсіх Вашых справах! Няхай Новы Год будзе лепшы за мінулы, хай паўсюль запануе згода і мір, няхай ён паспрыяе зьдзейсьненьню ўсіх Вашых імкненьняў, надзеяў і жаданьняў!

Рэдакцыйная Рада хоча бачыць сярод Вас сваіх сяброў і дабразычліўцаў ды будзе намагацца рыхтаваць гэтую старонку з улікам Вашых пажаданьняў і крытычных заўвагаў. Мы разумеем, што сярод беларусаў Віленшчыны і ўсёй Літвы ёсьць людзі розных узростаў, з рознымі поглядамі і зацікаўленьнямі, — мабыць і на нашую старонку існуюць розныя погляды, а таму заклікаем да шчырага і канструктыўнага дыялёгу.

Хацелася б, каб нашы суайчыньнікі знайшлі ў гэтым лістку тое, што іх хвалюе і цікавіць, каб атрымалі адказы на пытаньні, якія ўзьнікнуць пры знаёмстве з нашымі публікацыямі. «Беларус Віленшчыны» гэта орган Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое ставіць сваёй мэтай задавальненьне культурных запатрабаваньняў беларусаў, што жывуць у межах гэтай дзяржавы, разьвіцьцё іх нацыянальнай самасьвядомасьці і захаваньне роднай мовы.

Усіх жадаючых заклікаем да цеснага супрацоўніцтва з Таварыствам. Папаўняйце яго рады! Адначасова выказваем тут падзяку ўсім тым, хто ўжо адгукнуўся на зьяўленьне нашае старонкі сваім допісам ці прынамсі тэлефонным званком. Спадзяемся, што наша сьціплая старонка, якая працягне сваё існаваньне і ў Новым Годзе, здабудзе больш посьпех дзякуючы актыўнасьці яе чытачоў.

Рэдакцыйная Рада.

## Вацлаў Іваноўскі

*(Да да 50-годзьдзя яго сьмерці))*



Сёлета ў сьнежні мінула 50 гадоў ад трагічнай гібелі прафэсара Вацлава Іваноўскага, аднаго з пачынальнікаў нашага адраджэньня. Адбылося гэта ў выніку тэрарыстычнага акту падчас другой сусьветнай вайны.

Сям'я Іваноўскіх з Лідчыны гэта тыповыя прадстаўнікі беларуска-літоўскага памежжа, дзе сярод карэнных жыхароў гэтага краю перакрыжоўваліся нацыянальныя традыцыі розных народаў. У сям'і Леанарда і Ядвігі Іваноўскіх было пяцёра дзяцей. Тры старэйшыя сыны Юры, Вацлаў і Тадэуш абралі розныя кірункі свайго нацыянальнага самавызначэньня, калі ва ўмовах царскай Расеі ліцьвіны, беларусы і палякі знаходзіліся ў становішчы прыгнечаных нацыянальных меншасьцяў.

Вацлаў Іваноўскі абраў шлях у беларускі вызваленчы рух яшчэ на самым пачатку нашага стагодзьдзя. Але пры гэтым цікава адзначыць той факт, што старэйшы за Вацлава брат Юры быў шырака вядомы ў польскім асяродзьдзі, змагаючыся ў радох польскай сацыялістычнай партыі, а малодшы за Вацлава брат Тадас Іванаўскас стаў выдатным літоўскім вучоным і ўсе свае сілы і талент дасьледчыка ў галіне прыродазнаўства аддаў служэньню адроджанай Літве. Ужо адно тое, што ён стварыў першы ў Літве заалягічны музэй, які сёньня носіць яго імя, сьведчыць пра прызнаньне яго вялікіх заслугаў.

Сёньня ў нас будзе гаворка пра постаць Вацлава Іваноўскага. Нарадзіўся ён 25-га траўня 1880 году ў маёнтку Лябёдка на Лідчыне, а згінуў у сьнежні 1943 году ў Менску. Яго заслугі для беларускага адраджэнскага руху бясспрэчна вельмі значныя. Яшчэ будучы студэнтам Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту, ён апынуўся ў беларускім асяродзьдзі і стаў адным з заснавальнікаў першай беларускай падпольнай палітычнай партыі, якая называлася сьпярша Беларускай рэвалюцыйнай, а пасьля Беларускай сацыялістычнай Грамадой.

У 1903 годзьдзе Вацлаў задумаў выдаць падпольную беларускую газэту «Свабода». Друкавалася яна ў Лябёдцы, дапамагаў брат Тадас, ня быў у баку ад гэтай справы і Юры. Калі апошняга арыштавалі ў Варшаве, дык пры вобыску ў яго знайшлі адзін асобнік «Свабоды». Нажаль увесь наклад у выніку склаўшыхся абставінаў так і не дайшоў да чытача. У Пецярбурзе Вацлаў быў адным з найбольш актыўных удзельнікаў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Пераехаўшы ў Вільню сьцісла супрацоўнічаў з Беларускім Выдавецкім Таварыствам.

Падчас першай сусьветнай вайны, асабліва пасьля перавароту ў Расеі, Іваноўскі актыўна ўключыўся ў грамадзка-палітычную дзейнасьць, быў прыхільнікам незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак калі намаганьні стварыць сваю незалежную дзяржаву ня зьдзейсьніліся, цалкам адыйшоў ад палітыкі, асеў у Варшаве і працаваў у галіне сваёй асноўнай спэцыяльнасьці, якой была хімія. Ён узначаліў катэдру арганічнай хіміі Варшаўскай Палітэхнікі, зрабіўся шырака вядомым спэцыялістам у галіне тэхналёгіі харчовых прадуктаў. Гэтую працу спыніла другая сусьветная вайна, калі Вацлаў Іваноўскі перад наступам немцаў пакінуў Варшаву і пераехаў у Вільню.

У экстрэмальных варунках другой сусьветнай вайны і акупацыйнага рэжыму Іваноўскі вярнуўся да грамадзкай дзейнасьці. Сьпярша працаваў старшынёю Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, а затым згадзіўся заняць пасаду бурмістра горада Менску. Менск вельмі пацярпеў падчас праходжаньня фронту, горад быў моцна зьнішчаны і насельніцтва знаходзілася ў дужа цяжкім становішчы. Карыстаючыся даверам акупацыйных уладаў ён шмат чым дапамагаў жыхарам сталіцы, але адначасова прымаў удзел у падпольным антыфашыстоўскім руху.

У канцы 1943 году Іваноўскі стаў немцам недаспадобы і яго вырашылі зьнішчыць, але пад выглядам тэрарыстычнага акту, да якога яны, маўляў ня мелі ніякага дачыненьня.

Гэта было зроблена з мэтаю, каб не выклікаць незадавальненьня насельніцтва, якое яго вельмі паважала, да таго ж ён карыстаўся вялікай пашанай у навуковых колах усяе Эўропы. Забойства было прыпісана бальшавіцкаму падпольлю, якое ахвотна ўзяло на сябе гэтую адказнасьць, выхваляючыся зьнішчэньнем аднаго калябаранта.

Усе гэтыя падзеі раскрываюцца ў кніжцы Юры Туронка на падставе дакумэнтальных архіўных матэрыялаў. Гэтая кніжка «Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі» выдадзена ў Варшаве па-польску у 1992 годзе і яна раскрывае яшчэ адну белую пляму нашай гісторыі.

Лявон Луцкевіч

## Наша хроніка

Мінулі Каляды, неўзабаве і Новы Год. У такі час узьнікае жаданьне азірнуцца на пройдзены шлях за ўвесь мінулы год, узважыць пралікі, страты і дасягненьні. Тутака, вядома, маецца на ўвазе грамадзкае жыцьцё беларусаў Віленшчыны.

Як у жыцьці паасобнага чалавека, так і ў жыцьці грамадзтва сьветлыя радасныя часіны перамяжоўваюцца з сумнымі мамэнтамі, з настроямі горкага разачараваньня, незадаволенасьці. Чаго было больш у існаваньні беларускага грамадзтва Літвы — аднназначна адказаць цяжкавата.

Беларускае асяродзьдзе ў Літве, якое на працягу доўгіх пасьляваенных дзесяцігодзьдзяў ня мела ніякіх арганізацыйных формаў, цяпер іх пакрысе набывае, імкнецца неяк згуртавацца. Гэты працэс праходзіць марудна і пакутліва. Але ўжо тое, што гэтае асяродзьдзе заўважана на Беларусі — факт вельмі знамянальны, гэтаму ёсьць наступныя сьведчаньні:

Якраз год таму назад — 19-20-га сьнежня ў Менску адбыўся Зьезд беларусаў блізкага замежжа. 29-30-га траўня быў III-ці зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Урэшце ў ліпені найбольш яскравы акцэнт сувязяў Беларусі з замежжам — гэта Першы Зьезд беларусаў сьвету — усё гэта таксама ў сталіцы Беларусі. Усе гэтыя вельмі прадстаўнічыя форумы ладзіліся з удзелам дэлегацыяў беларусаў Літвы, якія ня толькі прысутнічалі, але і актыўна ўдзельнічалі ў гэтых імпрэзах.

Каб падвесьці вынікі завяршаючагася году міжволі згадваюцца словы старшыні Таварыства Беларускай Культуры ў Літве спадара Нюнькі, сказаныя год таму назад на Зьезьдзе беларусаў блізкага замежжа: — цытую — «Лічым маральным абавязкам Літвы рэальна дапамагчы беларусам адрадзіць тое, што страчана на працягу апошніх 50-ці гадоў. Трэба неадкладна адкрыць прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Літве, якое магло б вырашаць пытаньні і абараняць інтарэсы беларусаў на дзяржаўным узроўні. Не пакідайце без увагі сваіх братоў, якія супраць волі апынуліся за мяжой, якой у гісторыі ніколі не было». — канец цытаты. Што ж з гэтага спраўдзілася?

Перш за ўсё сапраўды адкрылася прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Літве. Трэба прызнаць, што пасольства не цураецца кантактаў з тутэйшым грамадзтвам, дапамагае па-меры сваіх магчымасьцяў. Праўда, асноўная праца пасольства — гэта турбота пра тых расейскамоўных прышэльцаў з былога Савецкага Саюзу, якія трапілі сюды ў пошуках сыцейшага жыцьця і адчулі сябе няўтульна ў незалежнай Літве ды шукаць, дзе бы лепш уладкавацца ня ведаючы ні беларускай ні літоўскай мовы.

Ці незалежная Літва рэальна дапамагае беларусам адрадзіць тое, што страчана тут на працягу апошніх 50 гадоў? — пакуль што станоўча адказаць цяжка, пераважаюць даўнейшыя стэрэатыпы. А сучасная Беларусь не перастае лічыць іх пасынкамі, як пры сучаснай уладзе і сваіх уласных нацыянальна сьвядомых грамадзян.

А цяпер зірнем на разачараваньні. У справе адраджэньня ў Вільні беларускага музэю, якая вырашаецца на міждзяржаўным узроўню, на працягу ўсяго году рэальных зрухаў не адбылося. Прычыны: адмоўнае становішча літоўскага боку, абыякавасьць беларускага боку і толькі шчырая зацікаўленасьць мясцовых беларусаў, з якімі сур'ёзна ніхто ня лічыцца. — Стварэньне адной сярэдняй беларускай школы ў Вільні закончылася полумерай — паралельнымі беларускімі клясамі пры расейскай школе. Гэта разачараваньне, бо такое становішча зьяўляецца антырэклямай аднаўленьня беларускага школьніцтва, а канкрэтных пэрспэктываў на наступны год яшчэ няма. — Заплянаваная Таварыствам Беларускай Культуры ўстаноўка ў Вільні чатырох мэмарыяльных табліц дзеячам беларускай культуры не рэалізавана дзякуючы безадказнасьці іх выканаўцы. Застаецца надзея на будучы год.

Не вырашана пытаньне памешканьня для беларускага культурнага цэнтру. Беларускія суполкі ў Літве ўсё яшчэ бяздомныя.

А што ж рэальна адбылося? — 14-га студзеня ўстаноўчы сход Таварыства Беларускай Школы, якое дасюль не зарэгістравана і канкрэтнай дзейнасьці не праяўляе.

31-га студзеня — справаздаўча-выбарчы сход Таварыства Беларускай Культуры. Арганізацыя ў асноўным ажыцьцяўляе сувязі з прадстаўнікамі ўладаў па культурна-асьветных пытаньнях. Выдае адзін раз у тыдзень сваю інфармацыйную старонку. Завяршае рамонт невялічкай залі ў доме па Жыгіманту 12, які быў раней прызначаны, але лёс яго яшчэ ня высьветлены. Тады спадзяецца шырэй разгарнуць сваю дзейнасьць.

20-га лютага — справаздаўча-выбарчы сход клюбу аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына». Пры клюбе ёсьць хор.

Адбыліся наступныя імпрэзы: 24-26 лютага гастролі тэатра аднаго актора «Зьніч» з Менску. Тры спэктаклі Галіны Дзягілевай. 25-га сакавіка — сьвяткаваньне 75-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, а 27-га сакавіка адкрыцьцё помніка братам Луцкевічам на могілках Росы. 20-га красавіка «Сябрына» наладзіла Вялікодную вечарыну для дзяцей. 24-га чэрвеня ў Вільні выступіў фальклёрны ансамбль «Дзяньніца» з Магілёўшчыны. 1-га верасьня было ўрачыстае адкрыцьцё беларускіх клясаў з удзелам высокага начальства. 22-га кастрычніка вечарына, прысьвечаная 100-годзьдзю Паўліны Мядзёлкі са спэктаклем п'есы «Паўлінка» Янкі Купалы ў выкананьні тэатру «Дыяген» з Пінску. 18-га лістапада — навуковая канфэрэнцыя Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў да 110-ай гадавіны Вацлава Ластоўскага. Яшчэ ў лістападзе адна папулярная лекцыя мастацтвазнаўца Харэўскага аб беларускім жывапісу. Ці гэта шмат? — Бадай малавата.

Але ж віленчукі жывуць надзеямі і ня трацяць аптымізму ў чаканьні Новага Году!

Аглядальнік

## З новым годам

*З лесу ёлачка прыйшла*
*І чароўнай казкай стала,*
*Запах смол з марозу прынясла*
*Толькі снегу з ветрам не забрала.*
*І стаіць прыгожая такая*
*Быццам не зрубілі карашок.*
*Да сябе у госьці запрашае,*
*Аганькамі сьвеціцца вяршок.*
*Дзед Мароз тут раптам апынуўся,*
*На вяселле ёлачкі зайшоў.*
*Бег за ею з лесу — азірнуўся,*
*З Новым годам ён сустрэўся зноў.*
*Той таксама крочыў на вяселле*
*Разам са Снягурачкай-красой.*
*У зямной карэнь — апасля пахмелля*
*З сонейкам, паветрам і вадой.*

В.Хамянюк.

## Адказваем нашым чытачам

Некаторыя чытачы нашай старонкі зьвятраюцца з крытычнымі заўвагамі адносна прынятай у нашым выданьні граматыкі, а больш дакладна, правапісу беларускай мовы. Таму лічым патрэбным нагадаць, што яшчэ ў першым нумары «Беларуса Віленшчыны» ў артыкуле прысьвечаным юбілею граматыкі Браніслава Тарашкевіча рэдакцыя абвесьціла аб сваім намеры карыстацца якраз яе правіламі. Аўтарам спамянутага артыкула зроблена кароткае, але, на наш пагляд, цалкам дастатковае, абгрунтаваньне прынятага намі рашэньня. Нажаль, у сувязі з некаторымі цяжкасьцямі арганізацыйнага характэру ў некалькіх першых нумарох выданьня нам ня ўдалося ўхіліцца ад супярэчнасьцяў у правапісе, за што мы шчыра перапрашаем нашых чытачоў.

Аднachасова яшчэ раз пацьвярджаем свой намер і далей карыстацца тарашкевіцай прынамсі да часу, калі ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь будуць прынятыя новыя нарматывы беларускай граматыкі і правапісу.

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*

— кожную суботу ў 15.55 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— сьпеўкі беларускага хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.00 у Палацы культуры на Туравай гары, пакой 341.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 10


## Са Сьвятам!...

Сёньня ўсе хрысьціне, якія прытрымліваюцца старога стылю, або, кажучы інакш, юльянскага календара, адзначаюць адно з самых сьветлых і радасных сьвятаў — Каляды. Карэньні яго глыбока, пранікаюць у мінулыя стагодзьдзі, яшчэ ў дахрысьціянскі пэрыяд гісторыі. З часам хрысьціянская царква зьвязала Каляды з памяцьцю аб нараджэньні Ісуса Хрыста.

У таталітарнай атэістычнай дзяржаве, якой быў Савецкі Саюз, усё, што хаця бы пасрэдна было зьвязана з рэлігіяй, забаранялася і бязжаласна зьнішчалася. Не абмінула свайго цяжкога лёсу і традыцыя Каляд. Але нягледзячы на шматгадовы зьдзек выстаяла і захавалася ў нашым народзе. А сёньня ідзе працэс яе адраджэньня.

Калядныя абрады і звычаі шматлікія і разнастайныя. Яны працягваліся на пэрыяд амаль двух тыдняў, пачынаючы ад дня Нараджэньня Хрыста да Вадохрышча. Важнейшыя з іх Куцьця, ёлка і калядаваньне.

Куцьця гэта ўрачыстая сямейная вячэра напярэдадні першага дня Каляд. Характэрная асаблівасьць яе ў тым, што на вячэру рыхтуецца вялікая колькасьць стравaў, абавязкова посных. У памяць таго, што згодна з Евангельлем Ісус Хрыстос нарадзіўся ў ясьлях, на стол пад абрус кладуць сена. Галоўнай стравай лічыцца ячневая каша, каторая і завецца ўласна куцьцёй. Другія папулярныя стравы для гэтай вячэры гэта аўсяны ці журавінавы кісель, салодкае макавае малако з пячэньнем-сьліжыкамі, бульбяная каша (камы) з грыбной падліўкай, посны боршч з грыбнымі «вушкамі» і шмат іншых. Ля сьвяточнага стала прынята было заўсёды пакідаць вольнае месца для выпадковага госьця — вандроўніка.

У вечар і ноч на Куцьцю адбывалася таксама варажба. Маладыя дзяўчаты варажылі на суджанага, хлопцы — на нявест, а гаспадары зацікаўлены былі даведацца, якое чакае ўсіх надвор'е і ці вялікі прадбачыцца зьвязаны з ім ураджай.

Другі пасьля Куцьці, важнейшы ў наш час, атрыбут Каляд — прыбраная цацкамі, сьвечкамі ці электрычнымі гірляндамі ёлка, увайшла ў калядную традыцыю ня так даўно, бо аж у пачатку XIX стагодзьдзя.

Надта прыгожым і радасным быў калісь звычай калядаваньня, каторы, нажаль, сёньня ў заняпадзе. Маладыя хлопцы і дзяўчаты, гэтак званыя калядоўшчыкі, вандравалі з песьнямі па вёсцы, віншавалі гаспадароў і іх сем'і, за што атрымлівалі пачастунак. Звычайна калядоўшчыкі хадзілі са зьвяздой у руках, у памяць той зоркі, каторая прывяла трох валхвоў у Віфлеем, месца нараджэньня Хрыста. Часта яны надзявалі маскі, напрыклад казы ці мядзьведзя, і перапраналіся ў шкуры гэтых жывёлаў.

Духоўны сэнс Калядных Сьвятаў накіраваны на тое, каб людзі забыліся пра ўзаемныя сваркі спрэчкі і крыўды, каб запанавала паміж імі згода, лад і гармонія. Пастараймася-ж сёньня і мы ў гэтыя калядныя дні стаць больш прыхільнымі, добрымі, праўдзівымі і сумленнымі ў адносінах да другіх, а калі і яны адкажуць нам тым самым, усім нам стане лягчэй і весялей на душы.

Віншуем Вас са Сьвятам, дарагія чытачы, і жадаем здароў'я, радаснага настрою і шчасьця.

Рэдакцыйная рада.



## Андрэйкі-Міколкі

*(Успамін з мінулага)*

З даўных часоў у беларусаў існаваў звычай шанаваць памяць папулярных у народзе сьвятых Андрэя Першазванага і Міколы-Цудатворца. Згодна з традыцыяй дні іх памяці 13 і 19 сьнежня адзначаліся ў народзе асаблівымі абрадамі. На Андрэя вясковая моладзь зьбіралася, каб наладзіць супольную варажбу. Мікола-ж лічыўся апякуном земляробства, а таксама ўсіх абяздоленых. Яго постаць ўвайшла з часам у калядную традыцыю ў асобе Дзеда Мароза.

Народныя традыцыі не забываліся і беларускай моладзьдзю ў міжваеннай Вільні. А было яе тут у той час дастаткова: вучні, студэнты, сэмінарысты.

У Віленскай беларускай гімназіі звычайна на Міколу ладзіліся дзіцячыя ёлкі, бо на Каляды ня было як іх рабіць. У сувязі з школьнымі канікуламі амаль усе вучні гімназіі разьяжджаліся па ўсіх кутках Заходняй Беларусі, адкуль паходзіла бальшыня з іх і дзе стала жылі іх бацькі. У студэнтаў, каторыя з той самай прычыны таксама адсутнічалі ў Вільні ўвесь калядны пэрыяд, у гэтыя дні адбываліся звычайна традыцыйныя вечарыны, каторыя і называліся Андрэйкамі-Міколкамі.

На адной з такіх вечарын, якую ў 1938 годзе ладзіў для сваіх сяброў Беларускі студэнцкі саюз, давялося пабыць і мне, у той час яшчэ не студэнту, а толькі ліцэісту. Уражаньне, якое я вынес з яе, засталося ў маёй памяці на ўсё жыцьцё.

Вечарына адбывалася на Антокалі ў майстэрні выдатнага беларускага мастака Пятра Сяргіевіча. Майстэрня была ня надта прасторная, але даволі ўтульная. Яна займала мансарду невялікага драўлянага дамка, які, нажаль, не захаваўся да нашых часоў. Гасьцінны гаспадар паразсоўваў па кутах свае малюнкі і эскізы, каб зрабіць больш месца для гасьцей, якіх сабралося шэсьцьдзесят, а мо і болей. Усе сядзелі ля хораша прыбраных сталоў. Застольле было ня надта багатае з увагі на час посту. Пілі выключна гарбату. Алькаголю і курыва не было нават у паміне.

Мастацкая праграма вечарыны ўзьнікала спантанна. Удзельнікі пялі беларускія песьні, наперамен вясёлыя і сумныя, паважныя і жартоўныя, куплеты і прыпеўкі. Сьпеў пераплятаўся дэклямацыяй вершаў, жартамі, вострымі рэплікамі. Сам гаспадар, звычайна вельмі паважны і сьціплы, выступаў з арыгінальнымі нумарамі жартоўнай пантамімы, у гледачоў каторых ад сьмеху балелі жываты. Для скокаў ня было месца. Ды ніхто з удзельнікаў не пазволіў бы сабе скакаць у час посту.

Дзяўчаты згодна з народнай традыцыяй ладзілі варажбу: лілі ў ваду разтопленыя воск, або палілі на талерачцы зкомканую ў далонях паперу, а пасьля па абрысу кавалачкаў воску ці попелу ад паперы мяркавалі пра свой лёс. І рабілася ўсё гэта весела, з гумарам. Вечарына працягвалася да паўночы. А я слухаў, глядзеў і ўбіраў у сябе ўсё як заваражаны.

Такія імпрэзы беларускія студэнты ладзілі ў міжваенныя часы што год. Ня блага было бы і сёньнешнім нашым студэнтам адрадзіць гэту цікавую традыцыю.

К.Л.

## НАШ КАЛЯНДАР

*Дзеячы беларускай культуры, што нарадзіліся ў студзені і якіх жыцьцёвы шлях зьвязаны з Вільняю.*

*1-га* Яўхім Карскі (1861-1931) — філёляг, этнограф, фальклярыст; родам з Горадзеншчыны, нейкі час жыў у Вільні; пачынальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, аўтар шматлікіх навуковых працаў.

*2-га* Канстанцыя Буйла (1893-1986) — паэтка, пэдагог; нарадзілася ў Вільні, супрацоўнічала ў газэце «Наша Ніва», першы зборнік твораў надрукаваны ў Вільні; аўтар шырака вядомай песьні «Люблю наш край».

*4-га* Ядвігін Ш. — Антон Лявіцкі (1869-1922) — пісьменьнік; жыў у Вільні, працаваў у рэдакцыі газэты «Наша Ніва», першы зборнік яго твораў надрукаваны ў Вільні; пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

*5-га* Адам Станкевіч (1891-1949) — каталіцкі сьвятар, родам з Ашмяншчыны; рэлігійны, палітычны і культурна-асьветны дзеяч, лідэр беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, выдавец, публіцыст, адзін з дырэктараў Віленскай Беларускай Гімназіі; ахвяра бальшавіцкага тэрору.

*20-га* Браніслаў Тарашкевіч (1895-1938) — філёляг, грамадзка-палітычны дзеяч; родам з-пад Вільні, вучыўся і працаваў у Вільні; стваральнік беларускай граматыкі, лідэр сялянска-работніцкай Грамады, адзін з дырэктараў Віленскай Беларускай Гімназіі; расстраляны бальшавікамі.

*20-га* Рыгор Шырма (1892-1978) — харавы дырыжор, фальклярыст, музычны і грамадзкі дзеяч; родам з Пружаншчыны; жыў і працаваў у Вільні, дзе стварыў беларускі народны хор, сябра БНТ і ТБШ, выдавец і публіцыст, быў рэгентам царкоўнага хору Прачысьценскага сабору ў Вільні, пазьней старшыня Саюзу кампазытараў Беларусі.

*29-га* Уладзімір Самойла (1878-1940) — публіцыст, культурна-грамадзкі дзеяч; родам з-пад Менску, жыў у Вільні з 1919 г., супрацоўнічаў у беларускім пэрыядычным друку, ахвяра бальшавіцкага тэрору.

*30-га* Антон Луцкевіч (1884-1941) — літаратурны крытык, публіцыст; нарадзіўся ў Шаўлях, адзін са стваральнікаў Бел. сацыялістычнай Грамады і газэты «Наша Ніва», старшыня Ураду і міністар замежных справаў БНР; выкладчык Віл. Бел. Гімназіі, старшыня Бел. Навуковага Т-ва; ахвяра бальшавіцкага тэрору.

Апрацаваў Іван Міхальчук

## НАША ХРОНІКА

27-га сьнежня ў Вільні ў залі Дэпартамэнту нацыянальнасьцяў — вул. Раўгіклос 25 — адбылася беларуская калядная вечарына. Сабралася каля паўсотні прадстаўнікоў тутэйшага грамадзтва, многія прыйшлі з дзеткамі, нават зусім маленькімі. Праграму вечара запоўнілі госьці з Горадні. Гэта быў невялічкі фальклёрны ансамбль «Дударыкі» палацу дзіцячай і юнацкай творчасьці пад кіраўніцтвам Яўгена Петрашэвіча. Яго склад: два хлопчыкі і дзяўчынка, сам кіраўнік і яго сястра. У праграме песьні, скокі, ігра на народных інструмэнтах, у асноўным з каляднай тэматыкай. Дзед Мароз і Сьнягурка былі мясцовыя. Прысутных павітаў паверaны Рэспублікі Беларусь спадар Шчасны. На вечарыне дзейнічаў буфэт. Гульні і скокі адбываліся пад акардэон.

29-га сьнежня Вільню наведаў прадстаўнік Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» спадар Лецка і скульптар з Менску спадар Міронччык. Яны прывезьлі тры мэмарыяльныя таблiцы дзеячоў беларускае культуры, якія будуць устаноўлены ў Вільні на дамох, дзе яны жылі. Сярод іх Рыгор Шырма, Браніслаў Тарашкевіч і Янка Купала. Гэта вынік ініцыятывы Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, фінансавай дапамогі Згуртаваньня «Бацькаўшчына» і творчай працы скульптара Міронччыка. Яшчэ адна памятная дошка, прысьвечаная Кастусю Каліноўскаму будзе прывезена пазьней. Устаноўку табліц бяруць на сябе гарадзкія ўлады, а час іх адкрыцьця будзе вырашаны Радай Таварыства Беларускай Культуры. Такім чынам надзея віленчукоў на ўшанаваньне памяці заслужаных землякоў пачынае спраўджацца.

Калі ўстаноўка мэмарыяльных табліц ад надзеяў пачынаеператварацца ў рэальнае зьдзяйсьненьне, дык праблема аднаўленьня ў Вільні беларускага музэю пакуль што з месца не скранулася. Насьцярожвае ня толькі абыякавасьць, але і недастатковая кампэтэнтнасьць беларускага боку камісіі, асабліва яе старшыні.

Віленчукі, якія ўваходзяць у склад камісіі, адназначна выказаліся за аднаўленьне музэю з захаваньнем яго першапачатковай назвы і перадалі ў Менск свой праект канцэпцыі. У ім сказана, — цытую: «Адраджэньне музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні ажыцьцяўляецца на аснове тых экспанатаў, якія ўваходзілі ў яго фонды перад яго ліквідацыяй». Тымчасам старшыня камісіі сп. Гілеп на старонках газэты «Культура», што было пазьней перадрукавана амэрыканскім «Беларускім дайджэстам» выказаў процілеглы погляд: — цытую — «Музэй сапраўды трэба ствараць, а не аднаўляць. Таму, што гэта быў невялічкі музэйчык, які мясціўся ў двух-трох пакойчыках, і, канешне, гэта быў збор экспанатаў, а не экспазыцыя».

Гэта сьведчыць пра няведаньне прадмета. Музэй складаўся з шасьці экспазыцыйных пакояў, двух пакояў з бібліятэкай, аднаго вялікага пакою, дзе быў архіў і аднaчасова рабочы кабінэт. Вядома, памешканьне для той колькасьці экспанатаў было недастатковым, але меней навіта каштоўнасьцю музэю была яго экспазыцыя, якая сьведчыла пра разнастайнасьць і багацьце беларускай культуры. Пра музэй маецца шмат публікацыяў ды жывуць яшчэ тыя людзі, якія добра ведаюць, якім быў той зьліквідаваны музэй.

### ШКАЛЯРСКІЯ НАВІНЫ

Вучні і выкладчыкі Віленскай беларускай школы весела адзначылі сьвята Новага Году. Сьвяткаваньні праходзілі асобна для малодшых і для старэйшых класаў. Паміж іншым былі пад час сьвяткаваньняў і традыцыйныя калядныя забавы з маскамі «казы» і «мядзьведзя», адбыўся паказ батлейкі, лялечнага тэатра. Ад фірмы «Гуда» кожны клас атрымаў смачны торт, а супрацоўнікі пасольства Беларусі падаравалі дзецям цікавыя кніжкі на роднай мове.

Цяпер у школе вакацыі. Група вучняў і выкладчыкаў выправіліся на экскурсію ў Менск.

## Чаму мы сьвяткуем двойчы?

*(з гісторыі калянадара)*

Адарваны апошні лісток каляндара на 1993 год. А ці хоць у некага з віленчукоў зьявіўся новы беларускі каляндар? Бадай што не, а гэта крыўдна. На пэрыядычнасьці і ўліку часу збудавана ўсё нашае жыцьцё і без каляндара абыйсьціся нельга. Дык што ж такое каляндар?

Сама назва каляндар узята з лацінскае мовы. Календамі называлі месяцы, а словам календарыюм называлі разьліковую кніжку, паводле якой у Старажытным Рыме даўжнік плаціў працэнты ў першы дзень кожнага месяца. У шырэйшым значэньні каляндаром называецца сыстэма зьлічэньня прамежкаў часу, якая выкарыстоўвае пэрыядычныя зьявы прыроды: кручэньне зямлі вакол сонца і вакол уласнае восі, рух месяца вакол зямлі. Гэтыя тры зьявы прывялі ў розных народаў да стварэньня трох тыпаў каляндара: месячнага, месячна-сонечнага і сонечнага.

Месячныя каляндары стасаваліся ў народаў краін Азіі і Афрыкі. У Вавілоне, Кітаі і Грэцыі карысталіся некалі месячна-сонечнымі каляндарамі і ўрэшце сонечны каляндар замацаваўся ў старажытным Эгіпце яшчэ ў IV веку да нашай эры. З некаторымі мадыфікацыямі мы і сёньня ўжываем сонечны каляндар, які ўсё ж не цалкам дасканалы і патрабуе пэрыядычнай карэкціроўкі часу.

Вось менавіта неабходнасьць гэтай карэкціроўкі і прывяла да ўзьнікненьня старога і новага стылю, а таму многія сьвяты і Новы год адзначаецца па старому стылю з амаль двухтыднёвым спазьненьнем. Сучасны каляндар быў уведзены ў Старажытным Рыме за часоў імпэратара Юлія Цэзара і таму ён называецца Юліянскім. У ім было ўлічана, што год мае 365 і адну чвэрць сутак, што прывяло далей да ўвядзеньня высакосных гадоў з адным лішнім днём кожны чацьверты год. Але ж і гэта аказалася недастаткова дакладным, бо праз кожныя 128 гадоў набягала розьніца на адны суткі.

У XVI ст. пры Папе Рымскім Рыгоры XIII-ым была зроблена папраўка і гэты каляндар сталі называць Грыгарыянскім, або каляндаром новага стылю. На сёньняшні дзень розьніца склалася ў 13 дзён. Праваслаўная царква захавала Юліянскі каляндар ці стары стыль, — адсюль і розьніца ў датах адзначэньня сьвятаў. Каталіцкая царква і пратэстанцкія канфэсіі паўсюль ужываюць Грэгарыянскі каляндар або новы стыль.

Дык 14-га студзеня будзе нагода адзначыць яшчэ раз надыход Новага Году, а ўвечары перад гэтым днём зладзіць Шчодрую Куцьцю. Аматары сьвяткаваць, а хто ж ня любіць сьвяточных урачыстасьцяў, будуць мець яшчэ адну нагоду сесьці за сьвяточны стол.

Беларускія каляндары-кніжкі пачалі друкавацца ў Вільні з 1910 году пры рэдакцыі газэты «Наша Ніва», а адрыўныя каляндары з 1926 году па ініцыятыве пасьменьніцы Зоські Верас і кнігара Станіслава Станкевіча. У іх заўсёды для беларусаў даваўся адлік часу па старому і новаму стылю.

Лявон Луцкевіч

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*

— кожную суботу ў 15.55 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.

— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».

— сьпеўкі беларускага хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.00 у Палацы культуры на Туравай гары, пакой 341.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 11

Таварыства Беларускай Культуры ў Літве паведамляе, што 20-га студзеня г.г. адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё мэмарыяльнай таблікцы ў гонар беларускага музычнага і культурна-грамадзкага дзеяча Рыгора Шырмы.

Урачыстасьць пачнецца у 14-00 гадзін каля дому на вуліцы Майроніса 13 (насупраць Прачысьценскага сабору). Акадэмія, прысьвечаная памяці Рыгора Шырмы адбудзецца ў залі Саюза Кампазытараў Літвы — вул. Міцкевіча 29. Пачатак у 15-30 гадз.

## Некалькі слоў аб гісторыі санаторыя «Беларусь» у Друскеніках

Яшчэ ў 1939 годзе быў створаны дом адпачынку для супрацоўнікаў Акадэміі Навук БССР у Друскеніках. Горад у гэтым часе ўваходзіў у склад Беларускай ССР, адміністрацыйна належыў да раёну Парэчча Горадзенскай вобласьці. Пасьля перадачы восеньню 1940 году гораду Літоўскай ССР дом адпачынку літоўскаму боку не перадаваўся і дзейнічаў да пачатку вайны як беларуская ўстанова.

Пасьля заканчэньня другой сусьветнай вайны са згоды ўрада Літоўская ССР спэцыяльнай пастановай Савета Міністраў БССР у чэрвені 1946 году на базе дома адпачынку быў створаны санаторый «Беларусь». З 1949 году пры санаторыі працуе дзіцячае аддзяленьне, якое перарасло ў санаторый.

Спачатку санаторый мясьціўся ў 14-ці будынках рознай велічыні каркасна-засыпнога тыпу, ацяпленьня ў іх не было. Паступова на іх месцы за сродкі СМ БССР, Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства адукацыі былі пабудаваны сучасныя будынкі. Будаваліся таксама дамы і асобныя кватэры для супрацоўнікаў санаторыя. Укладаліся сродкі і ў інфрасруктуру гораду. Усе будаўнічыя работы вялі гарадзенскія будаўнікі, з Горадні прывозіліся і будаўнічыя матэрыялы.

Лячыліся ў санаторыі дзеці з Беларусі, некаторы час — начальнікі розных беларускіх установаў. Санаторый заўсёды меў статус беларускай рэспубліканскай установы, носіць такую назву і цяпер. Лечацца ў ім дзеці і дарослыя, у аснаўным пацярпеўшыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Знаходзіцца санаторый на паўночнай ускраіне гораду і займае толькі 5 гэктараў зямлі. У цяперашні час ён, бадай, адзіны санаторый ў горадзе, які працуе стабільна і дае працу каля 400 чалавекам. Працуюць людзі розных нацыянальнасьцяў, трэцюю частку іх складаюць літоўцы.

Пры санаторыі ў Друскеніках дзейнічае гуртох Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Спадзяёмся, што лёс санаторыя будзе вырашаны справядліва ўрадамі дзьвух незалежных краін — Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь.

Іван Ломаць,
лекар санаторыя.

## РЫГОР ШЫРМА



Сярод віленчукоў, якія грунтоўна ўпісаліся ў тутэйшае асяродзьдзе і пакінулі па сабе добрую памяць, ёсьць і такія, каму давялося пакінуць Вільню дзеля аб'ектыўных прычынаў. Сёньня ў нас будзе гутарка пра аднаго з такіх віленчукоў, удзячная памяць аб якім трывала захавалася ў нашым горадзе. Гэта Рыгор Шырма, выдатны фальклярыст, музыкавед і харавы дырыжор, які пазьней стаў шырака вядомы ня толькі ў Вільні, але ва ўсёй Беларусі і паза яе межамі.

Дык ня дзіва, што Таварыства Беларускай Культуры ў Літве яшчэ пазалетась, напярэданьні 100-гадовага юбілею Шырмы, выступіла з ініцыятывай устанавіць мэмарыяльную таблiцу на доме, дзе маэстра жыў больш дзесяці гадоў. Ініцыятыву падтрымаў Саюз кампазытараў Літвы і гарадзкія ўлады Вільні. Узялося дапамагчы Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і ёсьць рэальная надзея, што неўзабаве гэта ўдасца ажыцьцявіць.

Рыгор Шырма нарадзіўся 20-га студзеня 1892 году. Родам ён з вёскі Шакуны на Пружаншчыне, але яго станаўленьне як беларускага культурна-грамадзкага дзеяча адбылося менавіта ў Вільні. Здольны вясковы хлапчук з маленства меў вялікую схільнасьць да музыкі, да сьпеву. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю выбраў спэцыяльнасьць пэдагога. Скончыў двухгадовыя пэдагагічныя курсы пры Сьвянцянскім гарадзкім вучылішчы, затым Сядлецкі настаўніцкі інстытут. Вайна закінула яго на чужыну, але толькі як скончылася ваенная завіруха і зьявілася магчымасьць, вярнуўся ў сваю родную Пружаншчыну. Працаваў настаўнікам, але ня спыняў заняткаў у галіне сваёй улюбёнай музыкі, зьбіраў народныя песьні, арганізаваў самадзейныя калектывы. Многія сабраныя ім матэрыялы былі пазьней апрацаваны знанымі кампазытарамі і ўзбагацілі скарбніцу беларускай прафэсійнай музыкі.

Калі ў Шырмы навязалася больш цесная сувязь з дзеячамі нацыянальна-вызваленчага руху, ён у 1926 годзе пераехаў у Вільню. Яму было прызначана сьціплае памешканьне над самай брамай у Базыльянскіх мурох, дзе перад тым жыў пісьменьнік Максім Гарэцкі. Базыліянскія муры былі ж тады цэнтрам беларускай культуры ў Вільні. Шырма пачаў працаваць у Віленскай Беларускай Гімназіі, якая мясьцілася ў тым самым панадворку, стаў выхавацелем у інтэрнаце гімназіі, выкладаў сьпеў, арганізаваў вучнёўскі хор.

Неўзабаве Шырме запрапанавалі пасаду рэгента хору ў Прачысьценскім саборы, які зрабіўся адным з лепшых царкоўных хораў гораду. Там ён меў сталы заробак ды атрымаў магчымасьць перабрацца ў царкоўны дом насупраць сабора, дзе і мае быць устаноўлена памятная дошка.

Па ініцыятыве Рыгора Шырмы ў Вільні ўзьнік Беларускі Народны хор, высокапрафэсыйны вакальны калектыў, вакол якога канцэнтравалася беларускае музычнае жыцьцё. У хоры сьпявалі студэнты гімназісты, таксама і пеўчыя царкоўнага хору. Шырма супрацоўнічаў з кампазытарам Канстанцінам Галкоўскім, опэрным сьпеваком Міхасём Забэйдай-Суміцкім, які часта наведваў Вільню. Адначасна ён актыўна ўдзельнічаў у культурна-грамадзкім жыцьці, уваходзіў у склад Беларускага Навуковага Таварыства, дзейнічаў у Таварыстве Беларускай Школы, пісаў артыкулы для часопісаў, займаўся выдавецкай дзейнасьцю. Два зборнікі народных песень у апрацоўцы для чатырохгалоснага хору ён выдаў у Вільні яшчэ ў міжваенным часе. Рэдагаваў таксама часопіс Таварыства Беларускай Школы «Беларускі Летапіс».

У 1939 годзе Шырма пакінуў Вільню. Пераехаў у Беласток, які ўваходзіў тады ў склад Савецкай Беларусі, дзе стварыў народны ансамбль песьні і танца. Калі ў 1941 годзе пачалася вайна, ансамбль быў на гастролях і таму ня трапіў пад акупацыю. Ды ўсё ж Шырма не пазьбегнуў канфліктных сытуацый з органамі дзяржаўнай бясьпекі бальшавіцкага рэжыму. Яго таксама арыштоўвалі, мусіў і ён пакутваць за свае патрыятычныя памкненьні. Але пасьля сьціслай праверкі яму пашчасьціла выйсьці на волю. Зрэшты і за польскай акупацыі яму давялося паспрабаваць вастрогу.

Дзякуючы свайму вялікаму таленту, напорыстасьці і няўтомнай працы Шырма дасягнуў прызнаньня, стаў народным артыстам рэспублікі і саюзу, шмат гадоў узначальваў Саюз кампазытараў Беларусі. У рэпэртуары акадэмічнай харавой капэлы, якой кіраваў Шырма, былі ня толькі беларускія песьні, але і творы сусьветнай харавой клясыкі. Пасьля сьмерці Шырмы дзяржаўнай харавой капэле было нададзена яго імя.

Са сваёй капэлай Шырма неаднойчы наведваў Вільню. У 1983 годзе была выдадзена пра яго кніжка ўспамінаў пад назваю «Песьня на ўсё жыцьцё», а ў 1990 годзе багата ілюстраваны нарыс пра яго ў выдавецтве «Беларусь». Тут знаходзяцца ўспаміны яго сяброў з Вільні, вядомых кампазытараў і музыказнаўцаў з розных краінаў, у тым ліку з Літвы. Віленчукі Рыгора Шырму не забываюць.

## Пазнайма свой горад

Першы мураваны касьцёл, збудаваны яшчэ да хрышчэньня Літвы ў XIV стагодзьдзі, гэта вялікі францішканскі касьцёл на Троцкай вуліцы. Як і ўсе найдаўнейшыя касьцёлы Вільні, ён быў збудаваны ў стылі готыкі. Частыя перабудовы так яго зьмянілі, што аб гатыцкім стылі сьведчаць толькі агульныя прапорцыі і вастралукі партал са ступеньчата складзенай цэглы.

Шырака разгарнулася будова каталіцкіх касьцёлаў пасьля хрышчэньня Вялікага княства Літоўскага каралём Уладыславам Ягайлам у 1387 годзе. Адна з першых будоўляў таго часу быў катэдральны сабор, збудаваны на абшары Ніжняга Замку, сёньня ўжо няіснуючага. Гэта ля падножжа Замкавай Гары, на якой і цяпер узвышаецца вежа Верхняга замку, — яе відно здалёк. Але ад таго сабору амаль нічога не засталося, сучасная катэдра збудавана на пераломе XVIII і XIX стагодзьдзяў у нэаклясычным стылі.

Калі гаварыць пра стылявыя адметнасьці віленскіх касьцёлаў, дык ад XIV да XVI стагодзьдзяў усе яны, як правіла будаваліся ў стылі готыкі, але ня ўсе яны захавалі свой першапачатковы выгляд.

Але ёсьць куточак Вільні, дзе гатыцкія касьцёлы захаваліся ў чыстым выглядзе. У гэтым цудоўным куточку, які ня можа абмінуць ніводзін турыст, амаль побач стаяць два касьцёлы: сьв. Ганны і Бэрнардынскі. Касьцёл бэрнардынаў вялікі, масыўны, абарончага тыпу. Будова яго пачалася ў першай палове XVI стагодзьдзя. Ён захаваў свой першапачатковы сярэднявечны выгляд, характэрны для касьцёлаў-крэпасьцяў, якіх нямала можна знайсьці на прасторах Беларусі. Яшчэ і цяпер з паўночнага боку налева ад фасада відаць рад байніцаў. Абарончую ролю ігралі і вежачкі з абодвух бакоў фасада. Характар крэпасьці асабліва выразна відаць з усходняга боку, дзе захаваліся пяцігранныя апсіды і масыўныя кантрафорсы. У інтэр'еры асабліва ўражваюць позьнегатыцкія скляпеньні з вельмі разнароднымі структурамі; кожнае скляпеньне — новы ўзор.

Існуе погляд, што найпрыгажэйшым архітэктурным помнікам Вільні і адным з прыгажэйшых ва ўсёй Эўропе, зьяўляецца касьцёл сьвятой Ганны. Бадай ніводзін экскурсавод, які паказвае Вільню, не абміне распавесьці такі факт: калі Напалеон быў у Вільні, у захапленьні сказаў: «Калі б я мог паставіць гэты касьцёл на далоні, я перанёс бы. яго ў Парыж!»

Цяперашні яго выгляд адносіцца да другой паловы XVI стагодзьдзя. Ёсьць меркаваньне, што фундатарам яго быў апошні з Ягайлавічаў Жыгімонт Аўгуст, які хацеў тут зрабіць сямейную грабніцу. Гэтым можна вытлумачыць невялікія памеры касьцёлу, які хутчэй нагадвае капліцу.

Бакавыя сьцены тыповыя для готыкі: паміж кантрафорсамі вялікія вастралукія вокны. Характэрная высокая страха, узьлятаючыя ўгару вежачкі з дробным арнамэнтам. Фасад касьцёла вельмі аздобны, наўпрост фантастычны. Кампазыцыйным лейтматывам фасада зьяўляецца рэльефная дуга. Віртуозны характар фасада бачна ў тым, як майстра валодаў матэрыялам, ужываючы фасонную цэглу. Кажуць, што на фасадзе можна налічыць ажно 33 фасоны цэглы.

Ня толькі Напалеон захапляўся хараством касьцёла. Наш паэт Максім Багдановіч, калі ўпершыню наведаў Вільню, напісаў шэраг вершаў пра прыгаства нашага гораду, у тым ліку не абмінуў і касьцёл сьвятой Ганны. Вось яго радкі:

*Каб залячыць у сэрцы раны,*
*Забыць пра цяжкі долі глум,*
*Прыйдзеце да касьцёла Ганны.*
*Там зьнікнуць сьцені цяжкіх дум.*

*Як лёгка да гары, як красна*
*Узносіць вежы ён свае!*
*Іх зарыс стройны ў небе ясна*
*Ізломам дзіўным устае.*

*А вастрыя іх так высока,*
*Так тонка ў вышу неба тнуць;*
*Што міг — і ўжо здаецца воку,*
*Яны ў паветры палятуць.*

*Як быццам з грубаю зямлёю*
*Расстаўся стройны, лёгкі гмах*
*І вось, чаруючы красою,*
*Ступае на блакітны шлях.*

*Глядзіш, і ціхнуць сэрца раны,*
*І забываеш долі глум.*
*Прыйдзеце да касьцёла Ганны,*
*Там зьнікне горыч цяжкіх дум.*

А яшчэ пра касьцёл сьвятой Ганны склаў песьню наш вядомы бард Сяржук Сокалаў-Воюш над назваю «Чароўная Ганна»...

Дзядзька Лявон

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— сьпеўкі беларускага хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.00 у Палацы культуры на Туравай гары, пакой 340.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму зьмешчаных у ёй публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 12

## Са школьнага жыцьця

17 студзеня адбыўся сход настаўнікаў Віленскай беларускай школы. Паміж рознымі рабочымі пытаньнямі былі абмеркаваныя й такія, што зацікавяць і шырэйшае кола чытачоў.

Як ведама, гарадзкія ўлады абяцаюць да новага навучальнага году перадаць беларускай школе ўласны будынак. Тады паўстане патрэба ў сваёй адміністрацыі і дадатковых выкладчыках. І хаця сёньня немагчыма яшчэ абвесьціць афіцыйны конкурс на гэтыя пасады, на сходзе было вырашана распачаць пошукі кандыдатаў сярод віленскіх настаўнікаў.

Была абмеркавана таксама й падрыхтоўка да 75-гадовага юбілею славутай Віленскай беларускай гімназіі. Створаны арганізацыйны камітэт па сьвяткаваньню юбілея. У яго ўвайшлі шэсьць чалавек — настаўнікаў школы. Мяркуецца, што да гэтага камітэту далучацца прадстаўнікі іншых віленскіх беларускіх арганізацый.

В.С.

## Змагар за роднае слова ў сьвятынях

У нашай першай студзеньскай старонцы (№10) быў мо і няпоўны пералік імёнаў дзеячоў культуры, якія нарадзіліся ў гэтым месяцы. Згадана было імя айца Адама Станкевіча. Адзін з чытачоў, які сьціпла не назваў сябе, прасіў распавесьці больш падрабязна пра гэтага чалавека.

Адным з найвыдатнейшых і найбольш актыўных беларускіх культурна-асьветных дзеячоў з асяродзьдзя каталіцкага духавенства зьяўляецца ксёндз Адам Станкевіч. Сёлета мінае 45 гадоў ад заўчаснай сьмерці гэтага барацьбіта за беларускую справу. А былі гэта пераважна тыя гады, калі зьнішчалася ў нашым народзе памяць пра яго лепшых сыноў. Але ж цяпер часы гэтыя адыходзяць і ўжо да 100-гадовага юбілею А.Станкевіча ў беларускім друку зьявіліся публікацыі, якія для многіх адкрылі бесьветлы вобраз гэтага чалавека.

Спаміж беларусаў-віленчукоў ёсьць яшчэ жывыя сьведкі, сярод якіх, бадай, ня знойдзецца ніводнага, які б ня ўспомніў яго добрым словам. Таму ён заканамерна ўпісваецца ў галерэю партрэтаў слаўных віленчукоў... Сьпярша кароценькая біяграфічная даведка аб ім, бо дасюль такая не зьявілася ні ў адным біяграфічным ці энцыкляпэдычным даведніку. Спадзяемся, што гэта справа бліжэйшай будучыні.

Адам Станкевіч нарадзіўся 5-га студзеня 1892 году ў вёсцы Арляняты былога Ашмянскага павету Віленскай губэрні. Вучыўся ў Ашмянскай рэальнай школе, пазьней у Віленскай духоўнай сэмінарыі. У 1913 годзе закончыў духоўную акадэмію ў Пецярбурзе і вярнуўся ў Вільню. Ён аўтар шматлікіх публіцыстычных і гістарычных працаў па беларусазнаўству. Змагаўся за адраджэньне беларускай мовы ў каталіцкіх сьвятынях на Беларусі. Заўсёды сам вёў багаслужбы на беларускай мове. Выкладаў Закон божы ў Віленскай Беларускай Гімназіі, нейкі час быў яе дырэктарам, калі Вільня была перададзена Літве. Асноўное месца ягонае дзейнасьці — Вільня. Па яго ініцыятыве на працягу дзесяцігодзьдзяў у Вільні выходзілі беларускія газэты з рэлігійным ухілам. У працэсе вынішчэньня беларускай інтэлігенцыі Вільні ён стаў чарговай ахвярай ГУЛАГ-у, трапіў у Сібір і загінуў у Іркуцкай вобласьці.

Людзі, якія добра ведалі айца Адама, з вялікай цеплынёю згадваюць яго ў сваіх успамінах... «Ксёндз Адам Станкевіч вельмі шмат дабра зрабіў для беларусаў і Беларусі» — пісаў Янка Багдановіч у сваёй кніжцы «На жыцьцёвым шляху» — Менск, 1992 г. «У Вільні ён арганізаваў прытулак для дзяцей-сірот, апекаваўся гэтым прытулкам, далей зьяўляўся выкладчыкам і дырэктарам якісь час Віленскай Беларускай гімназіі, рэдактарам часопіса «Хрысьціянская Думка». У хасьцёлах Яна, Баніфратраў, Мікалая, Міхала адпраўляў набажэнствы для беларусаў-каталікоў. Ён заснавальнік друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні, апрача друкарні таксама і беларускай кнігарні «Пагоня». Адным словам, шмат прыклаў рук да беларускай справы. У 1949 г. памёр у далёкай Сібіры. Вечная яму памяць!» Толькі дзякуючы віленскаму прытулку Я.Багдановіч здолеў скончыць беларускую гімназію і выйсьці ў людзі, а такіх як ён было вельмі многа.

Другі знаёмы айца Адама, выпускнік Навагрудзкай Беларускай гімназіі Аляксей Анішчык, піша: «Сярод знаных прадстаўнікоў адраджэнскага руху асабліва моцнае і глыбокае ўражаньне зрабіў на мяне ксёндз Адам Станкевіч. Вызначаўся глыбокім розумам, нявычэрпнай энэргіяй, абаяльнасьцю і дабрынёй. Калі да гэтага дадаць шчырую спагадлівасьць да людзей, нязгасную любоў да роднага краю і нязломнаю волю — то можна хоць прыблізна ўявіць сабе яго выняткoвую натуру і постаць». Гэта з публікацыі ў тыднёвіку ЛІМ у 1991 годзе.

Калі б сёньня ў Вільні быў такі моцны духам беларускі сьвятар, як айцец Адам, дык можа вернікі чулі б і сваё роднае слова, зьвернутае да Бога.

Г.Б.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

* * *

Важнай падзеяй на Беларусі быў візыт 15 студзеня Амерыканскага прэзыдэнта Б.Клінтана, што расцэніваецца як павага да той палітыкі, якую праводзіць Беларусь, і ў першую чаргу добраахвотная адмова ад ядзернай зброі. Адбылася сустрэча з кіраўнікамі ВС і ўрада. У часе наведваньня Курапатаў Б.Клінтана суправаджаў лідар БНФ З.Пазьняк. Падпісан шэраг пагадненьняў. Амерыканскі бок выдзяляе дадаткова 25 млн. дал. на дэмантаж ядзерных ракет і праблем экалёгіі. На 10 млн. дал. ахвяравана медыцынскіх лекаў і абсталяваньня. У хуткім часе будзе накіравана на Беларусь група амерыканскіх экспертаў для дапамогі ў перадоленьні эканамічнага крызісу.

* * *

На адбыўшайся сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў краін СНД у Ашгабадзе Беларусь не згадзілася падтрымаць фонд дапамогі Таджыкістану, спасылаючыся на тое, што не аказывалася фінанасавая дапамога з боку дзяржаў Садружнасьці пры ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Беларусь таксама не падпісала дакумэнт аб механізме дзейнічаньня калектыўнай бясьпекі краін СНД. Як ведама Беларусь ставіць агаворкі не выкарыстаньня ўзброенных сілаў Беларусі на тэрыторыі другіх краін СНД, а таксама і краін СНД на тэрыторыі Беларусі.

* * *

У новым годзе ўрад рэспублікі плянуе вырашыць пытаньне дэфіцыту дзіцячага харчаваньня. Прадугледжана на пачатку 1994 г. закупіць, на крэдыты выдзеленые ўрадам Італіі, тры камплекты тэхналягічнага абсталяваньня для вырабу дзіцячага харчаваньня, на агульную суму 44 млн. дал. ЗША.

* * *

На базе аэрапарта Менск-2 пачаў дзейнічаць пункт уезда вайсковых інспэкцыйных груп ЗША, якія прыбываюць дзеля кантролю былых баз ракет сярэдняй і меншай дальнасьці. Да адкрыцьця ўласнага беларускага пункта ўезда інспекцыі ЗША прыбывалі ў Беларусь цераз Маскву. Гэта стала несумешчальным у сувязі з суверынітэтам Беларусі, таму, што амерыканскіх вайскоўцаў суправаджалі расейскія афіцэры, а беларусам прыходзілася яшчэ аплачываць пералёты такіх «двайных груп». Цяпер усе расходы, па дамоўленасьці з амерыканцамі, па знаходжаньню і забеспячэньню працы экспертаў будуць плаціць Беларусі валютай ЗША.

* * *

ВС Беларусі выразіў адмоўнае стаўленьне ў сувязі з пастановаю ВС Украіны аб аднаўленьні працы 1, 2 і 3 блёкаў Чарнобыльскай АЭС. Гэта перакрэсьлівае прынятае ў 1991 г. рашэньне аб прыпыненьні яе эксплуатацыі ў 1994 г. ВС Беларусі заклікае знайсьці іншае рашэньне па Чарнобыльскай АЭС, якая стала сымболем сусьветнай экалягічнай катастрофы.

* * *

З 1 студзеня ў Беларусі ў 3 разы вырас кошт электроэнэргіі і газа, у 1,5-2 разы падаражэлі малочныя прадукты і дзіцячае харчаваньне.

* * *

Як заявіў на прэсканферэнцыі С.Шушкевіч на перамовах з прэзыдэнтам Б.Ельцынам дасягнута дамоўленасьць аб новым беларуска-расейскім дагаворы. У ім будзе выяўлена імкненьне Расеі і Беларусі будаваць дэмакратычныя дзяржавы з сацыяльна накіраванай рынкавай эканомікай. Адносна аб'еднаньня грашовых сыстэмаў 2 краін, то прэзыдэнт Расеі запэўніў, што да лютага месяца калі закончаць узгадненьне эксперты, прыедзе ў Менск В.Чарнамырдзін для падпісаньня дакументаў. Прынцыповую нязгоду з курсам на аб'еднаньне грашовых сыстэмаў выказаў БНФ. Такую ж пазыцыю занялі Беларуская СД «Грамада», АДПБ і Сялянская партыя.

## Нам пішуць — адказваем

*Сп. Валянціне Струлёвай, Вільня.* Цешымся, што чытаеце нашу старонку. Нажаль ТБК гэта грамадзкая суполка, у якой усе ўдзельнічаюць без якой колечы аплаты за сваю працу. Старонка «Беларус Віленшчыны» таксама выходзіць пакуль што толькі дзякуючы энтузіязму яе супрацоўнікаў. Тым не менш заклікаем Вас уступіць у рады Таварыства, якое займаецца культурна-асьветнымі праблемамі беларусаў у Літве. Можа сярод сяброў Таварыства знойдзецца нехта, хто дапаможа Вам уладкавацца на працу ці дасьць добрую параду...

*Сп. Яніне Брадэль, Вільня.* Дзякуем за пажаданьні посьпехаў у нашай ініцыятыве. Цалкам згаджаемся, што адным з важных фактараў яднаньня зьяўляецца песьня, асабліва родная. Таму мы і паведамляем на нашай старонцы пра існаваньне ў Вільні беларускага хору пад кіраўніцтвам Юрыя Зімніцкага, які ахвотна прыме вас у свой калектыў (гл. Інфармацыю).

## Выстава беларускай кнігі

У пятніцу 21 студзеня а 14.00 у кнігарні «Спаўда» (пр. Лайсвес, 58) адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё выставы беларускай кнігі. Запрашаем наведаць.

## Аб'ява

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве пераехала ў будынак па вул. П.Кліма 8 (раён вул. Чурлёнё)

*Праезд ад вакзала:* тралейбусамі №15, 16 да прыпынку Каўно, далей тралейбусамі №4, 6, 11 да прыпынку Канарскага

*Праезд ад аэрапорту:* аўтобусам №2 да прыпынку Чурлёнё

*Праезд з цэнтру горада:* тралейбусамі №4, 6, 11, аўтобусам № 22 да прыпынку Канарскага

*Прыём грамадзян* вядзецца штодзённа акрамя суботы, нядзелі і свят. Па пытаннях грамадзянства і іншых пытаньнях: 10.00 — 13.00 Па пытаннях атрымання віз (для грамадзян краін, з якімі існуе візавы рэжым): 15.00 — 16.00

Тэлефоны: (0122) 65 08 71, (0122) 65 22 32 факс

Паштовы адрас: Baltarusijos Respublikos Ambasada, P.Klimo 8, Vilnius 2009, Lietuvos Respublika

# Пазнайма свой горад

## Сядзіба першадрукара Скарыны

Сэнтымэнт да Вільні, які ўзьнікае ў наведвальнікаў гэтага нязвычайна цікавага ў гістарычным аспэкце гораду, зьява зразумелая. Асабліва ў тых, каму неабыякавая гісторыя нашай Радзімы, хто імкнецца ўсьвядоміць сябе ў гэтай гісторыі.

На фасадзе дому, што на рагу вуліцы Дзіджоі (Вялікай) і Сціклю (Шкляроў), злева ад брамы ўстаноўлена мэмарыяльная табліца на літоўскай і беларускай мовах у гонар беларускага першадрукара Францішка Скарыны. На ёй паведамляецца, што з 1522 да 1525 году ў горадзе Вільні беларускі асьветнік Францішак Скарына выдаваў першыя друкаваныя кнігі ў Літве.

Калі зазірнуць у браму, дык убачым у панадворку адрэстаўраваны старасьвецкі дамок, збудаваны недзе ў XV-ым, найпазьней у самым пачатку XVI стагодзьдзя. У яго архітэктуры яўна захаваны стыль готыкі. Мяркуюць, належыў ён да бурмістра Вільні Якуба Бабіча.

Як падаецца ў біяграфіі Скарыны, пакінуўшы ў 1520 годзе Прагу, ён пераехаў у Вільню і абсталяваў друкарню ў доме Якуба Бабіча. Дом у панадворку і лічыцца месцам, куды перавёз Скарына сваю друкарню з Прагі. Менавіта тут і была надрукавана «Малая падарожная кніжыца» у 1522 годзе і «Апостал» у 1525-ым. Цяпер дом гэты займае аб'яднаньне фатографаў, тут часта адбываюцца іхнія выставы.

Калі павярнуць на вуліцу Сьціклю, ды зайсьці ў панадворак дому, які значыцца пад №4, дык пабачым тую самую адрэстаўраваную камянічку, але ўжо з другога боку. У цэнтры гэтага невялічкага, вельмі ўтульнага панадворачка, пастаўлена скульптура літоўскага скульптара Вітаса Круцініса з афіцыйнай назвай «Летапісец», але агульна прынята лічыць, што фігура гэтая сымбалізуе постаць першадрукара.

Скарына прыехаў у Вільню ўжо з салiднай падрыхтоўкай і не з пустымі рукамі. За ім былі гады друкарскай і выдавецкай працы ў Празе, дзе ён выдаў сваю слынную Біблію, перакладзеную на старабеларускую літаратурную мову.

Літоўскі гісторык Лявас Владзіміравас піша пра гэта так: «Рука ў выдавецкай справе была ўжо "набіта", неабходнае абсталяваньне гатова і асвоена, а перанясеньне друкарні з Чэхіі бліжэй да чытача — у Вільню — суліла новыя магчымасьці». Фармаваньне беларускай літаратурнай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім гісторык тлумачыць такім чынам: «Гэтая мова ў XVI-XVII ст. ужо гэтак адрозьнівалася ад мовы Маскоўшчыны, што яе пачалі лічыць літоўскай мовай. Вядома, яна ня мела нічога супольнага з сапраўднай літоўскай мовай. Гэта была беларуская мова кніг літоўскага друку». Гэткай і была мова скарынаўскіх кніг, мова, дамінуючая ў ВКЛ.

Пра Францішка Скарыну і значэньне яго выдавецкай дзейнасьці для Вільні і ўсяго краю дужа хараша напісаў літоўскі паэт і драматург Юсьцінас Марцінкявічус у сваім «Дзёньніку бяз датаў»:

«Шчасьлівы горад, які сёньня можа ганарыцца, што больш як чатыры з паловай вякі назад прыняў доктара сямі вызваленых навук Францішка Скарыну з ягонымі шрыфтамі і нескладанымі друкарскімі станкамі, з яго высокароднымі гуманістычнымі асьветніцкімі мэтамі і плянамі. Шчасьлівы горад, які пад сваімі дахамі выдаў першую ў Вялікім княстве Літоўскім друкаваную кнігу. І ніхто так прыгожа не аддзячыўся Вільні, як сам Францішак Скарына, напісаўшы ў сваіх выданьнях, што "гэтыя кнігі адціснуты ў слаўным і вялікім месьце віленскім".

Недзе тут стаяў дом бурмістра Якуба Бабіча, дзе заснаваў сваю друкарню Скарына. Тут у цемры ночы сьвяцілася вакно, за якім пры дымнай сьвечцы раскладае свае манускрыпты першы віленскі чарадзей, — ён ужо бачыў свае будучыя кнігі, калі думаў пра шрыфты, віньеткі, застаўкі... Сьвятло, нябачнае дагэтуль сьвятло кнігі, лілося ад гэтага дому, ад гэтага чалавека... Няхай акружае яго і ягоны подзьвіг сьвятло нашай памяці, нашай пашаны". Нам трэба добра ведаць тое месца, дзе нарадзілася ў нашым краі першая беларуская друкаваная кніга.

Дзядзька Лявон

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*
— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— сьпеўкі беларускага хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.00 у Палацы культуры на Туравай гары, пакой 340.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму зьмешчаных у ёй публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

**ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 13**


## Успамін вучаніцы

***У першай студзеньскай старонцы мы падалі каляндар памятных датаў, зьвязаных з імёнамі дзеячоў беларускай культуры, якія працавалі на віленскім грунце. Сярод іх згадвалася імя Антона Луцкевіча — вядомага літаратурнага крытыка, які карыстаўся псэўдонімам Антон Навіна. Праз два дні — 30-га студзеня — споўніцца 110 гадоў ад яго нараджэньня, а яшчэ праз два дні — юбілей 75-годзьдзя адкрыцьця Віленскай Беларускай Гімназіі. Сягоньня публікуем успамін аднэй з яго вучаніц, якая вучылася у 20-х гадах.***



Прайшло поў стагоддзя з тае пары, як мае школьныя гады адыйшлі ў мінулае. Час зацёр у памяці твары, імёны, падзеі. Калі вяртаюся думкамі да дзён майго юнацтва і стараюся адтварыць у свядомасці школьныя часы, пераконваюся, што некаторых вучыцялёў зусім не памятаю; іншыя, хаця і засталіся ў памяці, цяпер не магу сабе дакладна ўявіць, які наказ далі яны мне на мой жыццёвы шлях.

Толькі постаць Антона Луцкевіча вырысоўваецца перад вачыма так выразна, як быццам ён зусім нядаўна чытаў нам свае лекцыі.

У чым жа прычына, што якраз гэты вучыцель пакінуў такі глыбокі след у памяці, што яго не можа сцерці бязлітасны час?

Прабую тлумачыць гэта яго педагагічным талентам, які магчыма быў выдатны. Але ж былі і іншыя педагогі, добрыя выкладчыкі, а вось іх вобразы ў маёй памяці зрабіліся невыразнымі, расплыліся.

Сілай яго інтэлекту? Гэта быў чалавек бясспрэчна моцны духам, які не мог не рабіць уражання на тых, каго зводзіў з ім жыццёвы шлях.

Але была яшчэ прычына, чаму гэты нявысокага ўросту з ціхім голасам, вельмі ветлівы чалавек зачароўваў увагу юнакоў і дзяўчат на сваіх лекцыях. Прычынай гэтай была сіла яго пачуцця, якое перадавалася вучням разам з ведай.

Як жа шчыра любіў ён свой прадмет — беларускую літаратуру і тую глебу з якое яна вырасла. З якім пачуццём чытаў нам адрыўкі з «Сымона Музыкі», якія не ўвайшлі ў друк.

Аднойчы на лекцыі ўзнікла дыскусія, — чым яна была выклікана цяпер не магу прыпомніць. У часе дыскусіі нехта з вучняў выказаў жаль, што на беларускім грунце не ўсё робіцца так, як было б трэба. Антон Луцкевіч сказаў: «Калі зблізжаецца вясна, яе заўсёды папераджае прадвесне, а з прадвеснем заўсёды неразрыўна звязана балота. Вось і ў нас цяпер прадвесне».

Памыліўся тады наш вучыцель адносна пары году. Але ён сказаў гэта з такім шчырым пераконаннем, з такой непахіснай верай, што мы таксама паверылі ў хуткую вясну.

І яшчэ аднаму вучыў нас наш вучыцель — «людзьмі звацца». Не толькі ў тым значэнні, якое меў на ўвазе паэт, але вучыў шанаваць чалавечую годнасць у самых сабе і ў іншых. Не змяняць сваіх поглядаў залежна ад варункаў, як хамелеон змяняе колер скуры. Не жыць так, як жыве маленькая звярынка — хамячок, усё жыццё занятая тым, што зносіць запасы ў сваю норку.

Нялёгка склаўся жыццёвы шлях тых з нас, хто пайшоў следам яго навукі, як нялёгкі быў шлях яго самога. Але сяння, калі азіраюся на мінулае жыццё, з задаваленнем магу сказаць: мы не жылі так, як той хамячок і не гандлявалі сваімі перакананнямі. Ён навучыў нас людзьмі звацца. За гэта шчырае яму дзякуй.

Цяпер разгарэлася палеміка навокал пытання: кім жа быў А.Луцкевіч? Як прадставіць яго для гісторыі? Некаторыя прадстаўляюць яго як палітыка. Палітыкам ён якраз не быў і не мог быць па свайму бескампрамісоваму характару, па сваёй ідэйнасці і даверлівасці. Такія людзі палітыкі рабіць не могуць. Іншыя бачаць у ім марксіста. А ў сапраўднасці Антон Луцкевіч быў шчырым беларусам. А шчыры беларус не можа быць нікім іншым, як толькі шчырым беларусам.

Кім жа яшчэ мог быць чалавек, у якога было столькі пачуцця да ўсяго, што звязана з беларушчынай, які так выхоўваў моладзь.

Ён быў адным з тых першых, якія вучылі народ шанаваць сваю мову, традыцыі сваіх продкаў, шанаваць самога сябе, якія марылі аб тым, каб народ падняўся і пачуў у сабе сілу, як той купалаўскі Лявон.

У гэтым заслуга Антона Луцкевіча і з гэтым ён войдзе ў нашую гісторыю.

Зоя Каўшанка

## Наша хроніка

8-га студзеня адбылася калядная вечарына, зладжаная беларускім клюбам «Сябрына» ў гасьцёўні «Дома настаўніка», што на Віленскай вуліцы. Упершыню ажно ад студзеня мінулага году выступіў хор Юрыя Зімніцкага з даволі багатай праграмай беларускіх песень. Выступалі таксама школьнікі, чыталі вершыкі, пялі песенькі. Такія сустрэчы вельмі патрэбныя для яднаньня тутэйшай беларускай дыяспары, галоўнае, каб яны адбываліся як мага часьцей.

9-га студзеня адбылося першае сёлета паседжаньне Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Абмяркоўвалася пытаньне аднаўленьня статуту, бо суполка гэтая была зарэгістраваная яшчэ ва ўмовах Савецкай Літвы. Гутарка ішла і пра плянаваньне на бліжэйшы час імпрэзаў ды пра пытаньні, зьвязаныя з актывізацыяй дзейнасьці Таварыства.

Гісторыя беларускага друку ў Вільні мае настолькі глыбокія карані, што горад наш можна сьмела назваць калыскаю беларускага друку. Але нават калі не закранаць вельмі далёкую даўніну, а толькі пачатак нашага стагодзьдзя, дык пераканаемся, што беларускі пэрыядычны друк пачаўся менавіта адсюль, а ў міжваенным часе тутака выдавалася мноства беларускіх газэт і часопісаў.

Пасьля дзесяцігодзьдзяў маўчаньня ў Вільні ізноў ажывае легендарная «Наша Ніва». У мінулым тыдні пабачыў сьвет новы 18-ты нумар аднoўленай мадэрнізаванай «Нашай Нівы». Выдаўцы назвалі яго калядным і надрукавалі цалкам лацінкаю, відаць у якасьці экспэрыменту. Ізноў шмат перакладаў — гэта аснаўны яе матэрыял. Публікацыяў на мясцовыя тэмы ў ім бадай што і няма.

17-га студзеня прадстаўнікоў беларускага грамадзтва Літвы прыняў старшыня камісіі Літоўскага Сойму па культуры і адукацыі, прафэсар Гензяліс. На сустрэчы разглядаліся надзённыя патрэбы беларусаў у Літве. Удзельнічала загадчыца па справах асьветы і навукі спадарыня Грыгінене і дарадчык прэзыдэнта спадар Мотузас. Аснаўным пытаньнем была рэарганізацыя беларускіх паралельных клясаў у самастойную сярэднюю школу, забясьпечаньне яе асобным будынкам, а таксама адраджэньне беларускага музэю ў Вільні, вырашэньне праблемы памешканьня для беларускага культурнага цэнтру. Беларусы не трацяць надзеі на станоўчую рэакцыю дзяржаўных структураў.

Цэнтральнай падзеяй апошніх дзён у Вільні было адкрыцьцё мэмарыяльнай табліцы ў гонар Рыгора Шырмы — выдатнага беларускага фальклярыста, харавога дырыжора, музыкаведа і грамадзка-культурнага дзеяча. Адбылося гэта 20-га студзеня ў 14-00 гадзін і прымеркавана было менавіта да дня нараджэньня Шырмы. Каля дому, на якім загадзя была ўстаноўлена памятная дошка з барэльефам маэстра ды надпісамі на літоўскай і беларускай мовах, сабралася багата людзей. Выступалі прадстаўнікі беларускага грамадзтва, літоўскія музычныя дзеячы, а таксама афіцыяльныя асобы, прадстаўнікі гарадзкіх уладаў, а з беларускіх гасьцей народны артыст прафэсар Віктар Роўда, кіраўнік хору Белдзяржтэлерадыё ды старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач. Аўтарам табліцы зьяўляецца скульптар Алесь Мірончык з Менску, які асабіста прысутнічаў на ўрачыстасьці. Выступіў таксама сьвятар Еўфрасіньеўскай царквы айцец Уладзімер, які асьвяціў таблiцу. Працяг ушанаваньня памяці Рыгора Шырмы адбыўся ў залі Саюза кампазытараў Літвы. Праграму ўрачыстай акадэміі запоўнілі паведамленьні пра жыцьцёвы і творчы шлях, успаміны сучасьнікаў, усіх тых, каму пашчасьціла сустракацца з гэтым выдатным артыстам і абаяльным чалавекам у жыцьці і ў творчай працы. Гучалі запісы песень у выкананьні акадэмічнай харавой капэлы, створанай Шырмай. У абодвух імпрэзах актыўна ўдзельнічаў паверана ў справах Рэспублікі Беларусь ў Літве спадар Шчасны.

21-га студзеня адбылася яшчэ адна цікавая падзея ў культурным жыцьці беларусаў Вільні. Гэта адкрыцьцё выставы беларускай дзіцячай кнігі ў Доме Літоўскага Друку, што на праспэкце Свабоды. Ініцыятарам гэтай імпрэзы зьяўляецца літоўскі дзіцячы пісьменьнік, рэдактар дзіцячага часопісу «Жвайгждуце» — «Зорачка» спадар Лаўцюс. Нядаўна ён правёў выставу літоўскай дзіцячай кнігі ў Менску, а цяпер аналягічнае мерапрыемства праводзіцца ў Вільні — старшыня згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» спадарыня Ганна Сурмач, гэнэральны дырэктар дзяржДэпартамэнту па нацыянальных пытаньнях Літвы спадарыня Галіна Кабецкайце, дырэктар аб'яднаньня «Літоўскі Друк» і іншыя. Удзельнічалі дзеці з беларускіх клясаў Вільні, студэнты беларускага аддзяленьня Пэдагагічнага унівэрсытэту, прадстаўнікі тутэйшага беларускага грамадзтва. Былі арганізаваны падарункі для дзяцей і пачастунак. Усіх прысутных сваімі песьнямі пацешыў Лявон Мурашка.

Аглядальнік.

## Весткі з Беларусі

Сродкі масавай інфармацыі Беларусі шырока паведамляюць аб выніках візыту прэзыдэнта ЗША Б.Клінтана. У ходзе перамоў былі абмеркаваны пытаньні далейшага ўмацаваньня двухбаковых адносін. Прэзыдэнт ЗША вельмі станоўча ацаніў зьнешнепалітычны курс Беларусі па ажыцяўленьню ядзернага разбраеньня, і запэўніў беларускі бок у далейшай падтрымцы Злучанымі Штатамі гэтых намаганьняў. Б.Клінтан паведаміў, што ўсяго ў рамках закона Нана-Лугара ЗША выдзяляюць беларускім праектам 100 млн. дал. для дэмантажу ядзернай зброі.

Дасягнута дамоўленасьць аб стварэньні ў Менску Амерыканскага бізнэс-цэнтру, які будзе садзейнічаць амерыканскім кампаніям у вывучэньні беларускага рынка, а таксама акажа ўсялякую дапамогу беларускім фірмам. У часе візіту Прэзыдэнт Б.Клінтан ахвяраваў для Беларусі мэдычнага абсталяваньня на суму 10 млн. дал. Гэтага абсталяваньня хопіць для шпіталя на 1500 ложкаў. Прэзыдэнт ЗША абяцаў тэхнічную дапамогу ў правядзеньні дэмакратычных выбараў у 1994 г. як толькі ВС аб'явіць дату выбараў.

* * *

На 13 сесіі ВС бальшынёй галасоў дэпутатамі быў ратыфіцыраваны статут Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў. Супраць ратыфікацыі выступілі дэпутаты апазыцыі. Такім чынам, Беларусь стала шостай дзяржавай СНД, якая ратыфіцыравала яго статут.

* * *

Адстаўка Я.Гайдара ў Расейскім урадзе, што зьвязана з яго пазыцыяй супраць аб'яднаньня грашовых сыстэмаў Расеі і Беларусі, першы намесьнік СМ РБ М.Мясьнікoвіч заявіў, што пaступак Гайдара гэта пазыцыя не ўрада Расеі, а толькі аднаго яе члена, хаця і вельмі ўплывовага. М.Мясьнікoвіч адхіліў сьцьверджаньне, што аб'яднаньне грашовых сыстэмаў выгадна толькі Беларусі, якая ўсе свае недахопы хоча схаваць у вялікай расейскай эканоміцы. Гэта, заявіў ён, адносіных роўных партнёраў пры роўнай карысьці.

* * *

Шырокі розгалас у палітычным жыцьці рэспублікі набыў арышт праваахоўнымі органамі ў Менску нелегальна пражываючых тут дзеячоў камуністычнай партыі Літвы М.Буракявічуса і І.Ермалавічуса. Рэспубліканскія газеты апублікавалі каментары МУС Беларусі, дзе сказана: «Адпаведна з дамовай паміж РБ і Літоўскай Рэспублікай, падпісанага ў кастрычніку 1992 г. і ратыфікаваным ВС РБ у лютым 1993 г. беларускім бокам было выказана садзейнічаньне групе праваахоўных органаў Літоўскай Рэспублікі, узначалiвыемым намесьнікам генеральнага пракурора, пры затрыманьні ў Менску 15 студзеня М.Буракявічуса і І.Ярмалавічуса. Дзейнасьць праваахоўных органаў Беларусі адпавядае вышэйназванай дамове і міжнародным прававым нормам.

## Сумная навіна

*— памяці Генадзя Каханоўскага.*

На другі дзень пасьля сумнай падзеі ў Вільню дайшла тая вестка, якая ўжо зьявілася ў тыднёвіку «Культура»: 15-га студзеня гэтага году на 58-м годзе жыцьця памёр Генадзь Каханоўскі — доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны, старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Пакінуў нас адзін з лепшых сыноў беларускага народу, адданейшы Адраджэнец, нястомны працаўнік на ніве айчыннай гісторыі і культуры, чалавек шляхетнай душы, крыштальнага сумленьня, шчыры сябра", — паведаміў яго калега Міхась Чарняўскі.

Нястомны дасьледчык гісторыі і дапытлівы шукальнік-краязнавец Генадзь Каханоўскі часта наведваў Вільню, вёў пошукі ў тутэйшых архівах і бібліятэках, імкнуўся прысутнічаць на цікавейшых віленскіх імпрэзах, нярэдка бываў у лясной хатцы легендарнай Зоські Верас. Часта прыяжджаў не адзін, прывозіў цэлыя экскурсіі беларускіх настаўнікаў і моладзі, каб даць ім магчымасьць пазнаёміцца з гістарычнымі помнікамі Вільні. Гэта быў адзін з тых нямногіх, хто шукаў гістарычнай праўды, не паддаваўся ідэалагізаваным стэрэатыпам.

Нарадзіўся Каханоўскі 8 студзеня 1936 г. у вёсцы Дамашы на Маладзечаншчыне. Скончыў Маскоўскі пэдагагічны інстытут. Быў дырэктарам абласнога краязаўчага музэю ў Маладэчне, пазьней навуковым супрацоўнікам Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі Навук Беларусі. Аўтар шматлікіх прац па археалёгіі, гісторыі, цікавых літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Янку Купалу, Максіма Багдановіча. Мо ня ўсе ведаюць, што менавіта Генадзь Каханоўскі быццам нанова адкрыў хутар Ракуцёўшчыну, дзе ў 1911 г. жыў Максім Багдановіч і цяпер там штогод адбываюцца літаратурныя сьвяты і абсталёўваецца філіял музэя Максіма Багдановіча. Калі сёньня робяцца гэтыя дужа патрэбныя справы, дык часам забываюць, што іх пачынальнікам быў Генадзь Каханоўскі. Беларуская навука панесла цяжкую страту, а віленчукі-беларусы страцілі свайго добрага сябра.

Лявон Луцкевіч

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.

— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».

— сьпеўка хору «Сябрыны» адбудзецца 29 студзеня ў 16.00 у залі Дому нацыянальных суполак, вул. Раўгіклос 25 (І паверх)


Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму зьмешчаных у ёй публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 14

## Надзея на вяртаньне

Госьці з Беларусі, якія наведваюць Вільню, ніколі не абмінаюць гэтак званых Базыльянскіх муроў, якія ў міжваенным часе былі тут беларускім культурным цэнтрам. У сёньняшніх варунках беларусы Літвы імкнуцца адрадзіць у Вільні беларускую гімназію і беларускі музэй, вакол якіх больш чвэрці веку канцэнтравалася беларускае культурнае жыцьцё. Абедзьве гэтыя ўстановы разьмяшчаліся ў будынку на б. Вастрабрамскай вул. 9 — цяпер вул. Аўшрос Варту 7а — у былым манастыры сьв. Тройцы, пазьней кляштары Базыльянаў.

Нагадаем, што гэты будынак быў прызначаны для беларускіх культурна-асьветных мэтаў яшчэ ў 1918-1919 гг. Літоўскай Тарыбай. Гісторыя гэтага помніка віленскай архітэктуры даволі складаная і бярэ свой пачатак з XIV стагодзьдзя.

У палове XIV стагодзьдзя на гэтым месцы былі збудаваныя драўляная праваслаўная царква і манастыр сьв. Тройцы па ініцыятыве другой жонкі князя Альгерда, князёўны Юліяны Цьвярской.

1514 г. коштам гэтмана Вялікага княства Літоўскага князя Канстанціна Астрожскага, у гонар перамогі над маскоўскім войскам пад Воршаю, царква і манастыр сьв. Тройцы, якія былі ва ўладаньні самастойнай мэтраполіі праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага, былі перабудаваны на мураваныя.

У 1608 г. па загаду караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III-га Вазы ўвесь комплекс быў перададзены уніятам, якіх канфэсія ўзьнікла ў 1596 годзе на падставе Берасьцейскай царкоўнай уніі. У той час уніятам была перададзена значная частка праваслаўных храмаў Вільні.

У 1839 годзе, ва ўмовах акупацыі Вільні Расейскай імпэрыяй, уніяцкая царква на яе тэрыторыі была скасавана, а царква і частка манастыра былі перададзены ва ўладаньне Рускай Праваслаўнай царквы. У першай палове XIX стагодзьдзя будынак кляштару часткова выкарыстоўваўся царскай уладай як вастрог.

Вернікі гэтай парафіі, у аснаўным беларусы, былі змушаны вярнуцца назад у праваслаўе, а ў другой палове XIX стагодзьдзя ў гэтым будынку была заснавана праваслаўная духоўная сэмінарыя, якая існавала да верасьня 1939 г.

У XX стагодзьдзі будынак былога кляштару выкарыстоўваўся для культурна-асьветных мэтаў. Акрамя духоўнай сэмінарыі, тут была нейкі час расейская прыватная гімназія. У канцы 1918 г. тут быў заснаваны беларускі прытулак для дзяцей-сірот, а крыху пазьней Віленская Беларуская Гімназія (1919-1937), Беларускі музэй (1921-1943), Беларускае Навуковае Таварыства (1921-1939), Беларуская драматычная майстроўня (1921-1925), нейкі час на працягу свайго існаваньня (1921-1937) — Таварыства Беларускай Школы.

Пасьля пераносу беларускай гімназіі ў другі будынак тут быў Дзяржаўны пэдагагічны ліцэй (1937-1939). Пасьля другой сусьветнай вайны тут быў заснаваны Віленскі пэдагагічны інстытут (1945-1960), затым Віленскі інжынэрна-будаўнічы інстытут, пасьля філіял Каўнаскага палітэхнічнага інстытуту, рэарганізаванага ў Тэхналягічны унівэрсытэт.

Сёньня ўзьнікла пэрспэктыва, што гэтыя навучальныя ўстановы пакінуць Базыльянскія муры.

Ці спраўдзіцца Боская і людзкая справядлівасьць у адносінах да беларусаў Літвы, якія спрадвеку выкарыстоўвалі гэтыя будынкі для сваіх рэлігійных і культурна-асьветных мэтаў?

Беларусы ня трацяць надзеі на справядлівае вырашэньне гэтага пытаньня і на размяшчэньне ў Базыльянскіх мурох бяздомнай сёньня беларускай сярэдняй школы, ды вяртаньне яе ў сваю колішнюю сядзібу.

Г.Б.

## Віленская Беларуская Гімназія

*Да 75-ых угодкаў яе заснаваньня*

Пачатак першай сусьветнай вайны, калі царскую акупацыю зьмяніла нямецкая, якая была больш абыякавая, але затое і больш лібэральная да культурных запатрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў, у Вільні зьявілася магчымасьць адчыніць у 1915 г. першыя беларускія пачатковыя школы і настаўніцкія курсы. Урэшце ў канцы 1918 г. сярод беларускага грамадзтва ўзьнікла канкрэтная думка стварыць тут поўную беларускую сярэднюю школу. Гэта была лягічная выснова з дасягнутых ужо вынікаў асьветніцкай працы.

Аснаўным ініцыятарам стварэньня ў Вільні беларускай гімназіі быў адзін з сяброў Таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны віленскі археоляг Іван Луцкевіч, поплеч з якім актыўна дзейнічала ініцыятыўная група ў складзе кс. Адама Станкевіча, Леанілы Чарняўскай, Алёны Сакаловай, Юліі Мэнке, Міколы Кахановіча, які затым стаў першым дырэктарам гімназіі.

Першы год працы гімназіі быў найбольш складны. Бракавала школьнага інвэнтара, беларускіх падручнікаў, ня было яшчэ школьнай бібліятэкі і амаль ніякіх школьных дапаможнікаў. Вучняў было звыш 340 чалавек. Пэдагагічны калектыў складаўся з 18 настаўнікаў.

Па загаду міністра асьветы Літоўскай Тарыбы Мікаласа Біржышкі гімназіі быў прызначаны будынак б. Базыльянскага кляштару на вул. Вастрабрамскай 9 (цяпер Аўшрос Варту 7а) і заняткі пачаліся 1-га лютага 1919 году. Вялікай дапамогай гімназіі было амаль адначасовае стварэньне ў тым самым будынку Беларускага прытулку для дзяцей-сірот. Ініцыятарам яго быў кс. Адам Станкевіч. Прытулак ня толькі даваў ім магчымасьць існаваньня, але і ствараў пэрспэктыву здабыцьця асьветы ў роднай мове. Першы год працавалі ўсе клясы, апрача 8-ай, і яшчэ дзьве прыгатаваўчыя, дзе ў аснаўным вучыліся прытулковыя дзеці. Наогул гімназія была 8-клясавая зьмешанага тыпу (для дзяўчат і хлапцоў) з выкладаньнем на беларускай мове.

Сьпярша гімназія не была дзяржаўнай установай. Яе канцэсіянэрамі былі розныя грамадзкія арганізацыі: спачатку гэта была Школьная Рада ў Вільні, пазьней Таварыства Беларускай Школы, а з 1928 г. — Бацькоўскі Камітэт гімназіі. Гімназія імкнулася набыць ярка выражаны нацыянальны характар, што ня было лёгка ва ўмовах чужой улады. Матэрыяльны стан гімназіі заўсёды быў дужа цяжкі. Было ж гэта ў часы польскага акупацыйнага рыжыму.

Усё ж у гімназіі былі свае самадзейныя гурткі, у тым ліку: літаратурны, драматычны, музычны, мастацкі і па вывучэньню мовы эспэранто. З 1926 г. заснаваўся вучнёўскі духавы аркестр, у якім налічвалася больш за 20 інструмэнтаў. Стварыўся і школьны хор, якім кіраваў будучы народны артыст Рыгор Шырма. Гімназія мела ўжо сваю бібліятэку і вучнёўскі каапэратыў. Нейкі час вучні нават выдавалі свой друкаваны часопіс, які называўся «Вучнёўскі звон».

Новым этапам для гімназіі стаў 1932/33 навучальны год, калі яна стала дзяржаўнай. З аднаго боку гэта забясьпечвала гімназіі больш трывалую матэрыяльную базу, бо яна атрымала ўсе правы дзяржаўнай гімназіі і поўнае дзяржаўнае забясьпечаньне. Але гэта мела і свае адмоўныя бакі, бо гімназія страціла значную ступень сваёй самастойнасьці. У той час была праведзена агульная рэформа сярэдняга школьніцтва, што адмоўна адбілася на становішчы беларускай гімназіі ў Вільні. Згодна з рэформай, васьміклясавыя гімназіі былі ператвораны ў чатырохклясавыя новага тыпу шляхам ліквідацыі двух першых і двух апошніх клясаў. Дзьве апошнія клясы ператвараліся ў агульнаасьветныя і спэцыялізаваныя ліцэі. Беларусам жа ўлады не дазволілі адкрыць свой ліцэй.

У сувязі з нестабільнасьцю варункаў, у якіх існавала гімназія, ў ёй часта мянялася кіраўніцтва. Пасьля першага дырэктара Міколы Кахановіча на гэтае становішча быў прызначаны Бранiслаў Тарашкевіч; пасьля яго чаргова былі дырэктарамі Антон Нэканда-Трэпка, Радаслаў Астроўскі, Сяргей Паўловіч, Аляксандр Міхалевіч, Мікола Анцукевіч, Васіль Кавалевіч, кс. Адам Станкевіч, урэшце апошнім дырэктарам быў Францішак Грышкевіч. Сярод выкладчыкаў беларускай літаратуры былі чаргова пісьменьнік Максім Гарэцкі, крытык Антон Луцкевіч, пазьней паэт Хведар Ільяшэвіч. З настаўнікаў гімназіі, якія працавалі даўжэйшы час, варта згадаць такіх як Язэп Шнаркевіч, Натальля Банцлебэн, Сымон Кароль, мастак Язэп Драздовіч, Уладзіслаў Глухоўскі, Барыс Кіта, Пётра Шчасны ды шмат другіх; найдаўжэй за ўсіх, бо на працягу усяго існаваньня гімназіі, настаўніцай беларускай мовы была Алёна Сакалова-Лекант.

Беларуская гімназія ў Вільні на працягу чвэрці веку ўзгадоўвала кадры нацыянальна сьвядомай беларускай інтэлігенцыі і ўнесла свой важкі ўклад у нацыянальна-вызваленчы рух ня толькі Віленшчыны але і ўсёй Заходняй Беларусі.

Г.Б.

## Весткі з Беларусі

• На сэсіі ВС Беларусі было праведзена галасаваньне аб адкліканьні з пасады старшыні ВС С.Шушкевіча. Па выніках тайнага галасаваньня, бальшынёй галасоў 209 супроць 36 дэпутаты пракамуністычнай арыентацыі выказаліся супроць С.Шушкевіча. Новым сьпікерам Беларускага парлямэнту выбраны старшыня камісіі ВС па нацыянальнай бясьпецы 57 гадовы генэрал-лейтэнант Мячыслаў Грыб.

• У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася сустрэча міністра П.Краўчанкі з старшынёй вышэйшага ваеннага органу НАТО — Ваеннага камітэту — фэльдмаршалам Р.Вінсэнтам. Як заявіў Р.Вінсэнт, мэтай яго прыезду ў рэспубліку зьяўляецца намер «бліжэй пазнаць і пазьней рэалізаваць патрэбнасьці Беларусі для ўзаемадзейнасьці ў рамках праграмы Савету Паўночнаатлянтычнага супрацоўніцтва». Р.Вінсэнт сказаў, што праграма «Партнёрства дзеля міру» дае права любой эўрапейскай дзяржаве ўдзельнічаць у ёй у залежнасьці ад жаданьня і магчымасьцяў да супрацоўніцтва. Кранаючы пытаньне аб магчымым удзеле Беларусі ў праграме «Партнёрства дзеля міру», П.Краўчанка заявіў, што гэтае пытаньне будзе абмяркоўвацца на Радзе бясьпекі краіны, якая і прыме канчатковае рашэньне.

• Па зьвестках дыпляматычных колаў, прэзыдэнт Літвы А.Бразаўскас мае намер у бліжэйшым часе наведаць сталіцу Беларусі Менск.

• На сэсіі ВС Беларусі пры абмеркаваньні законаў «Аб грамадзкіх арганізацыях» і «Аб альтэрнатыўнай службе» у зале не было кворуму. Адсутнасьць звыш 100 дэпутатаў была прычынай вострай крытыкі з боку прысутных. Дэпутат В.Станкевіч з гэтай нагоды заявіў: «Вярхоўны Савет выпрацаваў свой патэнцыял і знаходзіцца на нулі. Трэба праводзіць датэрміновыя выбары».

• Па зьвестках Белінфарму, прыезд расейскага прем'ера В.Чарнамырдзіна ў Менск для падпісаньня дакумэнтаў аб абьеднаньні фінансавых сыстэмаў Расеі і Беларусі чакаецца ў першай палове лютага. У Менску знаходзіцца група экспэртаў, якая разам з беларускім бокам займаецца канчатковай «даводкай» праектаў дакумэнтаў.

• Адбыўся чародны 5 зьезд фэрмэраў РБ. На сёньняшні дзень, як адзначалася на зьезьдзе, у рэспубліцы налічваецца каля 2650 фэрмэрскіх гаспадарак з агульнай плошчай 54 тыс. га зямлі. Зьезд прыняў рэзалюцыю, якая акрэсьлівае шляхі далейшага разьвіцьця новай формы гаспадараньня на зямлі. Сваім друкаваным органам фэрмэры зацьвердзілі штотыднёвік «Новая зямля».

## Аб'ява

Згодна з інфармацыяй, атрыманай ад Пасольства Рэспублікі Беларусь, па стану на люты 1994 г. для грамадзян Літоўскай Рэспублікі, якія едуць у Беларусь альбо праз Беларусь, візы Рэспублікі Беларусь не патрэбныя.

У выпадку ўвядзеньня візаў наша старонка дасьць дэталёвую інфармацыю аб парадку іх атрыманьня.

Тэлефон пасольства:
65-08-71,
факс: 65-22-32.

## Наш каляндар

*Падзеі, якія адбыліся ў лютым, а таксама дні нараджэньня дзеячоў беларускай культуры ў гэтым месяцы*

***1-га*** — 75 гадоў таму назад пачаліся заняткі ў ***Віленскай Беларускай Гімназіі*** (1919 г.).

***1-га Янка Шутовіч*** (1904-1974); грамадзкі дзеяч і журналіст; родам з в. Шутавічы Смаргонскага павету; скончыў Віленскую Беларускую Гімназію і Віленскі Унівэрсытэт; быў апошнім дырэктарам Віленскага Беларускага Музэю імя І.Луцкевіча; 10 гадоў адпакутваў у савецкіх канцлягерах.

***2-га Кастусь Каліноўскі*** (1838-1864); адзін з кіраўнікоў паўстаньня супраць маскоўскай няволі 1863 г.; родам з в. Мастаўляны Горадзенскага павету; узначаліў паўстаньне на тэрыторыі Літвы і Беларусі; выдаваў падпольную беларускую газэту «Мужыцкая Праўда»; згінуў на шыбеніцы ў Вільні.

***4-га*** — установчы сход ***Таварыства Беларускай Культуры*** ў Літве (1989 г.); сёлета яно адзначае 5-ую гадавіну свайго існаваньня; яго мэта спрыяць культуры і нацыянальнаму самаўсьведамленьню нашых суродзічаў, якія жывуць на тэрыторыі Літвы.

***18-га Максім Гарэцкі*** (1893-1939); пісьменьнік, літаратуразнавец, пэдагог; родам з в. Малая Багацькаўка на Мсьціслаўшчыне; жыў і працаваў на Віленшчыне, супрацоўнічаў з газэтай «Наша Ніва», у Вільні стварыў першую «Гісторыю беларускай літаратуры»: выкладчык Віленскай Беларускай Гімназіі; ахвяра таталітарнага рэжыму, згінуў на выгнаньні.

***19-га Казімер Сваяк*** (1890-1926); паэт і каталіцкі сьвятар; родам з в. Барані на Астравеччыне; скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю; ствараў беларускія школы, вёў багаслужбы на беларускай мове; памёр у Вільні, пахаваны на могілках Росы.

***20-га Павал Каруза*** (1906-1988); кампазытар, музыкавед, фальклярыст; родам з Глыбоччыны; скончыў Віленскую кансэрваторыю, быў пасламу польскім сойме ад беларускага насельніцтва; больш дваццаці гадоў пакутаваў у савецкай няволі, куды трапіў шляхам правакацыі; апошнія 20 гадоў жыў у Вільні, пахаваны на могілках на Ліпаўцы.

Падрыхтаваў Іван Міхальчук

*Прыведзены пералік, мабыць, не абыймае ўсе вартыя ўвагі даты; ад шаноўных чытачоў рэдакцыя спадзяецца яго папаўненьня.*



А. Адамовіч.

У вельмі складаны і трывожны для Беларусі час адыйшоў адзін з тых, каго без перабольшаньня можна назваць сумленьнем свайго народу. На 67-ым годзе жыцьця спынілася сэрца пісьменьніка, вучонага і палітыка АЛЕСЯ АДАМОВІЧА, якое цалкам было адданае служэньню сваёй Бацькаўшчыне і яе народу. Ён ні на хвіліну не спыняў сваёй высакароднай дзейнасьці, асабліва сёньня, калі чорныя хмары засьцілаюць небасхіл нашай Радзімы. Сіла духа гэтага чалавека была мацнейшая, чымся фізічныя магчымасьці сэрца, якое не стрывала такой напружанасьці. Беларусы Літвы ў смутку нізка схіляюць галаву перад мужнасьцю гэтага палымянага патрыёта і падзяляюць сум усіх сваіх сумленных суайчыньнікаў.

### ІНФАРМАЦЫЯ

*У эфіры па-беларуску:*
— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— сьпеўка хору «Сябрыны» адбудзецца 29 студзеня ў 16.00 у зале Дому нацыянальных суполак, вул. Раўгіклос 25 (I паверх)

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму зьмешчаных у ёй публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 15


## Запрашае «Сябрына»

«Запусты» альбо «масьленіца», як апошняе перад уступленьнем у вялікі пост сьвята, з традыцыйнымі блінамі, хлебным квасам і півам, вясёлымі песьнямі ды гульнямі, здаўна было ўласьцівае беларусам, асабліва на вёсцы, дзе яно зьвязвалася з абуджэньнем ад доўгага сну сілаў прыроды, відамі на будучы ўраджай і дастаткам у доме.

І хоць ня ўсім з нас сеяць ды касіць, клюб аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына» вырашыў зьвярнуцца да гэтага старога й добрага звычаю і запрашае Вас сёньня — 11 лютага 1944 году — да сьвяточнага стала, які будзе накрыты а 18.00 гадзіне ў Доме нацыянальных згуртаваньняў па вуліцы Раўгіклос, 25.

Уваход платны. Кошт уваходнага квітка 3 літы. Акрамя таго, пажадана мець з сабою пачуцьцё гумару і добры настрой.

Даведкі па тэлефонах 26-03-17, 77-68-46.

Чакаем вас!

Рада клюбу

## НАША ХРОНІКА

Сёньня беларусаў Віленшчыны найбольш хвалююць праблемы аднаўленьня беларускай сярэдняй школы і беларускага музэю ў Вільні. Пра глыбокія тутака традыцыі беларускага школьніцтва нагадвае нам юбілей Віленскай Беларускай Гімназіі. Сёлета 1-га лютага споўнілася 75 гадоў ад яе заснаваньня, менавіта ў гэты дзень пачаліся ў ёй заняткі. Нажаль былых вучняў, выпускнікоў і настаўнікаў гэтай легендарнай навучальнай установы засталося ўжо мала. Тым ня менш для іх гэта вялікае сьвята, зрэшты і для ўсіх тых, каго рупіць адукацыя на роднай мове. Многія з тых вэтэранаў раскіданы цяпер па ўсім сьвеце і вось беларусы Віленшчыны шлюць ім шчырае віншаваньне з гэтым юбілеем, жадаюць здароўя, бадзёрасьці, захаваньня ў душы тых ідэалаў, якія прывівала ім родная гімназія. Вызначаны ёю шлях, хаця марудна і пакутліва, дачакаецца свайго зьдзяйсьненя калі ня сёньня, дык у будучых пакаленьнях.

І хаця дзень юбілею ўжо мінуў і мо ня быў належным чынам адзначаны, але Вільня рыхтуецца ўшанаваць яго крыху пазьней, у больш зручны час. Сёньня ўжо на гэтую тэму праводзіліся перамовы і нарады ды вырашана было сьвяткаваньне 75-ых угодкаў Віленскай Беларускай Гімназіі перанесьці на цяплейшы час, а менавіта ў дні з 20-га да 22-га траўня. Думаецца, што да гэтага часу ўдзельнікі сьвяткаваньня, якія жывуць на Беларусі або ў бліжэйшым ці далейшым замежжы, здолеюць падрыхтавацца да прыезду на гэты час у Вільню.

Мо сёньня рана яшчэ казаць пра нейкую канкрэтную праграму імпрэзы, але яна будзе ў бліжэйшым часе выпрацавана і даведзена да ведама ўсіх зацікаўленых праз сродкі масавай інфармацыі.

Не забываючы ўшанаваць мінулае, віленчукі не спыняюць захадаў аб сучаснасьці. Вядуцца пошукі прымальнага варыянту здабыцьця асобнага будынку для рэарганізацыі беларускіх паралельных клясаў пры расейскай школе ў самастойную ўстанову.

Зразумела, што позірк беларусаў ужо даўно скіраваны ў бок Базыльянскіх муроў. Справа ў тым, што па сутнасьці на працягу ўсяго XX стагодзьдзя гэты комплекс выкарыстоўваўся для культурна-асьветных мэтаў пры самых розных рэжымах. У выніку тут і сфармаваўся па працягу першай паловы стагодзьдзя беларускі культурны цэнтр. Зрэшты і спрадвеку гэтыя будынкі выкарыстоўваліся для рэлігійных і культурных патрэбаў беларускага насельніцтва Вільні.

Да сёньняшняга часу тут разьмяшчаліся літоўскія навучальныя ўстановы, якія ў бліжэйшым часе зьменяць месца свайго знаходжаньня. Гэта і выклікала надзею на вяртаньне сюды беларускай сярэдняй школы і музэю.

Як мы ўжо паведамлялі, на гэтую тэму вяліся перамовы з камісіяй Літоўскага Сойму па культуры і адукацыі. Рада Таварыства Беларускай Культуры ў Літве паведаміла, што, на яе погляд, рэакцыя Камісіі Літоўскага Сойму была пазытыўная. Сёньня, калі знойдзена месца для разьмяшчэньня існуючых тут навучальных установаў, што стаяла на перашкодзе вяртаньню сюды беларускай школы і музэю, Таварыства атрымала новую інфармацыю, паводле якой можа быць аканчальна страчана надзея на рэалізацыю гэтага варыянту. Існуе ўжо загад Літоўскага ўраду аб перадачы ўсяго комплексу Віленскай каталіцкай архібіскупіі, быццам у якасьці вяртаньня ёй нерухомай маёмасьці, мінаючы патрэбы беларускага грамадзтва.

«Нас насьцярожвае фармулёўка — паведамляе Рада — «вяртаньне маёмасьці», паколькі гэты аб'ект да каталіцкага духавенства ніколі не належыў».

Такое рашэньне Літоўскага Ўраду можа выклікаць па меншай меры зьдзіўленьне.

Аглядальнік

## Весткі з Беларусі

* * *

2 лютага Старшыня ВС Беларусі М.Грыб выдаў даручэньне выконваючаму абавязкі старшыні КДБ Беларусі Г.Лавіцкаму разабрацца з рашэньнем рэспубліканскага страйкавага камітэту, у якім, на яго думку, мае месца заклік да гвалтоўнага зьвяржэньня ўлады. Аб сваім рашэньні М.Грыб паведаміў парлямэнту. Як ведама, 2 лютага страйкавы камітэт прыняў рашэньне пачаць 15 лютага безтэрміновы палітычны страйк, галоўным патрабаваньнем якога зьяўляецца адстаўка ўраду, стварэньне ўраду народнага даверу і датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савету.

Згодна з заявай кіраўніка страйкавага руху, дэпутата ВС С.Антончыка, страйк можа пачацца і раней, калі ўлады паспрабуюць выкарыстаць рэпрэсыўныя сродкі спраць удзельнікаў страйку.

* * *

На сёньня ў Беларусі існуе 630 грамадзкіх рухаў і 15 партый. Паводле дадзеных Міністэрства юстыцыі Беларусі ў мінулым годзе афіцыйны статус атрымалі 5 новых палітычных і 159 грамадзкіх аб'еднаньняў. На чарзе чакаюць вырашэньня дакумэнты яшчэ 3 партый.

* * *

Паводле дадзеных міністэрства фінансаў, зьнешні доўг Беларусі складае 524,7 млн. дал. Урад уклаўся ў ліміт, вызначаны Вярхоўным Саветам. На сёлета ліміт складае 1,3 млрд. дал., а ўлічваючы абавязацельствы перад другімі дзяржавамі былога Саюзу, то складзе цэлых 2 млрд. дал.

* * *

Згодна інфармацыі, атрыманай з пасольства РБ у Вашынгтоне, афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамэнту ЗША М.Макары правёў брыфінг. Ад імя ЗША была выказана заклапочанасьць у сувязі з адстаўкай старшыні ВС С.Шушкевіча. Разам з тым М.Макары адзначыў важную заяву міністра П.Краўчанкі аб нязьменнай і пасьлядоўнай лініі на правядзеньне зьнешняй палітыкі і перш за ўсё ў галіне раззбраеньня.

* * *

Міністр замежных спраў Беларусі П.Краўчанка прыняў дэлегацыю Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Польшчы на чале з яго старшынёй Я.Сычэўскім. У часе цёплай сяброўскай гутаркі госьці расказалі аб жыцьці беларусаў Польшчы, дзейнасьці грамадзтва, накіраванай на прапаганду беларусай культуры і традыцыяў. Міністр запэўніў, што РБ зацікаўлена ва ўмацаваньні сувязей з беларусамі, якія жывуць ў Польшчы.

* * *

17-20 лютага ў Менску адбудзецца навукова-практычная канфэрэнцыя «Галоўныя пытаньні сацыяльнай палітыкі і гаспадараньня ў Беларусі і суседніх краінах». У ёй прымуць удзел вучоныя і прадстаўнікі розных партыяў і рухаў Беларусі, краін СНД, Усходняй Эўропы, Аўстрыі, Германіі, Фінляндыі, Швэцыі.

* * *

У Менску знаходзілася група экспэртаў Міжнароднага Валютнага Фонду. Місія МВФ падтрымлівае імкненьне Беларусі да больш цесных эканамічных сувязей з Расеяй. Аднак была выказана думка МВФ, у якой указана на магчымыя адмоўныя наступствы пры аб'еднаньні грашовых сыстэмаў дзьвюх краін, калі Расеі ня ўдасца стабілізаваць сваю эканоміку.

* * *

У Менску вяліся перамовы з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ісламскай Рэспублікі Іран Б.Мозахеры. У часе сустрэчы сп. Мозахеры пацьвердзіў магчымасьць Ірана аказаць дапамогу з нафтапрадуктамі. У сваю чаргу, іранскі бок зацікаўлены ў куплі беларускіх аўтамашын, трактароў і прадукцыі цяжкага машынабудаваньня. Разглядаецца пытаньне аб арэндзе беларускіх самалётаў з экіпажамі.

* * *

Беларусь першая з рэспублік былога Саюзу ўключана ў Карпатыўную праграму па міжнароднай дыпляматыі, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Вашынгтоне. Згодна з праграмай, на стажыроўку ў ЗША будуць запрашацца супрацоўнікі дзяржаўных структураў рэспублікі.

## Дадатак да «Нашага календара»

4 лютага дзень народзін Тадэвуша Касьцюшкі, нацыянальнага героя многіх народаў — беларускага, польскага, літоўскага, амэрыканскага. У 1794 годзе Т.Касьцюшка ўзначаліў вызвольнае паўстаньне супроць захопу Рэчы Паспалітай. А перад гэтым, будучы ў зміграцыі, Т.Касьцюшка вызначыўся ў вайне за незалежнасьць ЗША.

Дарэчы, у Беларусі створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па сьвяткаваньню 200 гадавіны вызвольнага паўстаньня 1794 году. Камітэт прапануе цэлы шэраг цікавых мерапрыемстваў: пабудову помнікаў Т.Касьцюшку і ягоным паплечнікам, аднаўленьне сядзібы ў мястэчку Косаў (Берасьцейская вобл., Рэстубліка Беларусь), дзе нарадзіўся Т.Касьцюшка і многае іншае. Для жадаючых узяць удзел у сьвяткаваньнях падаем тэлефон аргаізацыйнага камітэту ў Менску 32-54-46.

## Янка Шутовіч

*Да юбілею 90-годзьдзя*

Сёньня, калі сярод беларускага грамадзтва ўзьніклі настойлівыя намаганьні адрадзіць у Вільні беларускі музэй, які на працягу дзесяцігодзьдзяў пасьпяхова служыў абуджэньню самасьвядомасьці жыхароў Віленшчыны і зьберажэньня здабыткаў беларускай культуры, міжволі згадваецца постаць апошняга дырэктара гэтага музэю Янкі Шутовіча. Ён усімі сіламі змагаўся за захаваньне гэтых каштоўнасьцяў у самых няспрыяльных умовах ваеннага часу і не спыняў сваіх намаганьняў аж да хвіліны, калі яго самога сталінскія апрычнікі не загналі ў засьценкі ГУЛАГ-у, а музэй зьліквідавалі злачынным актам, пазбаўляючы беларусаў Літвы правоў чалавека і грамадзяніна. Як бачым, лёс Янкі Шутовіча, як і бальшыні прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, быў пакутлівым і няпростым.

Нарадзіўся ён 1-га лютага 1904 году ў вёсцы Шутавічы на Смаргоншчыне былой Віленскай губэрні. Скончыў Віленскую Беларускую Гімназію, затым юрыдычны факультэт Віленскага унівэрсытэту. У міжваенным часе быў актыўным у беларускім культурна-грамадзкім руху. Жыў у Вільні, займаўся дасьледчыцкай і публіцыстычнай дзейнасьцю. Публікаваўся ў часопісах «Шлях моладзі», «Калосьсе». Пісаў артыкулы з галіны гісторыі, літаратуразнаўства, вартым увагі было яго дасьледваньне пра паэта XIX ст. Адама Гурыновіча. З 1933 да 1939 г. быў рэдактарам-выдаўцом часопісу «Калосьсе», на старонках якога друкавалася бальшыня заходне-беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

З 1941 г. Шутовіч быў прызначаны дырэктарам Віленскага Беларускага музэю. У той час музэй знаходзіўся ў сыстэме Літоўскай Акадэміі Навук, пасьля (як пісаў Янка Шутовіч) быў выдзелены ў асобную самастойную адзінку, падпарадкаваную непасрэдна Дэпартамэнту навукі і мастацтва. Штатных супрацоўнікаў было тады чатыры і яшчэ колькі асоб працавала ў якасьці няштатных. У той час вялася некаторая работа па стварэньню новых інвэнтарных кніг, парадкаваньню экспанатаў, хаця час тады быў ня дужа спрыяльным, улічваючы ваенныя цяжкасьці.

У пачатку 1944 г. музэй быў выселены з свайго памешканьня ў Базыльянскіх мурах нямецкімі акупацыйнымі ўладамі дзеля стваарэньня тут ваеннага шпіталю і перавезены ў Мастацкі Інстытут побач з касьцёлам сьв. Ганны, дзе затым і быў канчаткова зьліквідаваны. Дзейнасьць музэю таго часу, яго гісторыя і часткова працэс ліквідацыі апісаны ў зьмястоўнай манаграфіі Янкі Шутовіча, напісанай да 50-годзьдзя музэю ў 1971 г. Нажаль у той час ніхто не адважыўся яе апублікаваць і яна дасюль чакае свайго выдаўца. Тымчасам у ёй ёсьць цікавыя і маладомыя эпізоды. Напрыканцы вайны над музэем навісла пагроза вывазу яго акупантамі ў Нямеччыну. Узьнікла думка найбольш каштоўныя экспанаты захаваць у падзямельлях касьцёла сьв. Міхала, дзе гаспадарыў кс. Адам Станкевіч. Гэта і было выканана калектывам музэю, хаця гэта была зьвязана з вялікімі цяжкасьцямі.

Мінуў фронт, экспанаты музэю і ў інстытуце і ў касьцёле на шчасьце засталіся някранутымі. Пагроза музэю прыйшла зусім з другога боку — з боку ліквідатараў беларускай культуры Савецкай Беларусі і Савецкай Літвы.

Янка Шутовіч адпакутаваў наканаваныя яму лёсам гады ліхалецьця і ў 1956 годзе вярнуўся ў Вільню. Уладкаваўся начным вартаўніком у Дзяржаўнай карціннай галерэі, што была ў Катэдральным саборы. Яго жонкай была літоўская паэтка Она Міцоце, якая дзесяць гадоў чакала мужа з вастрогу, хаця ёй прапаноўвалі адмовіцца ад яго. Яна выдала некалькі зборнічкаў вершаў, зборнік прозы, некалькі кніжак для дзяцей і перакладаў з іншых моваў, у тым ліку і з беларускай. Спрабавала пісаць і па-беларуску, стварыла п'еску «Чароўная скрыначка» для беларускага школьнага тэатру. Янка перажыў жонку на адзін год.

Памёр Янка Шутовіч у 1974 годзе, пахаваны на могілках у Павільнісе. Такім чынам сёлета споўнілася 90 гадоў ад яго нараджэньня і спаўняецца 20 гадоў ад яго сьмерці.

Лявон Луцкевіч

## *Нам пішуць — адказваем*

У рэдакцыю «Беларуса Віленшчыны» прыйшоў ліст. Ліст незвычайны таму, што піша яго чалавек, які знаходзіцца ў калёніі. Мы былі прыемна зьдзіўленыя зьместам ліста. Спадар М.С.Пашэль зьвяртаецца да нас з просьбай аб дапамозе ў вывучэньні роднай мовы, роднай культуры. Зразумела, мы ня можам адмовіць і дасылаем яму падручнікі, мастацкую літаратуру, часопісы. У наш час кожны чалавек рней ці пазьней прыходзіць да таго, што ён ня проста савецкі і пачынае пытацца, чаму ён ня ведае сваёй мовы, гісторыі. І гэта добра, таму што сьведчыць аб тым, што людзі перастаюць быць натоўпам. Кожны разумее, што ён асоба, вучыцца адказваць за сябе, за тое, што ёсьць і за тое, што будзе. Ад гэтага зьяўляецца ўпэўненасьць у будучыні.

## ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрыны» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.


Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.



Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49



# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 16

## НАША ХРОНІКА

У 26-ым томе Літоўскай энцыклапэдыі, выдадзенай у Злучаных Штатах Амэрыкі на 47-ай старонцы ёсьць зацемка пра існаваньне ў Літве з 1925 году Літоўска-беларускага Таварыства, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі літоўскай інтэлігенцыі, у тым ліку ад беларусаў Вацлаў Ластоўскі. Яно спыніла сваю дзейнасьць у 1929 годзе і затым аднавілася ў 1933 годзе па ініцыятыве літоўска-беларускага цэнтру. Старшынёю тады быў абраны інжынер Клаўдзій Дуж-Душэўскі, а сябрамі былі прафэсар Аўгустайціс, інжынер Аўкштоліс, Мікалас Біржышка, а таксама Тадас Іванаўскас з жонкай Ганаратай. Нагадаем, што прафэсар Тадас Іванаўскас гэта брат вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага.

Сёлета 8-га лютага адбыўся арганізацыйны сход дзеля адраджэньня колішняга літоўска- беларускага таварыства. У ім удзельнічала каля 40 чалавек. Абраная на сходзе Рада пад старшынствам Сьцяпана Дуж-Душэўскага, сына колішняга старшыні, у бліжэйшым часе падрыхтуе статут аднаўленага таварыства, зарэгіструе ў Міністэрстве юстыцыі і скліча канфэрэнцыю, на якой адбудуцца выбары кіруючых органаў. Сярод ініцыятараў быў спадар Кряпшыс і спадарыня Саўдаргене. Асноўнай мэтай даваеннага таварыства было збліжэньне літоўскага і беларускага народаў ды падтрыманьне барацьбы за незалежнасьць Беларусі. Цяпер мэтай застаецца зьбліжэньне двух народаў, якія ў прынцыпе дасягнулі свайго незалежнага існаваньня. У склад Таварыства змогуць увайсьці ўсе грамадзяне Літвы, якія падзялюць мэты Таварыства.

* * *

Клюб аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына» паставіў перад сабой мэту адрадзіць народныя сьвяты. 11 лютага ў зале Дому нацыянальных згуртаваньняў (па вул. Раўгіклас 25) сабралася каля 50 асобаў, каб адсьвяткаваць «Запусты». Жанчыны накрылі сьвяточны стол паводле старога звычаю з традыцыйнай ежай, такой як: бліны, аладкі, дранікі, піражкі, хлебны квас, і інш. За найсмачнейшыя стравы гаспадыні атрымалі ўзнагароды (спонсар — «Гуда»). На сьвяце гучалі беларускія песьні, грала музыка, «цыганка» з гумарам прадказвала будучыню, танцавалі... Пакідалі сьвяточную вечарыну ў добрым настроі, удзячныя арганізатарам.

Аглядальнік.

## Навіна!

Распачынаецца падпіска на штотыднёвую газэту «Пагоня». Газэта «Пагоня» — рэгіянальны заходнебеларускі агляд, асьвятляе падзеі на Гарадзеншчыне, Беласточчыне, Віленшчыне. Пачынаючы з сакавіка месяца вы зможаце атрымліваць цікавую інфармацыю, а таксама праграму беларускага тэлебачаньня.

Кошт падпіскі на месяц — 1.60 літа на чатыры месяцы — 6.40 літа, да канца года — 16 літаў. Падпіску можна аформіць у Таварыстве Беларускай Культуры, вул. Жыгіманту 12-3, альбо паштовым пераводам на адрас: прадпрыемства «Вея», Г.Валюкавічусу, вул. Гінею 4, Вільня 2001. На блянку паштовага перавода пазначце, на які тэрмін вы выпісваеце газэту «Пагоня» і не забудзьце чытэльна напісаць свой хатні адрас.

Выпісвайце і чытайце беларускую газэту «Пагоня»!

## Весткі з Беларусі

* * *

У цэнтры ўвагі сродкаў масавай іфармацыі знаходіцца пытаньне ўваходжаньня Беларусі ў рублёвую зону і аб'яднаньня грашовых сыстэмаў абедзьвюх краінаў. У стварэньні адзінай рублёвай зоны зацікаўленыя кіруючыя ўлады Беларусі, якія спадзяюца такім чынам паправіць цяжкое эканамічнае становішча ў рэспубліцы. Апазыцыйныя дэмакратычныя сілы Беларусі, а таксама відныя вучоныя Расеі выступаюць супраць аб'яднаньня, якое, на іх думку, мае аднабаковыя палітычныя мэты, вядзе да дэстабілізацыі эканомікі Расеі і страты сувэрэнітэту Беларусі.

* * *

17-20 лютага г.г. беларускі фонд імя братоў Луцкевічаў плянуе правесьці ў Менску міжнародную навукова-практычную канфэрэнцыю «Галоўныя пытаньні сацыяльнай палітыкі і гаспадараньня ў Беларусі і ў суседніх краінах».

* * *

Урадам рэспублікі прынята пастанова аб мадэрнізацыі аўтамабільнай дарогі Брэст — Менск — граніца Расейскай Фэдэрацыі ў адпаведнасьці з эўрапейскімі патрабаваньнямі і аб увядзеньні платы за праезд па ёй. Мадэрнізацыя будзе праведзена за кошт замежных інвэстыцый і ўласных фондаў Беларусі.

* * *

У Славакіі, у горадзе Осрблі стартаваў чэмпіянат сьвету па біятлону сярод юніёраў. У камандный гонцы на 10 км зборная РБ заваявала залатыя медалі.

* * *

У адной з воінскіх часьцей Брэсцкага гарнізону з бронетранспарцёра выкрадзены буйнакалібэрны кулямёт. Спэцыялісты ацэньваюць яго кошт у 200 тыс. даляраў. Ваенная пракуратура вядзе расьследаваньне.

* * *

Звычайная настаўніца Ніна Снытко стала гераіняй дакумэнтальнай кнігі «Настаўніца Ніна і дзеці», якая выйшла ў Токіо. Яе аўтар — японскі прафэсар Руіці Хіракава двойчы пабываў на абпаленай радыяцыяй зямлі Беларусі. У сваім дакумэнтальным нарысе ён захапляецца мужнасьцю людзей, што жывуць тут. Выдаўцом кнігі, якая выйшла на японскай, ангельскай і расейскай мовах выступіў няўрадавы Чарнобыльскі дзіцячы фонд у Японіі.

* * *

105 гадоў споўнілася Вользе Шапялевіч, жыхарцы вёскі Бужа Пухавіцкага раёну. Калектывізацыя, рэпрэсіі савецкага рэжыму, вайна — усё гэта перажыла Вольга Шапялевіч. Нядаўна яе рэабілітавалі.

* * *

У рэйтынгу дзелавой рэпутацыі краін сьвету, згодна часопісу «Еўрамані» Беларусь знаходзіцца на 139 пазыцыі. Рэспубліка аказалася паміж Югаславіяй і Угандай. Із складу былога СССР наперадзе аказаліся толькі Эстонія (122-е месца), Літва (130), Латвія (132) і Расея (137). Экспэрты ўлічвалі і эканамічныя паказчыкі краін, і палітычную рызыку ў дзелавой сфэры.

* * *

Намесьнік міністра замежных спраў Беларусі А.Сычоў на прэсканфэрэнцыі заявіў, што ў сувязі з скарачэньнем звычайных узбраеньняў склалася складаная сытуацыя. У рамках пагадненьняў Беларусь абавязана зьнішчыць танкаў у 10 разоў больш чым Англія, у 50 разоў больш чым Францыя і ў 1,7 разоў больш чым ЗША. І калі на першым этапе скарачэньня Беларусь выканала свае абавязацельствы, затраціўшы на гэта 2,5 млн. дал., то на правядзеньне наступнага раззбраеньня ёй спатрэбіцца яшчэ 8 млн. дал. І гэта ва ўмовах эканамічнага крызісу. Дасягнута дамоўленасьць, што ў бліжэйшым часе ў Менск прыбудуць экспэрты Англіі, Германіі і Францыі каб разгледзець пытаньні дапамогі Беларусі ў скарачэньні звычайных узбраеньняў.

## Павал Каруза

Сярод віленчукоў, якія былі вядомыя ў нашым горадзе яшчэ ў міжваенным часе як у галіне музычнай культуры, так і сваёй грамадзкай дзейнасьцю, варты ўвагі Павал Каруза. Яшчэ ў той час гэты бясспрэчна таленавіты юнак здолеў здабыць музычную асьвету, скончыўшы віленскую музычную кансэрваторыю. Ён тады цалкам захапіўся беларускай народнай песьняй, глыбока разумеў яе вытокі і адчуваў яе хараство.

Мо гэта здасца дзіўным, але ж продкі Паўла прывандравалі некалі на Беларусь з той далёкай сонечнай і сьпеўнай краіны Італіі, праслаўленай на ўвесь сьвет сваімі песьнямі і сьпявацкімі талентамі. Паўлу Карузу было вядома, што ўжо не адно пакаленьне яго дзядоў і прадзедаў жылі на Беларусі. У тыя даўнія часы беларускія магнаты нярэдка запрашалі да сябе на службу італіянцаў, якія славіліся як выдатныя спэцыялісты ў галіне садаводзтва і гародніцтва. Ня выключана, што такім шляхам трапілі ў наш край продкі Паўла Карузы. Дзед і бацька яго ўжо аралі і засявалі свой надзел на Глыбоччыне, як карэнныя земляробы. Сам жа Павал ня толькі адчуваў сябе ўжо цалкам беларусам, але дужа рана ўключыўся ў нацыянальна-вызваленчы і культурна-грамадзкі рух Заходняй Беларусі.

Радзіўся ён 25-га лютага 1906 году, пражыў доўгае, хаця і вельмі няпростае жыцьцё ды памёр, не дажыўшы некалькі дзён да сваёй чарговай, 82-ой гадавіны. Яго жыцьцёвы шлях пачынаўся і скончыўся ў Вільні.

Пад уплывам зьбіральніка і прапагандыста беларускай песьні Антона Грыневіча Каруза пачаў запісваць песенны фальклёр. Скончыўшы кансэрваторыю, стаў кіраўніком хору Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, супрацоўнічаў у пэрыядычным друку. Хутка заваяваў прызнаньне як актыўны працаўнік на беларускай культурна-грамадзкай ніве. У 1928 годзе Каруза быў абраны паслом у Сойм Польшчы ад жыхароў Сьвянцяншчыны, як прадстаўнік ад беларускага насельніцтва.

Аднак паслом быў толькі два гады, бо гэты склад сойму доўга не ўтрымаўся, у 1930 годзе быў зьменены і з таго часу беларусы ўжо ня мелі свайго прадстаўніка ў польскім парлямэнце.

У той час ужо магчымасьці культурнай і грамадзкай працы ў Вільні пад польскай акупацыяй былі дужа абмежаваныя. Маладому музыканту, асабліва беларусу, цяжка было забясьпечыць сабе існаваньне, а тым больш варункі для працы.

Мабыць таму ня было вялікай цяжкасьці пры дапамозе падману і ашуканства паспрабаваць звабіць Паўла Карузу ў Савецкі Саюз, каб там з ім расправіцца, хаця выяжджаць туды ён ня меў намеру.

Ён сілком быў перакінуты цераз граніцу і там адразу ж арыштаваны. Адбылося гэта ў 1934 годзе. Такім чынам у біяграфіі Паўла Карузы больш 20-ці год выпала на вастрогі, лягеры і ссылкі, ажно да той адлігі, якая наступіла пасьля сьмерці Сталіна. Толькі тады ён здолеў вярнуцца з выгнаньня. Дасьледчыкам давядзецца шмат папрацаваць, каб высьвятліць усю матывацыю перакідкі Карузы ў Савецкі Саюз; каб далучыць да плеяды дзеячоў беларускай культуры, якія былі загубленыя бальшавікамі ў трагічныя 30-ыя 40-ыя гады. Сярод іх былі многія выхадцы з Заходняй Беларусі, у тым ліку і Антон Грыневіч, настаўнік і паплечнік Карузы па зьбіраньню беларускага песеннага фальклёру, які загінуў у няволі.

У Вільні Павал Каруза апынуўся зноў у 1957 годзе. Працаваў як дырыжор і кампазытар у Дзяржаўным ансамблі польскай песьні і танца, бо ў Савецкай Літве беларускія мастацкія калектывы былі катэгарычна забароненыя. Пазьней працаваў настройшчыкам музычных інструмэнтаў у Мастацкай школе імя Чурлёніса. Жыў вельмі сьціпла, бо ў тыя застойныя часы магчымасьці для яго творчай працы былі цалкам абмежаваныя, да таго ж знаходзіўся пад сталым наглядам органаў дзяржаўнай бясьпекі, хаця афіцыйна і быў рэабілітаваны.

Усё ж Каруза стала кантактаваў з беларускімі фальклярыстамі ў Менску. Супрацоўнічаў з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук Беларусі.

Памёр у лютым 1988 г., пахаваны на могілках, што на Ліпаўцы. Таварыства Беларускай Культуры ў Літве мяркуе ўшанаваць гэтага дзеяча беларускай культуры абсталяваньнем адпаведнага трывалага надмагільля з яго выявай і заклікае грамадзтва матэрыяльна дапамагчы ў гэтай ініцыятыве. (Разьліковы рахунак ТБК №1700653 у камэрцыйным банку Аўробанкас)

Лявон Луцкевіч

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрыны» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49





# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 17


*Пазнайма свой горад*

## Касьцёл сьв. Міхала

У прыгожым куточку старое Вільні, які стварае своеасаблівы ансабль старажытнай віленскай архітэктуры, прыблізна 400 гадоў таму назад быў закладзены касьцёл сьв. Міхала. Зусім непадалёк ад яго знаходзяцца знакамітыя касьцёлы сьв. Ганны і бэрнардынаў, найбольш характэрныя ўзоры віленскай готыкі. Зусім побач — палац канцлера і гэтмана Вялікага княства Літоўскага ды ваяводы стольнага места віленскага Льва Сапегі. За палацам узвышаецца вялікі Прачысьценскі сабор, што быў некалі галоўным храмам незалежнай праваслаўнай мэтраполіі старажытнай Літвы.

Ініцыятарам пабудовы і фундатарам касьцела сьв. Міхала і быў менавіта Леў Сапега. Ён упісаўся ў гісторыю Вялікага княства, як знакаміты і слаўны палкаводзец ды таленавіты палітычны дзеяч, стваральнік найбольш дасканалай трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статуту, што быў надрукаваны на беларускай мове ў 1588 г. у віленскай друкарні братоў Мамонічаў.

Касьцёл і збудаваны побач зь ім кляштар быў прызначаны Сапегам для ордэна бэрнардынак, што дагэтуль мелі сваю сядзібу на Зарэччы, а ня маючы там свайго касьцёла, змушаны былі хадзіць пешшу на багаслужбы ў горад. Урачыстасьць адкрыцьця касьцёла адбылася 29 красавіка 1596 г. пры асабістым удзеле Льва Сапегі.

Падчас ваенных падзеяў 1655 г. касьцёл быў моцна зьнішчаны, але ўжо ў 1662 адрэстаўраваны, затым капітальна адноўлены ў пачатку XIX стагодзьдзя. Дасьледчыкі віленскай архітэктуры адносяць касьцёл сьв. Міхала да стылю рэнэсансу. Гэты стыль зьявіўся тады, калі тут яшчэ будаваліся гатыцкія касьцёлы. У аснаўным гэта было за панаваньня каралёў Жыгіманта Старога і Жыгіманта Аўгуста. У гэтым стылі быў пабудаваны Ніжні Замак, які стаў тады віленскай каралеўскай рэзыдэнцыяй, але да нашых часоў ён не захаваўся.

Эпоха рэнэсансу была ня дужа прадуктыўнай у будове віленсіх касьцёлаў. Бадай адзіны касьцёл, блізкі па свайму стылю да рэнэсансу, гэта і ёсьць касьцёл сьв. Міхала.

Дух рэнэсансу найбольш поўна выражаецца ў яго інтэр'еры. Касьцёл перакрыты шырокім скляпеньнем, якое апіраецца на магутныя пілястры з карынфскімі капітэлямі — гэтыя пілястры нішто іншае, як гатыцкія кантрафорсы, быццам уціснутыя ў сярэдзіну касьцёла. Скляпеньне ўпрыгожанае ўзорамі з зорак, сэрцаў і разэтак.

У вонкавай архітэктуры касьцёла сьв. Міхала готыка, можна сказаць, спалучаецца з барокам, мінаючы рэнэсанс. Гатыцкі характар будоўлі падкрэсьлівае высокая страха, кантрафорсы бакавых сьцен, а на фасадзе гатыцкімі зьяўляюцца агульныя прапорцыі, бакавыя вежачкі; вузкія пілястры, выцягнутыя формы вокнаў.

Найпрыгажэйшай аздобай інтэр'еру зьяляецца марамуровы помнік Льва Сапегі, выкананы ў стылі ракако, устаноўлены пры сьцяне справа ад галоўнага алтара. Адначасова ён зьяўляецца помнікам абедзьвюх яго жонак, тут жа былі пахаваны і яго сыны. У сярэдзіне помніка выява самога Льва Сапегі з жоўтага мармуру ў ляжачай позе, ніжэй, паабапал, табліцы, прысьвечаныя яго жонкам. Падчас ганебнай вайны 1655 г. маскоўскія захопнікі-рабаўнікі моцна зьнявечылі касьцёл і помнік Сапегі, зрабавалі каштоўнасьці, у тым ліку і труны, выкінуўшы зь іх пахаваных тут нябожчыкаў. Пазьней астанкі Льва Сапегі і яго родзічаў былі складзены ў новыя труны і яны зьмяшчаюцца пад галоўным алтаром.

Для беларусаў Віленшчыны прадстаўляе цікавасьць факт, што нейкі час у касьцёле сьв. Міхала быў пробашчам Адам Станкевіч, які праводзіў тут багаслужбы на беларускай мове. Падчас сьвятарства айца Адама (1944 г.) падзямельлі нейкі час выкарыстоўваліся, за яго згодай, для перахаваньня найбольш каштоўных экспанатаў віленскага беларускага музэю перад небясьпекаю вывазу іх акупантамі ў Нямеччыну.

Дзядзька Лявон

## Княгіня Магдалена Радзівіл

Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 г. у Варшаве, але з часам лёс зьвязаў яе з Беларусьсю і Літвой. Звалі яе Магдалена з Завішаў. Узгадаваная ў арыстакратычнай сям'і, у модным у той час французскім духу, маючы ледзьве 20 гадоў, выйшла замуж за 49 гадовага ўдаўца Людвіка Красінскага, каторы праз 13 гадоў памёр. Застаўшыся ўдавой, заўжды рэлігійная Магдалена занялася філянтрапічнай дзейнасьцю, фінансавала пабудову касьцёла ў Варшаве і шпіталя ў Менску.

Пасьля сьмерці бацькі атрымала ў спадчыну на Беларусі ў Ігуменскім павеце (сёньня Чэрвеньскі раён) частку яго маёнткаў. У 1906 годзе выйшла замуж за значна маладзейшага за яе нашчадка вядомага ў мінулым роду арыстакратаў Вялікага княства Літоўскага Мікалая Радзівіла, капітана царскай арміі, па свайму характару авантурнага і гарачага, але настроенага вельмі дэмакратычна. Ня гледзячы на княжы тытул, Мікалай Радзівіл не цярпеў арыстакратычнага асяродзьдзя і наадварот ахвотна сябраваў з народам: гаварыў толькі па-беларуску і насіў простую сялянскую вопратку. Ён цікавіўся беларускім фальклёрам, запісваў народныя песьні і пасылаў іх у геаграфічнае таварыства ў Пецярбург. За ўсё гэта польскае арыстакратычнае грамадзтва абвесьціла яму байкот, у адказ на які княгіня Магдалена заявіла, што ня лічыць сябе полькай. У газэце «Минское русское слово» яна пісала: «Лічу сябе беларускай літоўскага паходжаньня, так, як і мой муж, полькай сябе поўнасьцю не лічу».

Пацьверджаньнем гэтага тэзісу была яе дабрачынная дзейнасьць. Жывучы ў Менску, яна фінансавала заснаваньне беларускіх школаў, сялянскіх крамаў і таварыстваў, уфундавала ўнівэрсытэцкія стыпэндыі для моладзі, падтрымлівала бібліятэку беларускага кола пры Духоўнай Акадэміі ў Пецярбурзе, а таксама першыя беларускія выдавецтвы «Загляне сонца ў наша ваконца», Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні і каталіцкі часапіс «Беларус». Дом Магдалены Радзівіл у Менску і яе палац у Кухцічах да 1918 году былі месцамі, куды часта наведваліся дзеячы беларускага адраджэньня Вацлаў Іваноўскі, Аляскандр Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы і другія. Адначасова княгіня была мэцэнатам літоўскіх каталіцкіх арганізацыяў, за што ў 1922 годзе была ўзнагароджана ўрадам незалежнай Літвы Вялікім Крыжом Ордэну Гедыміна.

Муж Магдалены Мікалай загінуў у 1914 годзе на вайне. Сама княгіня была актыўнай спаборніцай ідэі вуніі беларускіх земляў з Польшчай, каторая не атрымала аднак падтрымкі грамадзтва. Польская прэса востра атакавала яе, а ўрад адказаў у дазволе на вяртаньне ў родную для княгіні Варшаву. Таму пасьля вайны яна абаснавалася сьпярша ў Літве, а далей накіравалася на захад. Жыла нейкі час у Нямеччыне, а затым у Фрыбургу (Швэйцарыя), дзе і памерла 6 студзеня 1945 году.

Постаць княгіні Магдалены супярэчная як і ўвесь яе жыцьцёвы шлях. таму ў літаратуры можна сустрэць супярэчныя ацэнкі яе дзейнасьці. Аднак ня можа быць ніякага сумліву, у тым, што больш ці менш сьвядома яна актыўна прылучалася да справы беларускага народу, дачкой якога лічыла сябе сама.

К.А.Ш.

## Весткі з Беларусі

* * *

На мітынгу, які адбыўся 15 лютага на плошчы Незалежнасьці ў Менску, прадстаўнікі страйкаму незалежных прафсаюзаў і БНФ перадалі патрабаваньне старшыні Вярхоўнага Савета М.Грыбу аб тэрміновай адстаўцы ўрада Кебіча, датэрміновых выбарах ВС на шматпартыйнай аснове і выдзяленьні эфірнага часу на радыё і тэлебачаньні для рады страйкамаў. Страйкамы надалей праводзяць арганізацыйнаю працу і заклікаюць працоўныя калектывы да страйку. Аб неабходнасьці тэрміновай рэфармацыі законатворчай і выканаўчай уладаў заяўляюць і афіцыйныя прафсаюзныя арганізацыі Беларусі.

* * *

Рашэньнем Вярхоўнага суда РБ зьліквідавана «Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў». Прычынай для гэтага сталі прэтэнзіі да тэксту статута арганізацыі, але вайскоўцы лічаць, што сапраўдная прычына — удзел вайскоўцаў у ахове рабочых у часе палітычнага страйку. Адразу пасьля суда адбылося паседжаньне БЗВ, на якім было прынята рашэньне аб стварэньні новай арганізацыі — патрыятычнага руху «Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў», якое зьяўляецца правапераемнікам БЗВ.

* * *

Дырэктар лёнданскага інстытуту параўнальнага і міжнароднага права П.Гардэнр і віцэстаршыня камітэту па правах чалавека Б.Баўэрынг прыехалі ў Менск па даручэньні фонду «Ноў-Хаў». Мэта прыезду — падрыхтаваць даклад аб прававым забясьпечаньні ў РБ. На падставе гэтага дакладу фонд выдасьць рэкамэндацыі для правядзеньня прававой рэформы.

* * *

Заходняя мяжа Беларусі стала месцам незаконнай пераправкі групаў людзей, у большыні ўетнамскай нацыянальнасьці, на захад. Грамадзяне Ўетнаму, якія раней працавалі на Беларусі, але дамоў не паехалі, заняліся гэтым, хоць і крымінальным, але прыбытковым бізнэсам. Такіх групаў толькі на Брэсцкай памежні за 1993 год затрымана 23. Згодна меркаваньняў памежнай службы ў гэтым годзе іх будзе яшчэ больш.

* * *

Колькасьць насельніцтва Рэспублікі Беларусі на 1.1.94 складала 10372 тысяч і павялічылася на 26 тысяч чалавек. У 1993 годзе нараджальнасць склала 11,4 на 1000 чалавек супраць 12,4 у 1992 годзе, сьмяротнасьць — 12,4 супраць 11,3. Усяго на 11000 чалавек больш памёрла, чым нарадзілася. Агульная колькасьць насельніцтва павялічылася за кошт міграцыйнага прыросту.

* * *

200 мільёнаў марак зьбіраецца выдзяліць ФРГ Беларусі на кампэнсацыйныя выплаты былым вязьням фашысцкіх лягераў у гады другой сусьветнай вайны. Мяркуецца, што грошы будуць выплачаны на працягу 3 гадоў.

* * *

Як паведамляе газэта «Рэспубліка», на 10 вакантных рабочых месцаў у краіне прыходзіцца 53 беспрацоўных. За год гэта лічба вырасла амаль у 4 разы. Афіцыйны статус беспрацоўнага ў канцы 1993 г. у рэспубліцы мелі 66,2 тыс. чалавек, або 1,4% працаздольнага насельніцтва.

* * *

З 7 да 14 лютага на возеры Нарач па ініцыятыве навукова-тэхнічнага камітэту Міністэрства Абароны Рэспублікі Беларусі сумесна з Дзяржаўным камітэтам па экалёгіі праходзіў міжнародны сэмінар на тэму «Экалягічныя праблемы дэмілітарызацыі». Удзел у працы прымалі экспэрты ЗША, Расеі, Бэльгіі, Англіі і Чэхіі.

## СА СТУДЭНЦКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Нядаўна студэнты трэцяга курсу беларускага аддзяленьня Віленскага Пэдагагічнага Ўнівэрсытэту адзначылі свой мэдыюм. Мэдыюм якраз супаў з заканчэньнем сэсіі, таму сьвяткаваньне працягвалася цэлы тыдзень.

Пасьля таго, як пэдынстытут ператварыўся ва ўнівэрсытэт, у студэнтаў зьявілася магчымасьць атрымаць дадатковую спэцыяльнасьць. Больш за ўсё студэнтам-беларусам падабаецца псыхалёгія. Увогуле праграма вельмі шырокая, але ў першую чаргу студэнты вывучаюць тое, што непасрэдна датычыць Беларусі: яе гісторыю і культуру.

Усё ў нас добра — і выкладчыкі, і сябры, адно дрэнна — не хапае хлопцаў. Але мы спадзяемся, што яны яшчэ прачнуцца.

Набор на беларускае аддзяленьне цяпер будзе праводзіцца што два гады. Кажуць, што няма куды падзець столькі гуманітарыяў. А мы жартуем: баяцца, мусіць, каб Літва не загаварыла па-беларуску...

Студэнтка

Клуб аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына» выказвае спачуваньне сябру рады клуба Альгіце Тарасевіч з нагоды напаткаўшага яе гора — сьмерці бацькі.

*Рада клуба*

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрыны» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.


Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.



Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 19

## Інтэрв'ю з загадчыкам консульскага аддзела Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Я.А.Шастаковым

*Сёння шмат гавораць аб увядзенні візавога рэжыму паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай. З'яўляецца шмат самых розных чутак і меркаванняў. Ці не маглі б Вы растлумачыць, што гэта на самой справе азначае?*

Пастараюся. Справа ў тым, што ў сувязі з пастановай Урада Літоўскай Рэспублікі аб увядзенні візавога рэжыма ўезда-выезда для грамадзян краін СНД, меркавалася ўвядзенне візаў і для грамадзян Рэспублікі Беларусь і асоб без грамадзянства якія стала пражываюць на яе тэрыторыі.

Аднак разумеючы ўсю складанасць і адказнасць гэтага кроку, прымаючы пад увагу эканамічныя, культурныя і сваяцкія сувязі, што існуюць паміж дзвюма дзяржавамі, увядзенне візавога рэжіму, якое планавалася Літоўскай Рэспублікай з 1 лістапада 1993 года неаднаразова пераносілася на пазнейшы тэрмін.

25 лютага 1994 года паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Літоўскай Рэспублікі былі падпісаны два пагадненні — Часовае пагадненне аб ўзаемных паездках грамадзян і Пагадненне аб спрошчаным парадку пропуска праз дзяржаўную мяжу, прычым першае з іх ужо набыло моц. Пагадненне, у прыватнасці, прадугледжвае неабходнасць атрымання з 1 сакавіка 1994 года візаў для грамадзян Рэспублікі Беларусь і асоб без грамадзянства, якія стала пражываюць на яе тэрыторыі, для ўезду на тэрыторыю Літоўскай Рэспублікі, альбо праезду праз яе тэрыторыю транзітам. У сваю чаргу тое самае прадугледжваецца і для грамадзян Літоўскай Рэспублікі і асоб без грамадзянства, якія стала пражываюць на яе тэрыторыі. Аднак у дачыненні да грамадзян Літвы візавы парадак уезду пачне дзейнічаць толькі з 2 красавіка 1994 года.

*З Вашых слоў я зразумеў, што ўжо сёння для таго, каб уехаць у Літву, жыхары Беларусі павінны атрымоўваць літоўскую візу, а ў самы бліжэйшы час гэта спатрэбіцца і для жыхароў Літвы. Ці не маглі б Вы растлумачыць, як гэта ўсё выглядае на практыцы?*

Жыхары Беларусі, якія жадаюць наведаць Літву, павінны звяртацца ў консульскі аддзел Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Мінску, альбо атрымоўваць запрашэнне адпаведнай формы, якое выдаецца службай міграцыі Літоўскай Рэспублікі. Акрамя таго, тыя грамадзяне Беларусі, якія на сённяшні дзень працуюць альбо навучаюцца у Літве, павінны звярнуцца ў Дэпартамент міграцыі Літвы, які знаходзіцца ў Вільнюсе па вул. Салтонішку, 19.

Грамадзяне Літвы, якія жадаюць паехаць у Беларусь, павінны, пачынаючы з 21 сакавіка 1994 года, звяртацца ў консульскі аддзел Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве па адрасу: Вільнюс, П. Клімо, 8. Візы будуць выдавацца штодзённа, у працоўныя дні, акрамя серады. Гэты дзень неабходны консульскай службе для апрацоўкі прынятых дакументаў. Тыя грамадзяне Літвы, якія працуюць, альбо навучаюцца ў Беларусі, павінны звяртацца ў службы Адзелаў віз і рэгістрацыі (ОВІР) Беларусі па месцы іх сталага жыхарства, а таксама ў Пасольства Літвы ў Беларусі.

*Ці не маглі б Вы расказаць больш падрабязна аб тым, якія бываюць візы і што патрэбна для іх атрымання?*

Па-першае, у адпаведнасці з падпісаным пагадненнем, атрыманне візаў не патрэбна для

* грамадзян абедзвюх дзяржаў, якія маюць дыпламатычныя пашпарты;
* членаў экіпажу паветраных судоў грамадзянскай авіяцыі, уключаных у спіс экіпажа;
* работнікаў цягніковых, рэфрыжэратарных і лакаматыўных брыгад чыгунак па імянных спісах і маршрутных лістах, зацверджаных на кожны рэйс;
* членаў экіпажаў рэйсавых пасажырскіх аўтобусаў, якія ажыццяўляюць перавозкі па маршрутах, узгодненых адпаведнымі ўстновамі абедзвюх дзяржаў;
* грамадзян абедзвюх дзяржаў, узрост якіх 65 год і больш;
* грамадзян адной дзяржавы, якія накіроўваюцца да першага студзеня 1995 года на санаторна-курортнае лячэнне на тэрыторыю другой дзяржавы пры наяўнасці пуцёвак.

Таксама візы не будуць патрабавацца

* для грамадзян Рэспублікі Беларусь і членаў іх сямей, якія маюць дакумент аб захаванні імі права на грамадзянства Літоўскай Рэспублікі, і для жыхароў Літоўскай Рэспублікі і членаў іх сямей, за якімі захоўваецца права на грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Наконт апошняй катэгорыі асоб магу сказаць наступнае. Цяпер распрацоўваецца і ўзгадняецца дакумент, які будзе выдавацца грамадзяням Літоўскай Рэспублікі, за якімі захоўваецца права на прынясце грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Плануецца, што выдача гэтага дакумента пачнецца праз 3 месяцы. Якія для гэтага неабходна прадставіць дакументы і які будзе парадак выдачы гэтага дакумента, будзе дадаткова аб'яўлена ў прэсе.

Для ўсіх астатніх катэгорый асоб неабходна атрымоўваць візы.

Інструкцыяй Рэспублікі Беларусь аб выдачы візаў прадугледжаны візы трох катэгорый (дыпламатычная, службовая, звычайная), прычым маюцца наступныя віды візаў:

* уяздныя візы, сапраўдныя для аднаразовага ўезду ў Беларусь (напрыклад, для наведвання сваякоў, знаёмых, турызма і г.д.);
* транзітныя візы для перасячэння тэрыторыі Беларусі транзітам для паездкі ў іншую дзяржаву;
* шматразовыя ўяздныя візы, што выдаюцца на больш працяглы тэрмін (як правіла, да 1 года), якія згодна існуючых на сённяшні дзень правілаў, выдаюцца пасля ўзгаднення з Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, пры наяўнасці падстаў для шматразовага ўезду ў Рэспубліку.

Для атрымання аднаразовай уяздной візы неабходня звярнуцца у Пасольства Рэспублікі Беларусь і прадставіць адпаведныя дакументы. У якасці падстаў для выдачы візаў будзе разглядацца адзін з наступных дакументаў:

пісьмо, факс, тэлекс запрашаючай арганізацыі, паведамленне органаў аддзелаў віз і рэгісрацыі (АВІР) Міністэрства ўнутраных спраў аб прыватным запрашэнні, візавая падтрымка з Міністэрства замежных спраў Беларусі, ваўчары рэспубліканскіх турыстычных арганізацый;

а таксама патрэбны:

дзве запоўненыя стандартныя візавыя анкеты з подпісам заявіцеля;

дзве фотакарткі 35x45 мм.

Транзітныя візы выдаюцца пры неабходнасці перасячэння транзітам тэрыторыі Беларусі з нагоды паездкі ў іншую краіну.

Для іх атрымання таксама неабходна запоўніць візавыя анкеты і прадставіць 2 фатакарткі. Візы выдаюцца Пасольствам на працягу 4-5 рабочых дзён, у экстрэных выпадках тэрмін выдачы візы можа быць зменшаны па рашэнню кіраўніка консульскай службы Пасольства.

*Але могуць быць і экстрэныя выпадкі, напрыклад хвароба ці, барані божа, смерць каго-небудзь з сваякоў. Што рабіць у такім выпадку?*

Жыццё ёсць жыццё. У такіх выпадках калі ёсць тэлеграма, пацверджаная урачом альбо службай міграцыі, можна атрымаць візу бясплатна, проста на мяжы.

*У мяне ёсць знаёмы, у якога маці жыве ў Ашмянах. Што ён павінен рабіць?*

Кожны такі канкрэтны выпадак будзе разглядацца асобна. У дадзенай сітуацыі перш за усё я б параіў узяць даведку па месцы жыхарства яго маці (у пашпартным стале, ЖЭК, ЖБК, сельсавеце) і падаць хадайніцтва у Пасольства аб атрыманні шматразовай візы. Аднак, паўтараю, рашэнне ў дадзеным выпадку прымаецца Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Пасольства пры наяўнасці дазволу, выдае візу. Але ў будучым, мне здаецца, практычна ўсе падобныя пытанні будуць вырашаны пасля таго, як пачнецца выдача дакументаў для грамадзян Літоўскай Рэспублікі, за якімі захоўваецца права на грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Аднак, не будзем забягаць наперад. Дазволю сабе толькі яшчэ раз паўтарыць, што па кожнаму такому выпадку будзе прынята асобнае рашэнне.

*Напэўна кожнага сёння таксама хвалюе пытанне аб кошце візы. Не маглі б Вы назваць канкрэтныя лічбы?*

Кошт віз будзе вызначаны на падставе парытэту. Так, калі на сённяшні дзень аднаразовая ўяздная віза ў Літву для грамадзяніна Рэспублікі Беларусь каштуе 5 долл ЗША, а віза, якая выдаецца у тэрміновым парадку - 7 долл ЗША, то, відавочна, такую ж суму давядзецца плаціць і грамадзянам Літвы, якія жадаюць уехаць на тэрыторыю Беларусі. Канкрэтныя памеры консульскага збору за выдачу розных відаў віз будуць апублікаваны ў бліжэйшы час у прэсе пасля іх канчатковага ўзгаднення.

Апрача таго, адпаведныя катэгорыі асоб будуць карыстацца ільготамі, альбо наогул будуць вызваляцца ад платы за атрыманне візы. Гэта грамадзяне адной дзяржавы, якія навучаюцца на тэрыторыі другой дзяржавы ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, а таксама асобы, якія займаюцца навукова-даследчай дзейнасцю у галіне адукацыі, культуры і мастацтва, якая прадугледжана двухбаковымі пагадненнямі.

*Ці будуць прадугдеджаны якія-небудзь ільготы для асоб, што жывуць у прыгранічных раёнах?*

Безумоўна. Падпісаным пагадненнем аб спрошчаным парадку пропуска праз дзяржаўную мяжу, якое набудзе моц ужо ў бліжэйшы час, прадугледжваецца спрошчаны парадак пропуска для асоб, якія стала жывуць у прыгранічнай зоне адной дзяржавы, у прыгранічную зону другой дзяржавы. Цяпер канчаткова ўзгадняецца пералік сельскіх і пасялковых саветаў з боку Рэспублікі Беларусь, што знаходзяцца ў прыгранічнай зоне і пералік апілінак з боку Літоўскай Рэспублікі, што пападаюць у прыгранічную зону.

Правам спрошчанага пропуска будуць карыстацца жыхары прыгранічных раёнаў, якія працуюць альбо навучаюцца ў прыгранічнай тэрыторыі другой дзяржавы (у дадзеным выпадку пераход будзе ажыццяўляцца па шматразовых пропусках, што выдаюцца органамі аховы мяжы), а таксама для вырашэння пытанняў, звязаных з маёмасцю на прыгранічный тэрыторыі сумежнай дзяржавы, а таксама ў выпадку цяжкай хваробы, з нагоды няшчасных выпадкаў альбо смерці сваякоў, неабходнасці у пільнай медыцынскай дапамозе альбо ў дапамозе ў выніку стыхійнага бедства, правядзення на прыгранічнай тэрыторыі суседняй дзяржавы сумесных масавых мерапрыемстваў, дазволеных орaганамі ўлады і ўправы, правядзене рэлігійных абрадаў, мясцовых звычаяў і традыцый, арганізацый узаемадзейнічання органаў аховы мяжы абедзвюх дзяржаў. Больш падрабязную інфармацыю мажна будзе атрымаць у кіраўнікоў мясцовых службаў аховы дзяржаўнай мяжы.

Вось, напэўна, практычна і ўся інфармацыя, якую на сённяшні дзень можа паведаміць пасольства. Мы, вядома, разумеем, што ў адной гутарцы не магчыма дастаткова поўна адказаць на ўсе пытанні, якія так хвалююць сёння людзей. Таму мы раім уважліва сачыць за інфармацыяй у прэсе і абяцаем, што ўсе змены і дапаўненні да дзейнічаючых правіл будуць неадкладна публікавацца.

## Наша хроніка

На апошнім паседжаньні Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Літве было прынята рашэньне правесьці справаздаўча-выбарчы сход Таварыства 26-га лютага.

Сход і быў скліканы ў гэты дзень на 11 гадзіну раніцы ў памяшканьні Таварыства на вуліцы Жыгіманту 12 у нова адрамантаванай залі і па сутнасьці гэты сход быў яе першым выкарыстаньнем. І хаця яна яшчэ аканчальна не абсталяваная, але мае ўжо дастаткова прыстойны выгляд і перад прыемна зьдзіўленымі вачыма сяброў Таварыства ўпершыню былі гасьцінна адчынены яе дзьверы. Цяпер узьнікаюць рэальныя магчымасьці актывізаваць дзейнасьць Таварыства, калі памяшканьне будзе даведзенае да аканчальнага парадку і будзе па-сапраўднаму рацыянальна выкарыстоўвацца. Вядома, усё гэта пры ўмове, што лёс гэтых дамкоў, прызначаных для беларускага культурнага цэнтру, будзе вырашаны станоўча.

Тут варта адзначыць, што сёлета ў лютым мінула якраз пяць гадоў ад заснаваньня ў Вільні Таварыства Беларускай Культуры. Значыць была нагода адзначыць пакуль што яшчэ паўкруглы, але ўсё ж юбілей ды прыгадаць вытокі ўзьнікненьня гэтай арганізацыі і яе заснавальнікаў. Некаторыя зь іх яшчэ і сёньня актыўна ўдзельнічаюць у працы Таварыства. Між іншым пра аднаго з ініцыятараў, які на першы погляд быццам бы стаяў у баку ад гэтай ініцыятывы быў апублікаваны артыкул Валдаса Банайціса ў №7 за 16-га лютага газэты «Атгімімас» («Адраджэньне») пад вымоўнай назваю «Ці не памянём разам?». Гутарка там пра прафэсара Чэслава Кудабу, выдатнага літоўскага вучонага, географа і няўрымсьлівага краязнаўцу. Ён памёр летась 19-га лютага, — з вялікім жалем і сумам разьвіталіся тады зь ім прадстаўнікі літоўскага і беларускага грамадзтва. І менавіта пяць гадоў таму назад, калі прафэсар Кудаба быў першым старшынёй Літоўскага фонду Культуры, пры ім і стварылася Таварыства Беларускай Культуры ў Літве.

Каб зразумець, чаму прафэсар Кудаба гэтак шчыра падтрымліваў ініцыятыву адраджэньня беларускага грамадзкага жыцьця ў Літве, трэба ведаць, што ён стаяў на памежжы культур двух народаў. Аўтар артыкулу пісаў: «Чэслаў Кудаба нарадзіўся непадалёк возера Нарач. Беларуская мова была яго роднай моваЙ — да 12 гадоў ён ня ўмеў па-літоўску. Гэты сын беларускай зямлі стаў волатам літоўскай культуры, яго жыцьцё не ўмясьцілася ў афіцыйныя рамкі. Яму, як чалавеку памежжа быў чужым гэткі штучны падзел на сваё і не сваё. І навошта такі падзел?» — канец цытаты. — Вось гэтым і тлумачыцца прыхільнасьць прафэсара Чэслава Кудабы да культурных патрэбаў беларусаў Літвы і ягоная рэальная падтрымка. І калі ў мінулым месяцы спаўнілася сумная гадавіна яго сьмерці, беларусы Літвы разам з літоўскімі сябрамі шчыра ўшанавалі яго сьветлую памяць.

Вяртаючыся да агульнага сходу Таварыства Беларускай Культуры, адзначым, што на яго парадку дня было азнаямленьне з адноўленым тэкстам яго статуту, бо тут давялося ўнесьці некаторыя карэктывы. Папярэдні статут быў зарэгістраваны пяць гадоў таму назад яшчэ ў другой дзяржаве і некаторыя яго пункты не адпавядалі вымогам дзяржаўнага заканадаўства, цяпер жа Таварыства давядзецца нанава перарэгістраваць.

Затым старшыня Рады Таварыства і рэвізыйная камісія здалі справаздачу аб дзейнасьці Таварыства за мінулы год і быў абраны новы склад кіруючых органаў Таварыства. Склад Рады Таварыства быў адноўлены. З дзевяці сяброў Рады толькі двaіх засталося з папярэдняга складу. Склад сяброў Таварыства таксама папоўніўся моладзьдзю, у аснаўным студэнты пэдагагічнага уіверсытэту, некаторыя ўвайшлі ў склад Рады. І хаця выбары занялі шмат часу і яго не хапіла на грунтоўнае абмеркаваньне пляну далейшай працы, ды ўсё ж ёсьць надзея на нейкі прагрэс. Менавіта абмеркаваньне асноўных напрамкаў дзейнасьці стаіць на парадку дня наступных сустэчаў.

Пачатак выдавецкай дзейнасьці ў выглядзе штотыднёвай старонкі «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца канкрэтным дасягненьнем ды зможа рэальна дапамагчы ў дзейнасьці Таварыства і інфармаваць пра яго імпрэзы шырэйшыя колы грамадзтва.

З 28-га лютага да 2-га сакавіка Вільню наведаў міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь спадар Анатоль Бутэвіч і намесьнік старшыні Саўміну па справах сацыяльна-культурнага комплексу і нацыянальнасьцяў спадарыня Натальля Голубева. У першы дзень яны мелі сустрэчу ў рэдакцыі «Нашай Нівы», азнаёміліся з горадам, а ў вечары арганізавалі сустэчу з прадстаўнікамі мясцовага беларускага грамадзтва ў памяшканьні Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве.

Аглядальнік

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрыны» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях звaніце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 21


## 25 сакавіка — Дзень незалежнасьці Беларусі. Віншуем са сьвятам!

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Беларусы Вільні, Віленскага краю і ўсёй Заходняй Беларусі на працягу міжваеннага пэрыяду штогод сьвяткавалі 25-га сакавіка як Сьвята Незалежнасьці. Яно было напамінам пра аб'яўленую народам волю вярнуць сабе ўласную дзяржаву. Затое за жалезнай заслонай усходняе мяжы гэтае сьвята было пад пільнай забаронай, лічылася жахлівай крамолай. Пасьля ўзьяднаньня абедзьвюх частак падняволенай Беларусі, калі ўся тэрыторыя трапіла пад уладу тых, хто працягваў на нашай зямлі палітыку Мураўёва-вешальніка ў новым варыянце, сьвята гэтае паўсюды трапіла пад забарону.

Дзень гэты ўсё ж ясной зоркай надзеі заставаўся ў сэрцах нашых суродзічаў старэйшага пакаленьня дзе б яны не знаходзіліся, а вольна сьвяткаваўся толькі далёка за межамі радзімы. Сёньня адраджаецца народная памяць, а з ёю ўсюды і веснавое сакавіцкае сьвята. Яно ізноў трывала ўваходзіць у нашую нацыянальную традыцыю. Яно будзіць надзею на здабыцьцё сапраўднай самастойнасьці, на парозе якой ужо знаходзіцца наш народ, з цяжкасьцю скідаючы ланцугі няволі і здабываючы, як сказаў паэт, права «людзьмі звацца».

Вярнуўся ж з забыцьця наш нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, вярнулася як дзяржаўны сымбаль старажытная «Пагоня» — усё ж гэта сымболіка Беларускай Народнай Рэспублікі...

Пачатак нашага стагодзьдзя, які характэрызаваўся вялікімі палітычнымі пераўтварэньнямі ў Эўропе ў выніку першай сусьветнай вайны, вярнуў многім народам у Эўропе страчанае некалі дзяржаўнае існаваньне. Барацьба беларускага народу за аднаўленьне сваёй дзяржаўнасьці, якой вытокі маюць тысячагадовую традыцыю, разгортваліся ў вельмі неспрыяльных абставінах. Мацнейшыя суседзі ніяк не хацелі прызнаць права нашага народу на самавызначэньне, права на незалежнае дзяржаўнае існаваньне.

Для тых, хто вывучаў гісторыю толькі па школьных падручніках пэрыяду сталіншчыны і гадоў застоя, магчыма мала вядома, што для беларусаў дзень 25-га сакавіка зьяўляецца такім самым нацыянальным сьвятам, як для ліцьвіноў дзень 16-га лютага. Абедзьве гэтыя даты адносяцца да 1918 году. Для нас, беларусаў Літвы, гэта ёсьць яшчэ адным напамінам аб гістарычным спарадненьні нашых абодвух народаў і падабенстве іх гістарычнага лёсу, хаця далейшыя падзеі разгорталіся па-рознаму.

Для ліцьвіноў дзень 16-га лютага, калі была абвешчана незалежнасьць Літвы, стаў нацыянальным сьвятам, якое адзначалася больш дваццаці год ва ўсёй краіне, пакуль гэтая дзяржава была незалежнай. Амаль паўстагодзьдзя і для іх гэтае сьвята было забаронена ў часы бальшавіцкага падняволеньня. А было ўзноўлена ўжо ў нашыя дні рухам за адраджэньне і цяпер, калі Прыбалтыцкія краіны вярнулі сабе незалежнасьць, стала дзяржаўным сьвятам.

Для беларусаў дзень 25-га сакавіка, калі была абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, якая, нажаль не магла быць рэалізавана, бо пратрывала вельмі коратка, усё ж бясспрэчна стаў пераломным мамэнтам у гісторыі Беларусі. Тады была пастаўлена канкрэтная мэта, да якой зь вялікімі цяжкасьцямі Беларусь падыходзіць толькі цяпер.

Утварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі папярэдзіў Усебеларускі Кангрэс, які быў скліканы ў сьнежні 1917 г. У ім былі прадстаўлены ўсе сацыяльныя пласты насельніцтва Беларусі, зьезд гэты быў надзвычайна прадстаўнічы. Гэта пацьвярджаюць успаміны ўдзельнікаў кангрэсу, шматлікія публікацыі ў беларускім друку, як на радзіме, так і за мяжой. Такім чынам існуюць усе доказы, што ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі было вынікам сапраўднага выяўленьня волі беларускага народу і было найбольш легітымным дзяржаўным утварэньнем на тэрыторыі Беларусі на працягу ўсяго нашага стагодзьдзя. Асноўныя прынцыпы яе дзяржаўнага ладу былі дастаткова прагрэсыўнымі, дэмакратычнымі і ня трацяць сваёй актуальнасьці да сёньняшняга дня.

Іван Міхальчук

## У нядзелю Вербніца

Праз два дні, а менавіта ў бліжэйшую нядзелю, усе хрысьціяне заходняга абраду будуць адзначаць прыгожае вясеньняе сьвята — Вербніцу. Хрысьціянская рэлігія нагадвае ім пра апісаны ў Евангельлі ўрачысты ўваход Гасподні ў Ерусалім, калі Ісус Хрыстос прыйшоў у горад для прыняцьця пакут і сьмерці на Крыжы.

На Вербіцу паўсюдна асьвячаюць у царкве галінкі вярбы, якімі прынята сьцябаць адзін аднога. Асьвячоную вярбу захоўваюць доўга ў хаце, яе кладуць на магілы блізкіх людзей. На вёсцы існаваў звычай выганяць ёй на першы выган жывёлу.

У нас на Віленшчыне сярод каталіцкага насельніцтва побач з галінкамі вярбы заўсёды асьвячалі ў касьцёлах гэтак званыя «пальмы». Іх рыхтавалі спэцыяльна для Вербнай Нядзелі, аздабляючы галіны вярбы каляровымі засушанымі кветкамі, травамі, каласкамі і мохам. Апошнім часам віленскія пальмы набылі вялікую папулярнасьць і зрабіліся адным з найбольш распаўсюджаных сувэніраў мясцовага народнага мастацтва. Іх ахвотна купляюць на казюковым кірмашы, на Вербніцу і нават улетку, калі ўсюды навокал поўна самых разнастайных жывых кветак.

К.Л.

## *Весткі з Беларусі*

* * *

Вярхоўны Савет прыняў новую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Дзень 15 сакавіка аб'яўлены непрацоўным днём. Выбары першага прэзыдэнта РБ прызначаны на канец чэрвеня, а склад новага парлямэнту на лістапад-сьнежань г.г.

* * *

Падпісаньне дамовы аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі, якое ўжо неаднойчы адкладалася і на далей завісла ў паветры.

* * *

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі і Вярхоўным Савеце актывізуюцца сілы варожыя дзяржаўнай незалежнасьці і беларускай мове. Хаця закон аб мове прыняты ВС ужо больш за 3 гады таму, практычна ён не выконваецца. Прыхільнікі былой імпэрыі палохаюць народ жупелам беларускага нацыяналізму.

* * *

Пасьля падачы з лёгкай рукі дэпутата ВС ад намэнклятурнай бальшыні А.Лукашэнкі былі зьнятыя з пасадаў міністры У.Ягораў і Э.Шыдлоўскі, а таксама сьпікер С.Шушкевіч. Чарга прыйшла на галоўнага рэдактара «Народнай газэты» І.Сярэдзіча, але на гэты раз выйшла асечка і сыстэма чамусьці не спрацавала.

* * *

На Беларусі афіцыйна зарэгістравана лібэральна-дэмакратычная партыя з мэтамі і плянамі падобнымі з праграмай Жырыноўскага ў Расеі.

* * *

У 1995 г. на Беларусі будуць выраблены першыя 300 тралейбусаў. Раней тралейбусы атрымлівалі з Расеі, цяпер даводзіцца клапаціцца пра сябе самім.

* * *

З Гамбурга вярнулася група беларускіх вайсковых спэцыялістаў, якія займаюцца стварэньнем у рэспубліцы вайсковай акадэміі. У часе паездкі яны наведалі акадэмію і ўнівэрсытэт бундэсвэра, які рыхтуе спэцыялістаў для германскай арміі.

## Наша хроніка

Хаця бясспрэчна Вільня і Віленскі край гэта месца найбольшай колькасьці жыхароў беларускай нацыянальнасьці, асабліва, калі гутарка ідзе пра карэннае вясковае насельніцтва, ды ўсё ж сёньня беларусы раскіданыя пакрысе па ўсёй Літве, а беларускія суполкі імкнуцца ахапіць сваім уплывам у большай ці меншай меры ўсіх сваіх суродзічаў. Тутака было б вельмі істотна, каб і па-за Віленшчынай беларусы гуртаваліся міжсобку ўсюды, дзя яны адносна кампактна жывуць, ды каб наладжвалі кантакты з больш моцнымі суполкамі ў Вільні.

Сёньня ўжо ўтварыўся дастаткова трывалы цэнтр у Салечніцкім раёне, у самым паўдзённа-усходнім куточку Літвы, на памежжы з Беларусяй. Дзякуючы ініцыятыве энтузіястаў там ужо ўзьнікла даволі моцная суполка. Яна мае сваё памешканьне і ў ім разгортваецца культурна-асьветная дзейнасьць. Сёньня мо яшчэ рана даваць справаздачу аб яе канкрэтнай дзейнасьці, але ж адкрыліся ўжо зусім рэальныя пэрспэктывы. Такім чынам мо неўзабаве будзе нагода паведаміць пра дасягненьні беларусаў з Салечнік.

У Друскеніках, курортным гарадку, ёсьць санаторый «Беларусь». Вытокі гэтай установы сягаюць яшчэ даваеннага часу. Зрэшты, гэты прыгожы гарадок з вельмі даўнімі традыцыямі як месца адпачынку, таксама знаходзіцца на памежжы. Тамака ўжо каля году дзейнічае невялічкая суполка, якая ўваходзіць у склад Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Сярод сяброў суполкі пераважаюць працаўнікі санаторыя «Беларусь».

У стадыі арганізацыі знаходзіцца беларуская суполка Троцкага ці як цяпер — Тракайскага раёну. Гэта ўжо непасрэдна адносіцца да Віленшчыны. Старажытныя Трокі з княжацкім замкам на востраве былі некалі палітычным цэнтрам Вялікага княства Літоўскага. Тутака вельмі зьмешанае па свайму нацыянальнаму складу насельніцтва.

Ёсьць там і гарадок Грыгішкі з вялікай фабрыкай паперы, менавіта ў ім у хуткім часе мае ўзьнікнуць беларуская суполка.

І хаця на сёньняшні дзень каньюнктура для адраджэньня беларускага грамадзкага жыцьця на Віленшчыне і ва ўсёй Літве мо і не зьяўляецца найбольш спрыяльнай, ды ўсё ж энтузіясты, якія гатовы бескарысна аддаць свае сілы грамадзкай працы, спакойна не сядзяць.

Вынікам гэтага і ёсьць той факт, што ўсё ж у Вільні функцыянуюць беларускія клясы ў абсягу амаль поўнай сярэдняй школы і ёсьць спадзяваньні, што ў новым навучальным годзе яны ператорацца ў самастойную школу. Працуе і беларускае аддзяленьне пэдагагічнага унівэрсытэту, хаця над ім ізноў навісла пагроза, што ўвосень новага прыёму ня будзе. Гэткае становішча займаюць тыя дзяржаўныя функцыянеры, якія ня хочуць верыць у магчымасьць адраджэньня на Віленшчыне беларускага школьніцтва, ці дакладней проста гэтага не жадаюць.

Тым ня менш вакол беларускага аддзяленьня і беларускіх клясаў ужо згуртавалася зусім акрэсьленае асяродзьдзе, якое іграе вельмі важную ролю, бо рыхтуе маладыя кадры, без якіх нельга ўявіць сабе будучыні. Апошнім часам вялася падрыхтоўчая работа да імпрэзы, якая адбылася напрыканцы сакавіка. На гэтую тэму адбыліся нарады між беларускімі згуртаваньнямі, а таксама з прадстаўнікамі беларускага пасольства ў Літве, якое ўжо традыцыйна вельмі спагадліва адносіцца да ўсіх пачынаньняў у культурным жыцьці тутэйшай беларускай дыяспары ды рэальна дапамагае.

Ня толькі Вільня, але ўся Беларусь рыхтавалася адзначыць і належна ўшанаваць дзьве даты: 22 сакавіка мінула 130 гадоў ад пакараньня сьмерцю беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Для віленчукоў гэты юбілей асабліва значны, бо ж адбылося гэта менавіта ў Вільні на Лукішскім пляцы.

Дзень 25 сакавіка, чарговая гадавіна абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Для віленчукоў і гэты дзень мае асаблівае значэньне, бо на працягу ўсяго міжваеннага пэрыяду Вільня, Віленскі край, як і ўся Заходняя Беларусь штогод урачыста адзначалі гэтае сьвята, у той час, калі за ўсходняй мяжой у Савецкім Саюзе яно было пад пільнай забаронай. Пасьля гэтак званага ўзьяднаньня сьвята было забаронена на ўсёй тэрыторыі Беларусі і адзначалася толькі на эміграцыі. Цяпер у Вільню вярнулася гэтая традыцыя і ўжо трэці год сьвяткуецца дужа ўрачыста ды знаходзіць зразуменьне ў літоўскіх уладаў і ў грамадзтве. Бадай тут варта нагадаць, што абвяшчэньне незалежнасьці ў ліцьвіноў адбылося 16-га лютага, а ў беларусаў 25 сакавіка таго ж 1918 году, што яшчэ раз падкрэсьлівае спарадненьне абодвух народаў.

Віленчукі вырашылі ў адзін дзень 24 сакавіка напярэданьні дня незалежнасьці спалучыць абедзьве памятныя даты. У гэты дзень было ўрачыстае адкрыцьцё памятнай дошкі ў гонар Кастуся Каліноўскага на Ігнатаўскім завулку каля брамы Дамініканскага кляштару. На табліцы надпісы на літоўскай і беларускай мовах і выява Каліноўскага, высячаная ў камяні. У 18.00 гадзін таго ж дня ў гэтак званай «белай залі» палаца работнікаў мастацтваў на пляцы Даўканта адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны дню абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аглядальнік

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрыны» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.


Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49

ТБК

# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 22

## ВІНШУЕМ З НАСТУПАЮЧЫМ ВЯЛІКАДНЕМ!

У нядзелю 3 красавіка ўсе хрысьціяне, якія прытрымліваюцца грыгарыянскага календара, адзначаюць найвышэйшае сьвята Хрыстова Ўваскрасеньне, або як яго прынята называць у народзе, Вялікдзень. Гэта сьвята выключна радаснае і ўрачыстае. Уваскрасеньнем з мёртвых распятага на крыжы Ісуса Хрыста закончыўся Богачалавечы подзвіг уратаваньня, узнаўленьня чалавека, зьдзейсьнілася перамога над грахом і яго вынікам — сьмерцю.

Карані велікодных абрадаў і звычаяў пранікаюць глыбока яшчэ ў дахрысьціянскія часы. Нашы продкі, старажытныя славяне радасна і ўрачыста адзначалі прыход вясны. З прыняцьцем хрысьціянства народныя абрады і звычаі, зьвязаныя з сустрэчай вясны, былі перанесены ў велікодныя традыцыі. Нягледзячы на шматгадовыя намаганьні атэістычных савецкіх уладаў, яны захаваліся ў народзе да нашых дзён, хаця ня ўсе і ня ў поўнай меры.

Найважнейшай бытавой прыкметай Вялікадня было і застаецца фарбаваньне ў розныя колеры і ўзоры гэтак званых пісанак ці малpraванак. Калісь вельмі распаўсюджаныя былі гульні з гэтымі пісанкамі: біткі ці катанкі. Сёньня яны ўжо страцілі сваю папулярнасьць.

Таксама яшчэ ў першай палове дваццатага стагодзьдзя захоўваўся абрад валачобнікаў, характэрны якраз для нас, беларусаў. Згодна з гэтым абрадам вясковыя сьпевакі, часьцей за ўсё моладзь, зьбіраліся ў гурты і хадзілі на Вялікдзень з песьнямі ад двара да двара, за што атрымлівалі падарункі ад гаспадароў. Валачобныя песьні былі асаблівыя. Адныя з іх адрасаваліся гаспадару і яго сям'і, другія адлюстроўвалі ўсе этапы земляробскіх работ. Частка іх мела рэлігійны характар. А яшчэ былі і гумарыстычныя, жартоўныя песьні.



На жаль, сёньня валачобны абрад у заняпадзе. Сёньня валачобныя песьні можна пачуць часам толькі ў выкананьні фальклёрных ансамбляў. А шкада!

Як і ў кожнае сьвята, на Вялікдзень, заўсёды быў і існуе звычай віншаваць блізкіх, знаёмых, а нават і незнаёмых людзей. Згодна з ім, і мы віншуем Вас, дарагія чытачы, і жадаем здароўя, бадзёрасьці і шчасьця.

Рэдакцыйнаярада

## Наша хроніка

24 сакавіка адзначылася 130-я гадавіна сьмерці знанага палітычнага дзеяча, які ўзначаліў паўстаньне 1863-64 гг. у Беларусі, Літве і Польшчы, Кастуся Каліноўскага. Гэтаму дню было прысьвечана адкрыцьцё мэмарыяльнай табліцы на Ігнатаўскім завулку, 11. Барэльеф лідэра выканаў беларускі скульптар Алесь Міронычык, а фундавала Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына». На цырымоніі адкрыцьця, якую арганізавала ТБК, прысутнічалі: пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч, намесьнік мэра Вільні Відас Камайціс, старшыня ЗБС «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач і іншыя. Кожны выказваў свае пачуцьці, і адно было агульнае — надзея, што хутка будзе магчымым увекавечаньне памяці Кастуся Каліноўскага і на Беларусі. Пробашч Дамініканскага касьцёлу асьвяціў табліцу. Сабралася шмат сяброў ТБК, «Сябрыны», чыталіся вершы, гучала «Жыве Беларусь». І слухаючы гэтыя упэўнена ганаровыя словы, верылася, што Беларусь у хуткім часе атрымае волю і ўступіць у сусьветную супольку роўнай сястрой Літве, з якой доўгі час жыла разам.

У Палацы Мастацтваў адбылося сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі, які адзначалі беларусы Літвы. Яно пачалося з выкананьня гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які падхапіла ўся заля. Афіцыйную частку павіншаваньнем адкрыў старшыня Рады ТБК Хв.Нюнька. Затым выступілі: генэральны дырэктар Дэпартамэнту нацыянальнасьцяў Г.Кабецкайте, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Л.Барщэўскі, намесьнік старшыні Сойма Літвы, старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі А.Сакалас, Л.Луцкевіч і іншыя. Тут жа праходзіла выстава беларускіх мастакоў Вільні. Атмасфэра была сяброўская: спатыкаліся тыя, хто даўно ня бачыўся, быў чутны сьмех. А канчаткова узьняло настрой выступленьне фальклёрнага гурта «Харошкі» з Менску, чаму пацьверджаньнем былі апладысмэнты стоячы. Дахаты разыходзіліся ў цудоўным настроі. Хацелася, каб такія сьвяткаваньні адбываліся ня толькі ў Дзень Незалежнасьці. Яны дапамогуць аб'яднацца усім беларусам Літвы.

На жаль усе гэтыя цікавыя падзеі былі недастаткова добра асьветленыя сродкамі масавай інфармацыі Літвы. Напрыклад, дзяржаўнае тэлебачаньне, як і летась, 25 сакавіка не паказала адмысловае перадачы да Дня Незалежнасьці Беларусі.

Беларускае грамадзтва Вільні рыхтуецца сёлета па магчымасьці ўрачыста адзначыць юбілей 75-х угодкаў адкрыцьця Віленскай Беларускай Гімназіі. Адначасова гэта і 50-я ўгодкі яе ліквідацыі. Усё ж яна на працягу чвэрць веку рыхтавала кадры сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, змагалася супраць асыміляцыі беларускага народу.

У выніку нарадаў беларускіх суполак вырашана, што найбольш зручным часам для правядзеньня сьвяткаваньня будуць дні 21-га і 22-га траўня. У падрыхтоўцы да юбілею вядуцца пошукі былых настаўнікаў і вучняў гімназіі. Рыхтуюцца запросіны, каб разаслаць па знойдзеных адрасох. Беларускія студэнты і школьнікі разглядаюць юбілей гімназіі як сваё сьвята і шчыра рыхтуюцца да яго ўшанаваньня.

## Весткі з Беларусі

* * *

Уваходжаньне Беларусі ў рублёвую зону будзе каштаваць Расеі 4,5 трыльёны рублёў. Гэта выклікае акрэсьленую рэакцыю ўрадавых колаў РФ. Калі пытаньні абмену беларускіх «зайцоў» на расейскія рублі і ўзаемаразьлікаў паміж гаспадарчымі аб'ектамі рэальна вырашальныя, то пытаньні перадачы функцый Нацыянальнага банку РБ аддзелу Цэнтрабанку Расеі і зацьверджаньня бюджэту рэспублікі ў Дзяржаўнай думе Расеі непрыймальныя для Беларусі.

* * *

Буйнейшы ў Англіі Банк «Барклайз» зьбіраецца ўкласьці сродкі ў тэхнічнае пераўзбраеньне беларускай прамысловасьці. Першы інвэстыцыйны праект на 150 млн. даляраў — рэканструкцыя Мазырскага нафтаперапрацоўчага заводу.

* * *

Пачаўся поўнамаштабны вывад з тэрыторыі Беларусі ў Расею групоўкі ракетных войскаў стратэгічнага прызначэньня, разьмешчанай у Мазыры і Лідзе. Пасьля вываду ракет Беларусь стане адзінай постсавецкай дзяржавай, якая без усялякіх умоваў выканала свае абавязацельствы перад сусьветнай грамадзкасьцю і рэальна спрычынілася да дамовы аб нераспаўсюджваньні ядзернага ўзбраеньня ў якасьці бязьядзернай краіны.

* * *

У Менск прыбыла група журналістаў Нацыянальнага француcкага тэлебачаньня. Мэта іх візыту — стварыць відэафільм пра нашчадкаў французаў, якія жывуць у Менскай вобласьці. Продкі гэтых людзей пакінулі ўсходнюю Францыю ў 18—19 стст., магчыма, з-за рэлігійных матываў і займаліся на Беларусі сельскай гаспадаркай.

* * *

Як паведамляецца, апошнім часам пачасьціліся спробы заходніх краінаў вывозіць на Беларусь экалягічна шкодныя адыходы. Нядаўна былі затрыманыя 97 тон пластмасы ад прадукцыі бытавой хіміі з Нямеччыны.

* * *

ЗША выдзяліць Беларусі 30 млн. даляраў. Аб гэтым паведаміў міністр абароны сп. Пэры падчас свайго візыту ў Менск. З гэтых грошай 10 млн. пойдуць на канвэрсію, 10 — на будову жыльля для вайскоўцаў, 5 — на ліквідацыю звычайных узбраеньняў, 5 — на перападрыхтоўку беларускіх афіцэрскіх кадраў.

* * *

27 сакавіка ў Менску адбыўся навукова-практычны сэмінар «Шляхі выхаду з эканамічнага крызысу дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы». З дакладамі выступілі экс-прэм'ер Польшчы Л.Бальцэровіч, вядучыя эканамісты Беларусі, дэпутаты Вярхоўнага Савету і прадстаўнікі ААН.

## Навіны беларускай школы

• Напачатку сакавіка школьнікі і студэнты пэдагагічнага ўнівэрсытэту наладзілі вясёлую вечарынку-конкурс. Дзьве каманды дзяўчат — студэнтак і старэйшых школьніц, — спаборнічалі між сабою, хто акажацца лепшымі гаспадынямі і красунямі. Перамагла каманда школьніц.

• У сакавіку месяцы вучні старэйшых клясаў выпусьцілі сваю ўласную газэту «Гімназія». Тыраж газэты пакуль зусім невялікі, памылак, на жаль, вельмі шмат, адзінае, што радуе — падбор матэрыялаў. Вучні пішуць пра свае сапраўдныя клопаты — пра кепскія абеды ў сталоўцы, пра бойкі на перапынках, пра дыскатэкі і каханьне... Трэба спадзявацца, што ў наступных нумарах пачнуць пісаць і пра вучобу, і без памылак.

• У школе адбыліся адкрытыя лекцыі беларускай літаратуры, на якіх прысутнічалі выкладчыкі і студэнты катэдры беларусістыкі ВПУ. Вучні да лекцыяў старанна падрыхтаваліся і дэклямавалі верш М.Багдановіча «Пагоня!»

• У нашую школу завітаў быў цікавы госьць — спадар Вячка Целеш, беларускі мастак з Латвіі. Ён цікавіўся вопытам нашае працы і паведаміў, што налета ў Рызе таксама плянуецца адкрыцьцё беларускай гімназіі.

В.С.

*Нам пішуць*

## Палемічная нататка — яшчэ пра Сьвята Незалежнасьці

У мінулай старонцы «Беларус Віленшчыны» (№ 21) давялося прачытаць павіншаваньне з днём Незалежнасьці 25-га сакавіка і артыкул «Сьвята Незалежнасьці». У ім характарызуецца Беларуская Народная Рэспубліка вельмі станоўча і гаворыцца, што «утварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі было сапраўдным выяўленьнем волі беларускага народу і яна была найбольш легітымным дзяржаўным утварэньнем на тэрыторыі Беларусі на працягу ўсяго нашага стагодзьдзя». Гаворыцца і пра тое, што сьвята 25-га сакавіка было забаронена ва ўмовах таталітарнага бальшавіцкага рэжыму, а сёньня, калі народу вяртаецца гістарычная памяць, яго сьвяткуюць усюды: і ў Беларусі, і па-за яе межамі. Але ў тым самым нумары на 8-ай старонцы знайшоў другі артыкул, на расейскай мове, які мае прыгожы загаловак «Сегодня белорусский народ отмечает памятную дату своей истории» — «Важный этап возрождения белорусской государственности». Але ж у тэксьце артыкула, які быццам прыпадкова трапіў пад гэты загаловак, БНР ацэньваецца з яўна антыбеларускіх, антынезалежніцкіх пазыцыяў, быццам тэкст жыўцом сьпісаны з падручніка гісторыі часоў застою, згодна з канцэпцыямі і стэрэатыпамі нядобрай славы гісторыка Абэцэдарскага. Тыя ж абвінавачаньні ў антысавеччыне і нацыяналізме, тая ж адсутнасьць гістарычнай лёгікі. Сярэдняму чытачу, які вывучаў гісторыю толькі па савецкіх падручніках, сапраўды цяжка ў гэтым разабрацца. Дык ці БНР змагалася супраць савецкай, у той час чужой расейскай улады — бо ж тады не было б ні БССР, ні тым болей Савецкага Саюза, ці савецкая ўлада змагалася супраць права беларускага народу на самавызначэньне, супраць маладой беларускай рэспублікі?

Шаноўныя спадары гісторыкі, дапамажыце ў гэтым разабрацца маладасьведчанаму чытачу!

Арсень Клімашэўскі

Вільня

## Ад рэдакцыі

Рэдакцыя згодная з аўтарам палемічнай нататкі, што ў згаданых ім артыкулах сапраўды ёсьць супярэчнасьці, і пры першай нагодзе папросіць дасьведчанага гісторыка даць ім аб'ектыўныя ацэнкі, якія з удзячнасьцю апублікуе на гэтай старонцы.

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.
— сьпеўкі хору «Сябрына» кожную суботу ў 15.30 у палацы культуры на Туровай Гары, пакой 340.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 26


## Хрыстос Уваскрос!

Сёньня для ўсіх хрысьціян усходняга абраду дзень глыбокага смутку і душэўнага болю — Вялікая Пятніца. У гэты дзень царква ўспамінае асуджэньне на пакуты Ісуса Хрыста, яго расьпяцьце на крыжы і сьмерць. Але як пасьля цёмнай няпраглядвай ночы надыходзіць расьсвет, ці пасьля сьцюдзёнай зімы цёплая сонечная вясна, так на трэці дзень пасьля сьмерці на крыжы Ісус Хрыстос уваскрасае, і на зьмену смутку і болі Вялікай Пятніцы ў сэрцах мільёнаў вернікаў прабуджаецца вялікая неапісальная радасьць.

У вясьнянуюю Велікодную ноч тысячы цэркваў сьвецяцца агнямі сьвечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схіленых галоў і ў паветры носіцца радасны кліч:

— Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету.

Вялікдзень зьяўляецца найвышэйшым, выключна радасным і ўрачыстым сьвятам у шэрагу ўсіх хрысьціянскіх сьвятаў. Подзьвіг Богачалавека, яго ахвярная сьмерць на крыжы і ўваскрасеньне даравалі ўсім нам перамогу дабра над злом, жыцьця над сьмерцю. Таму і радуецца душа хрысьціяніна ў гэта вялікае сьвята. І выпадае яно ў найпрыгажэйшую пару года — вясной, калі прабуджаецца пасьля зімы ўсё, што ёсьць жывое на зямлі.

Уваскрасеньне працягваецца і сёньня сярод нас, у нашым цяжкім і складаным жыцьці. Пакуты і беднасьць гнятуць шмат каго з нас. І часам некаторыя ўпадаюць ад іх у роспач. Але перамога Хрыстова Крыжа падае нам надзею і ўзмацняе сілы, дапамагаючы пераадолець усе цяжкасьці і нягоды.

І ў гэты радасны вялікі дзень мы разам з паэтам Сяргеем Палуянам кажам:

*Дагэтуль мы плачам,*
*дагэтуль мы стогнем,*
*Адвечных ня можам*
*пазбыцца сьлёз.*
*Наперад па шчасьце!*
*Хай злое ўсё дрогне!*
*Вясна ўжо на сьвеце —*
*Хрыстос Уваскрос!*

К.Л.

## Весткі з Беларусі

* * *

27 красавіка ў Менску склікаецца нечарговая сэсія Вярхоўнага Савета РБ. На разгляд выносяцца пытаньні: аб выбраньні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь; аб праекце закона аб амністыі ў сувязі з 50-годзьдзем вызваленьня Беларусі.

* * *

Як заявіў дэпутат ВС Беларусі У.Заблоцкі, пасьля падпісаньня дамовы аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Расеі і Беларусі кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту мяркуе стварыць Фронт нацыянальнага выратаваньня. Плянуецца правесьці кансультацыі з другімі дэмакратычнымі арганізацыямі.

* * *

Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, які традыцыйна вызначае Чалавека года, назваў свайго абраньніка. Ім стаў 37-мі гадовы Мікалай Статкевіч — кіраўнік забароненага ўладамі Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.

* * *

Прэзыдыюм ВС Рэспублікі Беларусь прыняў рашэньне аб будове ў Менску гатэлю парлямэнту Беларусі на 200 нумароў-кватэр. У новым парлямэнце будзе 260 дэпутатаў, якія, па жаданьню, могуць працаваць на пастаяннай аснове.

* * *

Як паведамляецца ў друку, усьлед за Брэсцкай вобласьцю і на тэрыторыі Горадзеншчыны на беларуска-польскім адрэзку мяжы ўстаноўлена памежная зона. Памежным войскам перададзена паласа зямлі шырынёю 800 м. На мяжы з Літвою ўстаноўлена памежная паласа шырынёю ад 200 да 500 м. Парадак памежнага рэжыму выконваецца згодна закона РБ «Аб дзяржаўнай мяжы РБ».

* * *

«Лідары школ XXI стагодзьдзя» — пад такім назовам Фонд Сораса ў Беларусі праводзіць сэмінар для кіраўнікоў сыстэмы асьветы і дырэктараў школ Беларусі. На сэмінары з лекцыямі выступяць вядучыя замежныя спэцыялісты.

* * *

У Менск прыбыла другая група актывістаў нямецкага грамадзкага руху для аказаньня дапамогі Беларусі ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. 27 мужчын і 4 жанчыны зусім безынтэрэсоўна прымуць удзел у пабудове цэнтру «Надзея» у Вялейцы. З сабою нямецкія актывісты прывязуць матэрыялы і мэдычнае абсталяваньне.

* * *

Свабодны прафсаюз Беларусі правёў апытаньне працаўнікоў шэрагу прадпрыемстваў рэспублікі. Яго вынікі паказалі, што прыкладна аднолькавую лічбу прыхільнікаў маюць кандыдаты ў прэзыдэнты: С.Шушкевіч, З.Пазьняк, Г.Карпенка.

* * *

Дамоўленасьць аб тым, што з 1 траўня г.г. на мяжы з Расеяй будуць зьнятыя мытныя зборы зусім не азначае поўнага закрыцьця мытняў на ўсходнім напрамку. Аб гэтым заявіў старшыня Дзяржкамітэту РБ Г.Шкурдзь.

* * *

Адбылася перадача гуманітарнага ладунку, атрыманага ад ураду Японіі для беларускай аховы здароўя. У шпіталі паступіць больш за 700 тыс. мэдычных набораў. У сваёй прамове Часовы паверані ў справах Японіі А.Татаяма падкрэсьліў, што гэта толькі пачатак трохгадовай дапамогі японскага ўраду рэспублікам былога СССР.

*Пазнайма свой горад*

## Пэрла віленскага барока

Ідучы па вуліцы Касьцюшкі, якая цягнецца ўздоўж левага берага ракі Віліі, трапляем на Антокаль. Адсюль некалі пачынаўся прыгарад Вільні пад назваю Антокаль, цяпер жа гэта адзін з найбольш прэстыжных жыльлёвых раёнаў гораду. Ён разьмясьціўся ад узьбярэжжа ракі паабапал вуліцы, якая выводзіць нас урэшце за мяжу гораду, што адступіла цяпер далёка ад цэнтру.

Калі мы апынуліся на пачатку Антокальскай вуліцы, дык да таго перад намі адкрыўся від на касьцёл Пятра і Паўла, сапраўдны шэдэўр віленскага дойлідства. Ён збудаваны ў другой палове XVII ст. у стылі барока і ў сваім інтэр'еры вызначаецца нязвычайна багатым скульптурным дэкорам.

У XVI-XVIII вякох барок так глыбака запусьціў карані ў большыню архітэктурных помнікаў Вільні ды пакінуў мноства выдатных будоўляў, што Вільню ўжо здаўна прынята называць горадам барока. Кажучы пра характар віленскага барока, варта адзначыць, што ў яго разьвіцьці важную ролю сыгралі мясцовыя магнаты — Пацы, Сапегі, Радзівілы, якія здаўна былі мэцэнатамі віленскай архітэктуры. Сярод архітэктараў і дэкаратараў, як і ва ўсіх іншых эўрапейскіх дзяржавах, былі часткова чужаземцы, часткова і мясцовыя майстры.

Фундатарам касьцёла Пятра і Паўла быў Міхал Казімір Пац, гэтман Вялікага княства Літоўскага і віленскі ваявода. Касьцёл збудаваны на месцы, дзе калісь знаходзілася паганская сьвятыня багіні Мілды, што была адпаведнікам антычных багіняў — грэцкай Афрадыты ці рымскай Вэнэры. Пасьля прыняцьця хрысьціянства на гэтым месцы няраз будаваліся драўляныя касьцёлы, ды ад іх нічога не засталося.

Міхал Пац быў тыповым прадстаўніком свае эпохі і эпохі стылю барока. Адважны ваяка, магутны магнат, які ганарыўся тым, што паходзіць з флярэнцкай дынастыі Пацы, гуманіст, знаўца паэзіі свайго часу, багацей, які прывык жыць у раскошы і адначасова пабожны хрысьціянін, пакорны слуга касьцёла. Ён у тэстамэньце загадаў пахаваць сябе сьціпла пад парогам касьцёла і на магільнай пліце зрабіць надпіс на лаціне — «Hic jacet peccator» — «Тут спачывае грэшнік». Праўда, пазьней табліца ў гонар закладчыка касьцёла была пастаўлена на сьцяне касьцёла, справа ад уваходу. Але сапраўдным помнікам Пацу зьяўляецца сам касьцёл, дзе на фасадзе ў лацінскім надпісу «Regina pacis funda nos in pasc» — «каралева міру захавай нас у міры» — вялікімі літарамі двойчы паўтараецца імя фундатара, — сапраўдны барокавы калямбур. Праўда, мясцовы просты народ пераклаў гэта па-свойму, стварыўшы вядомую прыказку: «Варты палац Паца, а Пац — палаца».

Архітэктарам гэтага касьцёла быў запрошаны з Кракава італьянец Джавані Заор. Касьцёл быў пабудаваны, як на тыя часы вельмі хутка, усяго за восем гадоў, пачынаючы з 1668 году. Вонкавая архітэктура не прадстаўляе такой вялікай цікавасьці, затое інтэр'ер касьцёла зьяўляецца велічным і наўпрост фантастычным. Увесь дэкор складаецца з аграмаднай колькасьці скульптураў, якія паказваюць сцэны з Бібліі, жыцьця сьвятых, а таксама сьвецкія сцэны з гісторыі Вільні і побыту яе жыхароў. У распрацоўцы афармленьня касьцёла ўдзельнічаў сам Пац. Аўтарам эскізаў быў мастак Шрэйтар, а скульптарамі італьянцы Пэтра Пэрэці і Джавані Марыя Галі. Ім дапамагалі мясцовыя рамесьнікі. Толькі людзкіх фігураў налічваюць звыш дзьвюх тысяч, нямала чыста фантастычных стварэньняў — дэманаў, драконаў, грыфаў, а таксама безьліч няжывых прадметаў, свайго роду рэквізыту і дэкарацыяў: эмблемы, расьлінныя матывы, маскі і іншае. Фігуры людзей вельмі рэалістычныя, яны адлюстроўваюць эпоху, а некаторыя з іх паводле тыпаў і вопраткі зьяўляюцца партрэтамі жыхароў Вільні.

Каб грунтоўна пазнаць свой горад ніяк нельга абмінуць сваёй увагаю касьцёл Пятра і Паўла на Антокалі.

Дзядзька Лявон

## Апошні дырэктар гімназіі

У юбілейны год Віленскай Беларускай Гімназіі, ад заснаваньня якое сёлета мінула тры чвэрці веку, міжволі згадваюцца імёны людзей, якія на сваіх плячох вынесьлі цяжар яе нялёгкага пакутлівага існаваньня. На працягу 25-ці гадоў гімназія змагалася за права на сваё існаваньне, за выжываньне ў дужа неспрыяльных абставінах. Шмат высілкаў патрабавалі першыя гады станаўленьня гімназіі, але ня менш складаныя варункі былі і ў апошнія гады перад яе ліквідацыяй. Толькі энтузіязм і самаахвярнасьць працаўнікоў гімназіі забясьпечылі тыя дваццаць пяць гадоў існаваньня, якія ўсё ж далі не малы плён у справе падрыхтоўкі кадраў сьвядомай беларускай інтэлігенцыі. І менавіта гвалтоўнае спыненьне гэтага працэсу сьведчыць пра ступень жорсткасьці таго акупацыйнага рэжыму, пры якім гімназія была зьліквідавана.

Сёньня згадаем пра апошняга дырэктара Віленскай Беларускай Гімназіі Франука Грышкевіча, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў, каб яго жыцьцё не было спынена ў саракагадовым узросьце сталінскімі апрычнікамі якраз у той трагічны год закрыцьця гімназіі. Зьнішчэньне ўсіх праяваў грамадзкага жыцьця беларусаў Віленшчыны спалучалася з фізічным зьнішчэньнем або ізаляцыяй яго носьбітаў, эліты беларускай інтэлігенцыі.

Зьвесткі пра жыцьцёвы шлях Франука Грышкевіча маем вельмі мала, бо ён адносіўся да тых, хто па волі рэжыму мусіў трапіць у забыцьцё. І гэта ня гледзячы на тое, што ён ужо быў добра вядомы ў міжваенным часе, а былыя вучні памятаюць яго як свайго настаўніка. Крыху біяграфічных зьвестак пра яго знаходзім ва ўспамінах яго равесьніка і таксама былога гімназіста Мар'яна Пецюкевіча. Адсюль даведваемся, што Франук Грышкевіч паходзіў з мястэчка Сухаволі Сакольскага павету Горадзенскай губэрні — цяпер яно на Беласточчыне. Гадаваўся сіратой, ды яму пашчасьціла трапіць у Вільню. Тут ён паступіў у Віленскую Беларускую Гімназію, жыў у інтэрнаце пры гімназіі, пасьпяхова яе скончыў.

Яго калегі па гімназіі адзначалі, што ён належаў да тэй здольнай і нават таленавітай моладзі, якой нямала было ў тыя гады ў гімназіі. Імкнучыся далей паглыбіць сваю адукацыю ён нелегальна перайшоў польска-чэскую граніцу і ў Празе ў Карлавым унівэрсытэце скончыў філялягічны факультэт і здабыў ступень доктара філязофіі. Адтуль вярнуўся ў Вільню, але тут меў цяжкасьці з уладкаваньнем на працу, доўгі час быў беспрацоўным інтэлігентам. Яшчэ перад выездам у Чэхаславаччыну ідэалягічна фармаваўся пад уплывам беларускага асяродзьдзя хрысьціянскай дэмакратыі, якое мела ў Вільні даволі моцны цэнтр, займалася выдавецкай дзейнасьцю, мела сваю друкарню. Як большыня тагачаснай інтэлігенцыі спрабаваў свае сілы ў публіцыстыцы і паэзіі. Яго артыкулы і вершы сустракаюцца ў розных беларускіх газэтах і часопісах. Падчас навукі ў Пражскім унівэрсытэце дасылаў адтуль свае вершы, якія траплялі ў друк. У яго лірыцы адлюстроўвалася туга нават сярод прыгажосьці «залатой Прагі». Вось адзін з такіх вершаў, гэта былі першыя спробы выліць свае пачуцьці ў паэзіі:

*Ночка калматая, страхаў усіх маці,*
*Як мне цябе не любіць, не кахаці...*
*Ты мне адзіная тут на чужыне*
*Згадуеш думы аб роднай Краіне,*
*Дорыш мне рыфму і творыш абразы...*
*Ночка, ах колькі з табою ўжо разы*
*Думай дзяліўся на соннай зямліцы,*
*Схованы ў хвалды твае спавядніцы...*

У Вільні Франук Грышкевіч актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху, быў блізкі да асяродзьдзя беларускіх студэнтаў, што вучыліся на Віленскім унівэрсытэце, друкаваўся ў часопісу «Студэнцкая Думка», які быў органам Беларускага Студэнцкага Саюзу.

Калі пачалася польска-нямецкая вайна і ў выніку чарговага падзелу Польшчы Вільня трапіла пад савецкую ўладу, Грышкевіч праяўляў значную актыўнасьць. У яго былі спадзяваньні, што становішча беларусаў Вільні і Віленшчыны зробіцца больш спрыяльным у адносінах разьвіцьця асьветы і культуры. Аднак гэтыя ілюзіі разьвеяліся вельмі хутка...

З 1939 да 1944 году, калі ў становішчы Вільні ўсьцяж адбываліся палітычныя зьмены, Віленская Беларуская Гімназія ўсё ж яшчэ існавала і ў апошні свой навучальны год адсьвяткавала юбілей 25-ці годзьдзя. Франук Грышкевіч, які меў грунтоўную адукацыю, выкладаў у ёй беларускую мову і літаратуру, падчас нямецкай акупацыі працаваў яе дырэктарам. Можна сабе ўявіць, наколькі складаныя і нялёгкія былі варункі працы ў гімназіі ў пэрыяд ваеннага ліхалецьця. І ўсё ж гэтыя гады яна вытрывала, у чым нямалая заслуга яе апошняга дырэктара Франука Грышкевіча. Цікава, што ён быў першым і адзіным дырэктарам гімназіі з ліку яе выпускнікоў.

Для дапаўненьня партрэту Франука Грышкевіча адзначым, што вучні высака цанілі яго глыбокія веды прадмету і ўменьне перадаць іх моладзі. Сваімі лекцыямі ён далучаў ня толькі да беларускай, але й да сусьветнай культуры. А ў жыцьці гэта быў сьціплы і абаяльны чалавек. Як дырэктар гімназіі ён пакінуў самыя лепшыя ўспаміны ў сваіх падначаленых і ў вучняў, да якіх заўсёды адносіўся з павагаю і ветлівасьцю.

## АБ'ЯВЫ

8-га траўня 1994 году ў 17.00 гадзін у Чырвонай Залі Палаца працаўнікоў мастацтваў на пляцы Даўканта адбудзецца Велікодны канцэрт хору Віленскага праваслаўнага сабору сьв. Духа. Рэгент хору Лявон Мурашка. Уваход свабодны.

* * *

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве паведамляе: па дамоўленасьці зь літоўскім бокам 29, 30 красавіка і 1 траўня будзе дзейнічаць бязьвізавы рэжым на беларуска-літоўскай мяжы.

## ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.


Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.



Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49

ТБК БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 29

# Віленская Беларуская Гімназія і яе лёс

Віленская Беларуская Гімназія ствралася на пераломе 1918—1919 гг. Гэта была заканамерная зьява ў агульным рэчышчы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX стагодзьдзя. У гісторыі беларускага адраджэньня пад той час Вільня мела ўжо значныя дасягненьні. Беларускае грамадзка-палітычнае жыцьцё выявілася тут у стварэньні асяродка падпольнай Беларускай Сацыялістычнай Грамады, узьнікненьні легальнага пэрыядычнага друку ў выглядзе газэт — сьпярша «Наша Доля», пазьней «Наша Ніва», якія існавалі ад канца 1906 да сярэдзіны 1915 г., у стварэньні беларускіх кнігавыдавецкіх таварыстваў, музычна-драматычнага гуртка. Іншыя пошукі формаў асьветніцкай дзейнасьці сярод беларускага насельніцтва Віленшчыны.

Ды толькі пачатак першай сусьветнай вайны, калі царскую акупацыю зьмяніла нямецкая акупацыя, якая была больш абыякавай, але затое і больш лібэральнай у вырашэньні культурных запатрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў, у Вільні зьявілася магчымасьць адкрыць у 1915 г. першыя пяць беларускіх пачатковых школаў і настаўніцкія курсы. Урэшце ў канцы 1918 г. сярод беларускага грамадзтва Вільні ўзьнікла канкрэтная думка стварыць тут поўную беларускую сярэднюю школу — беларускую гімназію.

Арганізацыйныя намаганьні і само адкрыцьцё гімназіі адбываліся ў дужа нестабільнай і складанай палітычнай сытуацыі. У гэтым часе ўлады ў Вільні мяняліся некалькі разоў. Калі ўлада была ў руках Літоўскай Тарыбы, для адкрыцьця было прыдзелена памешканьне ў г.зв. Базыльянскіх мурох, дзе яна існавала амаль на працягу ўсяго міжваеннага часу. Рэгулярныя заняткі пачаліся 1-га лютага 1919 г. Гімназія была 8-мі клясавая зьмешанага тыпу (для дзяўчат і хлапцоў) з выкладаньнем на беларускай мове.

Асноўным ініцыятарам стварэньня гімназіі быў віленскі археоляг Іван Луцкевіч, поплеч з якім актыўна дзейнічала ініцыятыўная група ў складзе кс. Адама Станкевіча, Леанілы Чарняўскай, Алёны Сакаловай, Юліі Мэнке, Міколы Кахановіча, які стаў першым дырэктарам.

На пачатку гімназія не была дзяржаўнай установай. Яе канцэсіянерамі былі розныя грамадзкія арганізацыі: спачатку гэта была Школьная Рада ў Вільні, пазьней Таварыства Беларускай Школы, а з 1928 году — Бацькоўскі Камітэт Гімназіі. Гімназія мела тады яшчэ абмежаваныя правы, бо скончыўшы восем клясаў нельга было пры гімназіі здаць экзамены на атэстат сталасьці, а значыць трапіць у вышэйшую навучальную ўстанову. Такога права гімназія дамаглася толькі ў 1928 г.

Гімназія імкнулася набыць ярка выражаны нацыянальны характар, што не было лёгка ва ўмовах чужой улады. Існаваньне беларускай гімназіі ў Вільні, тагачасным палітычным і культурным цэнтры Заходняй Беларусі, было праяўленьнем апазыцыі да асыміляцыйнай палітыкі польскага ўраду.

Матэрыяльны стан гімназіі заўсёды быў незадавальняючы. Усё ж у гімназіі былі свае самадзейныя гурткі, у тым ліку: літаратурны, драматычны, музычны, мастацкі і нават па вывучэньні мовы эспэранто. З 1926 г. заснаваўся вучнёўскі духавы аркестр, у якім налічвалася больш за 20 інструмэнтаў. Стварыўся і школьны хор, якім кіраваў будучы народны артыст Рыгор Шырма. Гімназія мела сваю бібліятэку, вучнёўскі каапэратыў. Нейкі час вучні нават выдавалі свой друкаваны часопіс, які называўся «Вучнёўскі Звон».

Новым этапам для гімназіі стаў 1932/1933 навучальны год, калі яна стала дзяржаўнай. З аднаго боку гэта дало гімназіі больш трывалую матэрыяльную базу, бо яна атрымала ўсе правы дзяржаўнай гімназіі і поўнае дзяржаўнае ўтрыманьне. Але гэта мела й свае адмоўныя бакі, бо гімназія страціла значную ступень сваёй самастойнасьці. У той час у Польшчы была праведзена агульная рэформа сярэдняга школьніцтва, што адмоўна паўплывала на становішча беларускай гімназіі ў Вільні. Згодна з рэформай васьміклясавыя гімназіі былі ператвораны ў чатырохклясавыя новага тыпу, шляхам ліквідацыі дзьвюх першых і дзьвюх апошніх клясаў. Дзьве апошнія клясы ператвараліся ў агульнаасьветныя і спэцыялізаваныя ліцэі. Беларусам жа ўлады свой ліцэй адкрыць не дазволілі.

У нязвычайна цяжкіх варунках гімназія здолела праіснаваць на працягу амаль усяго пэрыяду ваеннага ліхалецьця. У красавіку 1944 г. гімназія адзначыла 25-годзьдзе свайго існаваньня і, закончыўшы апошні навучальны год, была гвалтоўна зьліквідаваная бязьлітасным таталітарным рэжымам.

У сувязі з нестабільнасьцю варункаў часта мянялася кіраўніцтва гімназіі. Пасьля першага дырэктара гімназіі Міколы Кахановіча быў назначаны Браніслаў Тарашкевіч; пасьля яго чаргова былі дырэктарамі Антон Нэканда-Трэпка, Радаслаў Астроўскі, Сяргей Паўловіч, Аляксандар Міхалевіч, Мікола Анцукевіч, Васіль Кавалевіч, ксёндз Адам Станкевіч і апошнім дырэктарам быў Франук Грышкевіч. Беларускую літаратуру выкладалі чаргова: Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Ігнат Дварчанін, паэт Хведар Ільяшэвіч. З настаўнікаў гімназіі, якія працавалі даўжэйшы час, варта згадаць такіх, як Язэп Шнаркевіч, Натальля Банцлебэн, Сымон Кароль, мастак Язэп Драздовіч, Уладзіслаў Глухоўскі, Барыс Кіта, Вінцук Грышкевіч, Пётра Шчасны; найдаўжэй за ўсіх, бо на працягу ўсяго існаваньня гімназіі, працавала настаўніца беларускай мовы Алёна Сакалова-Лекант.

Беларуская гімназія ў Вільні на працягу чвэрці веку ўзгадоўвала кадры нацыянальна сьвядомай беларускай інтэлігенцыі — у гэтым яе бясспрэчная і вялізная заслуга.

Лявон Луцкевіч
абсальвэнт Віленскай Беларускай Гімназіі

На фатаграфіі: уваход у гімназію. *Фота Л.Луцкевіча.*



## Праграма сьвяткаваньня 75-годзьдзя Віленскай Беларускай Гімназіі 21-22 траўня 1994 году

**21 траўня**

12.00 — урачысты сход і канцэрт: Aušros Vartų g. 7 «A».

16.00 — экскурсія: Беларускія мясьціны Вільні: Aušros Vartų g. 7 «A».

19.00 — дыскатэка для школьнікаў: Raugiklos g. 25.

**22 траўня**

10.00 — ускладаньне кветак на магілы былых вучняў і выкладчыкаў Гімназіі: Aušros Vartų g. 7 «A».

12.00 — канцэрт мастацкага калектыву «Бліскавіца» (г. Менск): СШ №13 (Konarskio g. 34).

16.00 — сустрэча былых вучняў і выкладчыкаў Гімназіі: Žygimantų g. 12/3.

17.00 — канцэрт рок-гурта «Палац» (г. Менск): Палац культуры сувязістаў Švento Jono g. 3

# Наша хроніка

2 траўня па ініцыятыве Таварыства Беларускай Культуры ў Літве адбылася сустрэча прадстаўнікоў грамадзтва са сьпікерам літоўскага парлямэнту спадаром Чэславам Юршэнасам. Асноўнай тэмай перамоваў была справа беларускай сярэдняй школы ў Вільні — гэта значыць, ператварэньне беларускіх паралельных клясаў пры расейскай школе ў самастойную навучальную ўстанову. Асноўнае нявырашанае пытаньне — гэта прызначэньне для школы адпаведнага будынку.

На паседжаньні настаўнікаў беларускіх клясаў разглядалася кандыдатура на пасаду дырэктара будучай беларускай школы і ўкамплектаваньне яе адпаведнымі настаўніцкімі кадрамі. І хаця гэта быццам справа беларусаў, але зацьвярджаць іх будзе літоўскае начальства. Бальшыня выказалася вылучыць на дырэктара настаўніцу Галіну Сівалаву, шчырую патрыётку, вопытнага пэдагога, энтузіястку адраджэньня беларускага школьніцтва. Грамадзкія згуртаваньні таксама вырашылі падтрымаць яе кандыдатуру.

4 траўня адбылося штомесячнае паседжаньне Рады Таварыства Беларускай Культуры. На парадку дня разглядаліся справы хаты-чытальні, пошукі і прызначэньне для супрацоўнікаў, якія будуць згодны працаваць на грамадзкіх пачатках, а гэта ў сёньняшніх варунках ня дужа проста. Узьнімалася пытаньне пра наладжваньне імпрэзаў у залі Таварыства, закрануты былі і праблемы школьніцтва. Першы літаратурны вечар вырашана было правесьці 11-га траўня.

Аддзел культуры гарадзкой самаўправы Вільні запрапанаваў перадаць Таварыству пляц са старым драўляным будынкам ў прыгарадзе Павільніс для стварэньня там мэмарыяльнага дома-музэя Якуба Коласа. Гэта мае быць кампэнсацыя за зьнішчаную колішнюю сядзібу жонкі паэта, падзеленую на дзялкі і прададзеную пад забудовы новым домаўладальнікам. Пастанова аб стварэньні дома-музэю была прынята ўрадам Літвы 30 гадоў таму назад, але ня зьдзейсьнена. Вырашана было прапанову прыняць, хаця будынак да ўжытку не надаецца, але ж іншай альтэрнатывы не было.

6 траўня ў залі грамадзіх суполак дэпартамэнту нацыянальнасьцяў па ініцыятыве клюбу «Сябрына» была зладжана Велікодная вечарына. Гасьцей сабралася шмат, заля была паўнюткая. Многія прыйшлі з дзецьмі, пераважна з вучнямі беларускіх пачатковых клясаў. Праграму запоўнілі выступленьнямі дзетак і студэнтаў — яе вёў Сяржук Вітушка, адзін з беларускіх настаўнікаў. Прысутнічалі супрацоўнікі Беларускага пасольства ў Літве, а адзін зь іх, спадар Уладзімір Шчасны частаваў дзетак цукеркамі за іх вершыкі, сьпевы і танцы. Сьпяваў таксама пад гітару Уладзімір Палупанаў, бард з Менску, які цяпер часова прыкамандзіраваны да працы ў пасольстве. У буфэце можна было перакусіць і перакуліць чарку, гэта ўжо вядома, каб дагадзіць дарослым.

8 траўня адбыўся сьвяточны Велікодны канцэрт праваслаўнай рэлігійнай музыкі ў выкананьні царкоўнага хору храма сьв. Духа ў Вільні. Імпрэза гэтая мела чыста расейскі характар, што падкрэсьліў ва ўступным слове сьвятар храма Сьв. Духа. Аднак цікава адзначыць, што рэгент хору, заслужаны артыст і дзеяч мастацтваў Літвы, саліст опэрнага тэатру — наш суродзіч, беларус Лявон Мурашка. Ён актыўна ўдзельнічае і ў беларускім грамадзкім жыцьці, узначальвае музычную сэкцыю Таварыства Беларускай Культуры. Канцэрт адбыўся ў Чырвонай залі палаца працаўнікоў мастацтваў, як заўжды на высокім прафэсыйным узроўні. Такія канцэрты зрабіліся ўжо традыцыяй і яны ўзбагачаюць музычнае жыцьцё нашага гораду.

11 траўня адбыўся літаратурны вечар у залі Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, што на вуліцы Жыгіманту 12. Пасьля рамонту залі і яе частковага абсталяваньня ў ёй можа зьбірацца прыкладна 50-60 асобаў. Дасюль яна ўжо двойчы выкарыстоўвалася для арганізацыйных мэтаў, гэтым разам тут была сустрэча чыста культурна-асьветніцкага напрамку. Цяпер мяркуецца стала праводзіць тутака імпрэзы. Гэта першая імпрэза была прысьвечана ўшанаваньню памяці дзеячоў культуры, якія нарадзіліся ў траўні месяцы і ў большай ці меншай меры зьвязаны з Вільняй. У пераліку іх імёнаў былі: Уладыслаў Паўлюкоўскі, Янка Маўр, Уладыслаў Галубок, Ігнат Дварчанін, Уладзімір Жылка, Іван Луцкевіч. Дадактова было згадана яшчэ імя кампазытара Станіслава Манюшкі, ад нараджэньня якога 5-га траўня споўнілася 175 гадоў. Але найбольш падрабязна быў асьветлены жыцьцёвы і творчы шлях Паўлюкоўскага, Галубка — пра яго, як тэатральнага дзеяча апавядала актрыса Любоў Цімохіна, у канцы прысутныя праслухалі з магнітафоннага запісу «Тэстамэнт» Уладзіміра Жылкі. Хоць заля і не была поўная, але ж праслухалі ўвесь багаты матэрыял з вялікаю ўвагаю і засталіся задаволеныя гэтай першай спробай літаратурных вечароў.

Віленчукі рыхтуюцца да сьвяткаваньня 75-годзьдзя Віленскай Беларускай Гімназіі. Цяпер ужо аканчальна вядома, што ўрачыстасьці будуць працягвацца два дні, 21 і 22 траўня. У праграме шэраг цікавых імпрэзаў — першая зь іх адбудзецца ў суботу 21 траўня ў 12.00 гадзін у Бызыльянскіх мурох.

Аглядальнік

# ДОБРАЯ НАВІНА СА СЬВЯНЦЯНАЎ

У Сьвянцянах да грамадзкага жыцьця абудзіліся й беларусы — на пачатку траўня ўтварыліся ажно дзьве суполкі — раённая філія Таварыства Беларускай Культуры і беларускае таварыства «Крыніца». Сьвянцянскі раён непасрэдна мяжуе зь Беларусяй, у раёне пражывае некалькі тысяч нашых землякоў і вось нарэшце дайшло да стварэньня сваіх суполак. Абедзьве яны вызначылі характар сваёй дзейнасьці як культурніцкі, але калі шчыра, то падштурхнула тамтэйшых беларусаў да аб'яднаньня іншая бяда. Вось як сказаў пра гэта Леанід Лебедзеў: «Мая маці з Віцебшчыны, у вайну была ў партызанах. Тады была такая гісторыя, што партызаны трымалі "суражскія вароты" — немцы не маглі закрыць мяжу. А цяпер хацеў паехаць на магілку да маці — закрылі мяжу». Так, мяжа і візы прынесьлі нямала праблемаў жыхарам Літвы й Беларусі. Але добра, што хоць цяпер многія зразумелі, што трэба аб'ядноўвацца, каб бараніць свае правы. І хай сабе дзейнасьць новых беларускіх суполак пачнецца з дапамогі ў афармленьні візаў (пра гэта ўжо дамоўлена з беларускай амбасадай у Вільні). Сьледам будуць, я спадзяюся, беларускія школы, бібліятэкі, мастацкія калектывы й гэтак далей. Старшыні віленскіх суполак — спадар Хв.Нюнька і В.Стэх, якіх сьвянцянцы запрасілі да сябе ў госьці, дакляравалі дапамогу ва ўсіх справах. І нашым сябрам у Сьвянцянах застаецца пажадаць адно посьпехаў. Напрыканцы хацелася б толькі выказаць адну перасьцярогу. Крыўдна будзе, калі чалавек, атрымаўшы візу, адразу забудзецца на справы культурныя ды грамадзкія. Крыўдна будзе, калі грамадзкія суполкі пераўтварацца ў шырму для тых, хто хацеў бы зарабіць капейчыну на візах. Таму і кіраўніцтву, і ўсім сябрам новых беларускіх суполак у Сьвянцянах дый, напэўна, у іншых местах Літвы, пажадаем быць узаемна патрабавальнымі і шчырымі.

Вітушка Сяргей

## ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 тэлебачаньне Літвы перадае беларускую праграму.

— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».

— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — 10 хвілін — па першай праграме Літоўскага радыё.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49




# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 32

## ЗАПРАШАЕМ НА СЬВЯТА

*У беларусаў Салечнік (Шальчынінкай) 18 чэрвеня абдудзецца вялікая падзея — адчыняе дзьверы Беларускі Культурны Цэнтар. Упершыню за апошнія 50 гадоў беларуская мова афіцыйна гучыць у Паўднёва-Ўсходняй Літве. Гэта зда- бытак ня толькі саміх беларусаў, але ўсіх тых, хто здабываў волю Літве на пачатку 90-х гадоў, хто ў складанай барацьбе адстойваў правы народаў. Адкрыцьцё Культурнага Цэнтру плянуецца як вялікае беларускае сьвята, і мы шчыра запрашаем усіх жадаючых суродзічаў і суайчыньнікаў прыехаць у гэты дзень а 15 гадзіне да нас у госьці.*

Загадчык БКЦ П.Малафей

## Весткі з Беларусі

* * *

У Менску, каля Траецкага прадмесьця, у гістарычным цэнтры беларускай сталіцы, пачалося будаўніцтва помніка палеглым беларускім воінам — ахвярам злачыннай савецкай палітыкі ў Афганістане.

* * *

Сілы, варожыя нацыянальнаму адраджэньню і ідэі незалежнасьці Беларусі — Славянскі сабор, Белая Русь, Саюз афіцэраў і іншыя пракамуністычныя групоўкі ў так званым «Народным руху Беларусі» ізноў уздымаюць пытаньне аб замене дзеючай сымболікі і ўвядзеньні дзвюхмоўя на Беларусі.

* * *

З выступленьня міністра замежных спраў П.Краўчанкі на канфэрэнцыі Эўрапейскага саюзу па ўмацаваньню стабільнасьці ў Эўропе ў Парыжы 26-27 траўня. «На сваім горкім досьведзе мы ведаем, чым могуць абярнуцца сусьветныя катаклізмы для невялікіх міралюбівых дзяржаў. Беларусь залішне часта аказвалася разьменнаю манетаю ў руках палітыкаў, пасьля крывавых войнаў і канфліктаў. Апынуўшыся на скрыжаваньні ваенных шляхоў больш сільных суседніх дзяржаў, тэрыторыя Беларусі неаднойчы падзялялася паміж імі. Пасьля першай і другой сусьветных войнаў, у міжваенны пэрыяд шматлікія спрадвечныя беларускія тэрыторыі былі адарваныя на карысьць суседніх краін. У шэрагу выпадкаў ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры некаторыя дзяржавы атрымалі межы, шта не супадалі з арэалам распаўсюджаньня свайго этнасу. Ні адна з 15 рэспублік былога СССР не падлягала такому беспрэцэдэнтнаму для XX ст. падзелу тэрыторыі, як Беларусь. Межы Беларусі вызначаліся валюнтарысцкімі рашэньнямі дыктатараў паводле чыста палітычных матываў, без уліку сапраўднага волевыяўленьня беларускага народу. Больш таго, Беларусь нават не зьяўлялася ўдзельнікам тых міжнародных перамоваў, якія перакраівалі яе тэрыторыю. Разам з тым мы выразна ўсьведамляем небясьпеку пераносу падзей мінулых гадоў на палітычныя і тэрытарыяльныя прэтэнзіі да тых ці іншых дзяржаў... Падпісаўшы 26 лютага 1992 г. у Хельсінкі Заключны акт, Рэспубліка Беларусь у якасьці суверэннай дзяржавы актыўна далучылася да стваральнай працы Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Эўропе, адным з галоўных прынцыпаў якога, як ведама, зьяўляецца прынцып непарушнасьці межаў. Сёньня гэты прынцып замацаваны ў новай Канстытуцыі РБ...»

## Тлумачэньні адносна прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь прадстаўнікоў беларускай дыяспары

Згодна з Тыпавымі правіламі прыёму ў ВНУ Рэспублікі Беларусь на 1994 год «асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, а таксама грамадзяне Беларусі і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, маюць права на конкурснай аснове атрымаць бясплатную вышэйшую адукацыю ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах рэспублікі, калі яна атрымліваецца ўпершыню».

Паступаючыя павінны падаць ці даслаць дакумэнты ў адпаведную ВНУ (заяву на імя рэктара, дакумэнт аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале, 6 фотакартак памерам 3х4, мэдычную даведку па форме 086у, а таксама дакумэнты, якія пацьвярджаюць прыналежнасьць да беларускай нацыянальнасьці або грамадзянства Беларусі). Кожная ВНУ распрацоўвае свае ўласныя правілы прыёму, якімі прадугледжваецца парадак, тэрміны правядзеньня ўступных экзамэнаў і іншыя пытаньні адносна паступленьня ў ВНУ. Гэтыя правілы не пярэчаць Тыпавым правілам.

Экзамен па беларускай мове і літаратуры зьяўляецца абавязковым для асоб, якія маюць адзнакі ў дакумэнце аб сярэдняй адукацыі па гэтых прадметах, г.зн., што абітурыенты, якія не вывучалі беларускую мову і літаратуру, будуць здаваць уступны экзамэн па расейскай мове і літаратуры.

Разам з тым варта адзначыць, што ва ўсіх ВНУ рэспублікі абавязковай дысцыплінай зьяўляецца беларуская-.мова, а таксама тое, што ў новым навучальным годзе ўсе пэдагагічныя ВНУ ў абавязковым парадку пераходзяць да навучаньня на беларускай мове.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія пасьпяхова здалі ўступныя экзамэны па конкурсе, будуць залічаныя на вучобу на агульных з жыхарамі Беларусі падставах: атрымліваць дзяржаўную стыпэндыю, месца ў інтэрнаце, бясплатна карыстацца вучэбна-матэрыльнай базай ВНУ. Асобы, якія станоўча здалі ўступныя экзамэны, але не прайшлі па конкурсе, могуць быць залічаныя звыш кантрольных лічбаў прыёму пры ўмове аплаты за навучаньне, прычым гэтае пытаньне ў кожным канкрэтным выпадку разглядае прыёмная камісія ВНУ, памер аплаты за навучаньне вызначае кожная ВНУ самастойна.

Такім чынам, беларусам замежжа даецца магчымасьць і льгота свабоднага паступленьня ў любую ВНУ рэспублікі і вучобы за дзяржаўны кошт.

Па ўсіх пытаньнях паступленьня ў ВНУ рэспублікі, праблемах, што ўзьнікаюць пры гэтым, прадстаўнікі беларускіх суполак могуць зьвяртацца ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (220010, Менск, вул. Савецкая, 9) ці непасрэдна да супрацоўнікаў міністэрства Парфянцовай Ларысы Аляксееўны (тэл. 20-62-72) і Пяцігора Генадзія Міхайлавіча (тэл. 20-30-66).

## Наш каляндар

***4 чэрвеня 1910 г.*** нарадзіўся беларускі вучоны, доктар габілітаваны філялягічных навук, прафэсар Віленскага Ўнівэрсытэту ***Антон Антановіч.*** Родам ён з вёскі Казлы колішняга Нясьвіскага павету Менскай губэрні. У Вільні скончыў унівэрсытэт. Дасьледваў судовыя кнігі Ковенскага земскага суда з XVI ст., пісаныя на старабеларускай мове. Доктарскую дысэртацыю абараніў па выніках вывучэньня сьвятых кніг татараў, якія ў Вялікім княстве Літоўскім пісалі іх арабскімі літарамі на беларускай мове. Адначасова займаўся выкладчыцкай працай ва ўнівэрсытэце. Адгарнуў новую старонку ў вывучэньні жывой беларускай мовы сярэднявечча. Памёр у 1980 г., пахаваны ў Вільні на Ліпаўцы.

***5 чэрвеня*** — дзень ***Еўфрасіньні Ігуменьні Полацкай***, беларускай асьветніцы, апякункі мастацтваў. Яна з роду слаўнага Полацкага князя Ўсяслава Чарадзея, даводзіцца яму ўнучкай. Жыла з 1110 да 1173 г. За сваё пабожнае жыцьцё, аддадзенае служэньню хрысьціянскай веры, прызнаная першай беларускай сьвятой. Заснавала ў Полацку два манастыры, перапісвала сьвятыя кнігі, рупілася аб асьвеце, адкрывала школы. Культ сьвятой Еўфрасіньні Полацкай штораз больш пашыраецца сярод беларусаў як на радзіме, так і за мяжой. Будуюцца цэрквы, якія ўшаноўваюць яе імя. У Вільні, у колішнім прыгарадзе Ліпаўка, ёсьць праваслаўныя могілкі, там жа і царква, названыя яе іменем.

***14 чэрвеня 1900 г.*** нарадзіўся адзін з найбольш слаўных беларускіх вакалістаў, таленавіты опэрны сьпявак ***Міхась Забэйда-Сумніцкі.*** Родам з вёскі Несьцяровічы каля Ружан на Берасьцейшчыне. Рыхтаваўся стаць настаўнікам, але лёс паканаваў яму вялікія дасягненьні ў галіне музыкі. З хваляй уцекачоў трапіў у Расею, затым у далёкі Харбін, дзе здабыў грунтоўную музычную адукацыю, стаў салістам опэры. У 1932 г. пераехаў у Італію, дзе дасканаліў свой сьпявацкі талент, выступаў у славутай опэры Ла Скала ў Мілане. Затым вяртаньне на радзіму, праца ў Пазнаньскай опэры і Варшаўскай фільгармоніі. З канцэртамі наведваў Вільню. З пачаткам другой сусьветнай вайны пераехаў у Чэхаславаччыну, жыў у Празе. Заўсёды ў сваім рэпэртуары меў беларускія песьні. Памёр у Празе ў 1982 г., дзе і пахаваны. На яго надмагільлі надпіс на беларускай мове.

***16 чэрвеня 1875 г.*** нарадзіўся ў Вільні выдатны беларускі кампазытар ***Канстанцін Галкоўскі.*** Заслужыў глыбокую пашану ў музычным. асяродзьдзі і Літвы і Беларусі. Атрымаў дужа добрую музычную адукацыю ў Пецярбурскай кансэрваторыі, быў вучнем такіх клясыкаў расейскай музыкі як Рымскі-Корсакаў, Глазуноў, Лядаў. У 1908 г. напісаў сваю першую опэру. У Вільні стварыў сымфанічны аркестр, музычную школу. У міжваенным часе шмат працаваў над апрацоўкай беларускіх песень, ствараў песьні на словы беларускіх паэтаў. Цесна супрацоўнічаў з фальклярыстам Рыгорам Шырмам і сьпеваком Забэйдай-Сумніцкім. Пакінуў багатую спадчыну і ў галіне інструмэнтальнай музыкі. Пасьля другой сусьветнай вайны выкладаў у Віленскай кансэрваторыі, стаў народным артыстам Літвы. Памёр у 1963 г., пахаваны ў Вільні на Антокальскіх могілках.

***19 чэрвеня 1924 г.*** нарадзіўся ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну на Віцебшчыне пісьменьнік ***Васіль Быкаў***, якому сёлета спаўняецца 70 гадоў. Вучыўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Удзельнічаў у другой сусьветнай вайне, добра пазнаў франтавое жыцьцё на ўласным вопыце, што пазьней яскрава адбілася ў яго літаратурнай творчасьці, у жанры ваеннай прозы. Друкавацца пачаў з 1949 г., супрацоўнічаў у пэрыядычным друку ў Горадні, з 1978 г. жыве ў Менску. Кнігі Быкава поўныя высокага грамадзянскага пафасу, веры ў вялікія духоўныя магчымасьці чалавека, нянавісьці да подласьці, хлусьні і здрадніцтва. Адсюль яго вострa крытычныя адносіны да сучаснага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Сёньня творчасьць Васіля Быкава — гэта клясыка пасьляваеннай беларускай літаратуры. Быкаў ніколі ня быў прыстасаванцам, а яго грамадзянская пазыцыя ясна вызначалася на баку сілаў прагрэсу, дэмакратыі і змаганьня за волю і незалежнасьць Беларусі.

Апрацаваў Іван Міхальчук

## Мае ўражаньні з нагоды 75-ых угодкаў гімназіі

21-22 траўня ў Вільні адзначалася слаўная дата жыцьця суполкі беларусаў — 75 год беларускай гімназіі. Мне пашэнціла быць на гэтым цудоўным сьвяце — сьвяце духоўнасьці, сьвяце думкі, сьвяце беларускасьці. Прыехала шмат былых гімназістаў, якіх лёс раскідаў на розных краінах і якія ўпершыню сустрэліся пасьля 50-ці гадоў перапынку, бо толькі цяпер зноў пачала пакрысе адраджацца беларуская гімназія. І сустрэча сучасных вучняў беларускай школы з былымі гімназістамі была ня толькі прыемнай, але і карыснай. Мы ўсе ўбачылі, які вялікі ўплыў зрабілі веды, атрыманыя ў гімназіі, на лёс гэтых людзей, на іх жыцьцё, на іх духоўны сьвет.

Ізноў перак знаемся ў тым, якое вялікае значэньне маюць у жыцьці кожнага чалавека навука, адукацыя, значэньне якіх у апошні час прыніжалася, бо сярод большасьці школьнікаў зараз зьвілася думка аб нікчэмнасьці ведаў, пануе філязофія гарунайскага торжышча. А тут, на сустрэчах, мы ўбачылі культ ведаў, якія робяць чалавека ўзьнёслым, прыгожым душой, бескарысным і неабыякавым да другога чалавека.

А мне асабліва прыемнай гэта сустрэча была тым, што ўся яна была прасякнута беларускасьцю, узьнёсласьцю, хваляваньнем і гонарам за свае карані, слаўную гісторыю бацькаўшчыны, за сваю мінуўшчыну і болем за будучыню Радзімы, яе нашчадкаў.

У наш час, калі чалавек змагаецца за сваё існаваньне, галоўнае — не згубіць стрыжань, якім зьяўляецца будучае нашай бацькаўшчыны, духоўнае адраджэньне моладзі.

Нам прыемна, з якім натхненьнем і заклапочанасьцю ставяцца да адраджэньня нашай гімназіі былыя гімназісты. Тут, на Віленшчыне, цягам вякоў побач з іншымі народамі жывуць беларусы, але балюча назіраць, што многія ўжо не ўсьведамляюць сябе беларусамі, цураюцца сваёй нацыі, губляючы сьведамасьць, культуру продкаў, рамёствы і каб нам канчаткова не размыцца, не згубіць сябе як этнас, мы павінны зрабіць вялікія намаганьні над сабой, перадаваць веды і традыцыі сваім дзеткам у сям'і і ў школе. Вось гэтым у першую чаргу і займаецца наша беларуская школа.

Мы пакуль што ня маем свайго будынка, пакуль што база не зусім багатая, пакуль што ня можа даць нам належнай увагі наша бацькаўшчына, але агульнымі намаганьнямі гэтыя перашкоды можна перамагчы. І галоўнае тут — усьвядоміць сябе беларусам, асобай гэтай вялікай сям'і, якая дала шмат цудоўных імёнаў ня толькі бацькаўшчыне, але і іншым краінам (Скарына, Гусоўскі, Лабачэўскі, Глінка, Дастаеўскі, Кіт і інш.) і гэтае ўсьведамленьне сябе, сваёй прыналежнасьці да сінявокай і пакутлівай зямлі ёсьць ужо адраджэньне нас і нашай Радзімы.

Вось такія ўражаньні я атрымаў ад гэтых двух дзён сьвята.

Зараз нам усім патрэбна яшчэ раз перажыць у думках убачанае і пачутае, асэнсаваць усё і спытаць сябе — ці ўсё мы зрабілі (я маю на ўвазе настаўнікаў), каб перадаць эстафету старэйшых пакаленьняў сёньняшнім вучням і каб на будучых юбілеях з такім захапленьнем гаварылі пра сёньняшніх навучэнцаў гімназіі Вільні, як гаворыць пра Кіта, Смоліча, Арсеньнева і іншых сьціплых, шчырых, працавітых, добразычлівых беларусах, а падставы для гэтага ёсьць, бо беларускі народ багаты талентамі і яны ўжо праглядаюць сярод нашых навучэнцаў. Не праглядзець бы за нашай будзённасьцю іх.

Саўчанка Паўла
настаўнік беларускай школы

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 па тэлебачаньню Літвы — беларуская праграма.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — па першай праграме Літоўскага радыё.
— Хата-чытальня ТБК па вул. Жыгімонта 12-3. Працы з 11.00 да 14.00 і з 17.00 да 20.00 штодня акрамя суботы і нядзелі. Тэл. 61-65-32.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49

ТБК

# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 34

## Роздумы з юбілею гімназіі

Старыя Базыльянскія муры. Характэрная даўгая брама. Траецкая царква з малюнкам на вонкавай сьцяне трох віленскіх сьвятых. Фарба малюнку абліняла і аблупілася. Усё старэе ад свайго зьяўленьня на сьвет. Не старэе толькі чалавечы дух і старанна перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне праз бібліятэкі, музэі, школы. Дзядзінец абмежаваны будынкамі манастырскага тыпу. Удыхаю паветра маіх юнацкіх гадоў. З настроем нават свайго роду пабожнасьці пераступаю парог мае альма матэр. Колькі ж гэта прайшло гадоў з таго часу, як для мяне тут празьвінеў апошні званок? Падлічваю, выходзіць роўна 65. Травень 1929 г., калі я трусілася ад страху перад выпускнымі экзамэнамі — травень 1994 г., калі я зноў апынулася ў гэтым дарагім мілым сэрцу будынку, але ўжо не дзяўчынкай у сіняй з белым каўнерыкам і чорным фартушком школьнай сукенцы, а сівой бабулькай. 65 гадоў нялёгкага, выбрукаванага вострымі каменьнямі жыцьцёвага шляху, бо для тых, хто меў адвагу пранесьці праз усё жыцьцё таўро «беларус», а менавіта гэтаму вучыла «кузьня беларускага духу», лёс ня быў ласкавы.

75 гадоў з дня нараджэньня гімназіі з яе таксама нялёгкім жыцьцём. Праўда, фактычна яна здолела праіснаваць толькі больш менш 25 гадоў, якія былі безупынным змаганьнем за сваё існаваньне. Ня вытрымала даўжэй у няроўнай барацьбе. Але і за гэтыя 25 гадоў патрапіла ўнесьці вялікі ўклад у справу адраджэньня.

Даўгі калідор, і вось саля па берагі поўная народу. Я мушу гаварыць першая, як найстарэйшая з выпускнікоў гімназіі, якім накавана было дажыць да гэтага ўрачыстага дня. Думкі ад узварушэньня мітусяцца ў галаве, нешта гавару, сама ня ведаю што. Саля бурна вітае. Кветкі ад арганізатараў, пасьля ад нейкіх незнаёмых людзей. За што такая пашана? Не магу зразумець, нічым я на такі гарачы прыём не заслужыла, хіба толькі тым, што мне пашэньціла быць зусім маленькім каменьчыкам у будынку, які праз нас вучняў меў перадаваць беларускі дух наступным пакаленьням.

Ці выканала гэтая будоўля сваё заданьне? Безумоўна так. Мусіць і яе немалая заслуга ў тым, што сяньня ў Менску павяваюць бел-чырвона-белыя сьцягі, за якія ішло столькі часу змаганьне. Разумеюць гэта, відаць, і тыя з сучаснага пакаленьня, хто арганізаваў урачыстасьць на чэсьць дня нараджэньня «кузьні беларускага духу» і тых, чый дух яна выкула. Можа і ў іх сэрцы трапіла частка гэтага духу, які нам, старэйшым, накавана было вынесьці з Базыльянскіх муроў.

І вось колішнія выпускнікі Віленскае Беларускае Гімназіі зноў сабраліся ў гэтым гнязьдзе беларушчыны Базыльянскіх мурах, каб адсьвяткаваць дзень нараджэньня тае нашае маці, якая дала нам выхаваньне. Выпускнікі розных выпускаў 20-х і 30-х гадоў, моцна пастарэлыя, раскіданыя па розных краінах, якія нават раней і ня зналі адзін аднаго з прычыны значнай розьніцы ў гадох і ўсе чуемся сабе блізкімі роднымі, бо думкі нашыя плывуць у адным кірунку, у тым, у якім былі скіраваныя ў нашыя юнацкія гады ў гэтых мурах. Адыходзяць кудысьці гады і жыцьцёвыя злыдні і хочацца сказаць: дзякую арганізатарам за прыемна пражытыя хвіліны.

Зоя Каўшанка

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

12-13 чэрвеня ў Менску па ініцыятыве згуртаваньня «Бацькаўшчына» адбылася навуковая канфэрэнцыя «Культура беларускага замежжа». Да ўдзелу ў канфэрэнцыі прыехалі беларусы з многіх краін сьвету, у тым ліку і дэлегацыя ТБК з Літвы. Лёс раскідаў беларусаў па ўсяму сьвету, па-рознаму ў іх склалася жыцьцё. Эміграцыя — паняцьце шырокае й неабдымнае. У 1919—20 гг. бальшавікі ліквідавалі беларускую дзяржаўнасьць, вынікам чаго была эміграцыя патрыётаў у другія краіны з Беларусі. Многія з іх у 20-ых гадах працягвалі барацьбу за вызваленьне Бацькаўшчыны, бо былі ўпэўненыя — дзень вызваленьня настане, захоўвалі самасьвядомасьць. І самае галоўнае, жывучы ў далёкім замежжы, далёка ад Бацькаўшчыны, захавалі родную мову. Калі жыве мова, ёсьць і народ, які ўзбагачае другія культуры.

Многія сталі вядомымі ўсяму сьвету навукоўцамі, пісьменьнікамі. Вось і на канфэрэнцыю зьехаліся кветкі нацыі, нагадаю некалькі прозьвішчаў: доктар Ян Запруднік (ЗША), доктар навук Ніна Брэдэрлоў (Нямеччына), прафэсар Аляксандар Барычэўскі (Польшча), паэтэса Вера Рыч (Вялікабрытанія), доктар навук Аляксей Каўка (Расея) і іншыя. Даклады вельмі цікавыя, зьмястоўныя, гэта частка нацыянальнай спадчыны.

Для Беларусі цяпер лёсавызначальны час. І як падкрэсьліў у сваім дакладзе сп. Хведар Нюнька з Літвы: «Якім будзе становішча ў Беларусі, хто прыйдзе да ўлады, такім будзе і становішча беларусаў замежжа».

Л.Мілаш

## З ГАЗЭТ

Яшчэ за месяц да сьвяткаваньня ў Вільні юбілею беларускай гімназіі да свайго тутэйшага сябра пазваніў па тэлефоне з Нью-Ёрку старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелойць і паабяцаў паслаць з гэтай нагоды павіншаваньне юбілярам гэтай падзеі. Аднак на сьвяткаваньні павіншаваньня ад амэрыканскай дыяспары не прагучала. Ці прычынай былі шматлікія арганізацыйныя хібы ці маруднасьць службаў сувязі — няведама. Тымчасам у газэце «Голас Радзімы» з 9 чэрвеня гэтае прывітаньне ўсё ж апублікавана. Вось ягоны тэкст:

*Высокапаважаныя Спадарыні і Спадары! Ад імя Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, яе сяброў і былых вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі ў Злучаных Штатах Амэрыкі маю гонар вітаць вас з нагоды 75-х угодкаў ад заснаваньня Віленскай Беларускай Гімназіі.*

*Арганізацыя Віленскай Беларускай Гімназіі была адным з многіх вялікіх беларускіх адраджэнскіх праектаў Івана Луцкевіча, ад перадчаснай сьмерці якога мінае незадоўга таксама 75 гадоў.*

*Гістарычны шлях Віленскай Беларускай Гімназіі неразрыўна зьвязаны з цярністым шляхам Беларускага Народу да незалежнасьці за апошнія 75 год. На шляху гэтым гінулі ў маскоўска-бальшавіцкіх, нямецка-фашысцкіх і польскіх турмах і канцэнтрацыйных лягерах лепшыя настаўнікі й гадунцы гэтай гімназіі. Хопіць згадаць некаторых, якіх імёны вядомыя ў гісторыі беларускага адраджэньня: Антона Луцкевіча, Максіма Гарэцкага, Аркадзя Смоліча, Вячаслава Багдановіча, Нэканда-Трэпку, Краўцова Макара, айцоў Адама Станкевіча, Аляксандра Каўша, Станіслава Глякоўскага і многа іншых.*

*Хай жа адроджаная Віленская Беларуская Гімназія станецца кузьняй маладога пакаленьня беларускіх патрыётаў, хай ейны шлях вядзе ў сьветлую будучыню Беларускага Народу. Жыве Беларусь!*

*Антон Шукелойць — старшыня.*

І хаця гэтае віншаваньне віленчукі ня здолелі пачуць у дзень урачыстасьці, ды ўсё ж яно ўрэшце трапіла ў Вільню. Шчыра дзякуем, дарагі сябра Антось!

Абсальвэнты гімназіі.

З тэй самай газэты зьвяртае на сябе ўвагу пісьмо-пратэст «Не чапайце нашай сымболікі!». Закранутае ў ім пытаньне ня можа пакінуць абыякавымі і беларусаў Літвы. Вось яго фрагмэнты, якія прапануем увазе нашых чытачоў:

*З пачуцьцём сораму і агіды пачулі мы ад вядучага перадачы «Радыёфакт» А.Шаўко аб пісьме гэтак званага «народнага» руху за сацыяльны прагрэс і сацыяльную справядлівасьць» у Вярхоўную Раду краіны з патрабаваньнем скліканьня нечарговай сэсіі, якая б скасавала нацыянальную сымболіку краіны, бо яна ім, бачыце, не дае спакойна спаць! Камуністы, пэнсіянэры-вайскоўцы, рэваншысты ўсіх колераў і адценьняў, для якіх незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі, бы костка ў горле, вышукваюць усё новыя і новыя прычыны, каб парушыць спакой і згоду ў беларускім грамадзтве. І апошняе іх «Пісьмо» ў Вярхоўную Раду краіны — яркае гэтаму сьведчаньне!(...) Заклікаем усе беларускія патрыятычныя арганізацыі ў краінах блізкага і далёкага замежжа падаць свае галасы пратэсту супраць магчымага зьдзеку над гербам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сьцягам. Зьвяртаемся да беларускага народу: ня дайце гэтым старым крыкунам, якія дажываюць свой век і ня ведаюць што твораць, чарговы раз учыніць гвалт над гісторыяй Беларусі!!! Рукі прэч ад «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцягу! Жыве незалежная і сувэрэнная Беларусь!!!*

*Члены гурта беларускай культуры «Зорка Вэнэра», Украіна*

Публікуючы фрагмэнты гэтага звароту, маем падставы запэўніць, што беларусы Літвы, прынамсі нацыянальна сьвядомая частка нашых суайчыньнікаў, цалкам падтрымлівае нашых сяброў-суродзічаў з Украіны. Пры гэтым лічым неабходным падкрэсьліць, што ганьбаваньне герба «Пагоня» — гэта міжнароднае злачынства, гэта зьдзек ня толькі з народу Беларусі, але і з народу прыхільнай да нас Літоўскай Рэспублікі, якая карыстаецца тым самым гербам, гэта таксама абраза годнасьці ўкраінцаў ды ўсіх іншых народаў, якія пад гэтым гербам вякамі мірна жылі ў межах Вяліка княства Літоўскага.

## Аб чым нагадаў мне юбілей?

Юбілей Віленскай Беларускай Гімназіі, на мой погляд, быў для нас, віленскіх беларусаў, сапраўдным сьвятам. А якое ж сьвята абыходзіцца бяз песьні? Вось і ў дні юбілею на ўсіх яго імпрэзах гучалі нашы родныя песьні. Яны гучалі перш за ўсё на ўрачыстым сходзе ў выкананьні нашых віленскіх сьпевакоў і цудоўнага дзіцячага ансамблю з Ашмянаў «Званочкі», і на канцэрце фальклёрнага гурта «Бліскавіца». Сьпявалі мы іх і на ўрачыстай вярэчы, а таксама ў часе сустрэчы былых вучняў і настаўнікаў гімназіі. Як жа прыемна было іх слухаць. Калі выступалі ў залі старых Базыльянскіх муроў «Званочкі», у мяне нявольна ад радасьці сьлёзы каціліся з вачэй.

Але ня ўсё было так гладка і весела. Бо побач з радасьцю ў маім сэрцы сьвята выклікала і жаль. Аб чым жа? А аб тым, што адносіны нас, віленскіх беларусаў, да роднай песьні не зусім такія, якімі павінны былі б быць. Ужо больш за пяць гадоў дзейнічае ў Вільні клюб «Сябрына». Намаганьнямі энтузіяста беларускай песьні, нашага сьпевака Юрага Зімніцкага, пры клюбе арганізаваны харавы гурток. За пяць гадоў працы хор вывучыў каля двух дзясяткаў народных і другіх беларускіх песень. Удзельнікі юбілею мелі магчымасьць пазнаёміцца з некаторымі з іх на ўрачыстым сходзе. Здавалася б, што усё ў парадку. На жаль, гэта не зусім так. Ёсьць адна бяда.

Амаль усе ўдзельнікі хору — гэта людзі саліднага ўзросту. Бальшыні з іх ўжо за шэсьцьдзесят, а некаторым значна больш. Намаганьні кіраўніка хору прыцягнуць у яго склад маладзейшых сьпевакоў не далі рэзультатаў. А чаму?

На мой погляд, таму, што бальшыня віленскіх беларусаў абыякава адносіцца да роднай песьні. Яны ня хочуць знайсьці дзьвюх гадзін часу ў тыдзень, каб пабыць на рэпэтыцыі хору. На жаль, таксама нічога ня зроблена, каб арганізаваць вывучэньне беларускай песьні нашымі дзяцьмі і моладзьдзю. У нашым горадзе, у якім у міжваенныя часы зарадзіўся праслаўлены харавы калектыў Беларуская харавая капэла імя Рыгора Шырмы, павінны зычна і моцна гучаць беларускія песьні. Але пакуль што гэта ня так.

У нас ёсьць некалькі грамадзкіх суполак, якія сваёй мэтай ставяць беларускую нацыянальную, культурную і асьветніцкую дзейнасьць. Аднак, ні адна з іх не падумала аб дапамозе нашаму хору. Кіраўнік клюбу «Сябрына» Валяньцін Стэх агранічыўся тым, што дапамог прыдбаць для ўдзельнікаў хору нацыянальную вопратку. І больш пакуль што нічога. А другія нашы дзеячы наогул лічаць, што справа беларускай песьні да іх зусім не адносіцца. А вось на мой погляд, родная песьня ня менш важная для народу, чым яго родная мова.

Л.Кароль, удзельнік хору «Сябрыны»

## Весткі з Беларусі

* * *

У Менску прайшла навуковая канфэрэнцыя «Беларуска-амэрыканскія гістарычныя і культурныя ўзаемаадносіны: традыцыі, сучаснасьць і пэрспэктыва». У форуме прынялі ўдзел навукоўцы, пісьменьнікі з ЗША, Расеі, Польшчы і краін Балтыі.

* * *

Нацыянальны банк РБ паведаміў, што сярэдні курс расейскага рубля да беларускага для ажыцьцяўленьня паштовых пераводаў органамі сувязі дзьвюх дзяржаў устаноўлены 13 чэрвеня 1994 г. на ўзроўні 11.

* * *

Рэспубліканскія газэты апублікавалі перададзены пасольствам ЗША зварот Б.Клінтана да ўдзельнікаў першага міжнароднага фэстывалю Марка Шагала ў Віцебску. У ім прэзыдэнт ЗША гаворыць аб тым, што ў Беларусі, якая нядаўна займела незалежнасьць, мастацтва сымбалізуе сілу і рашучасьць народа ў гістарычным пераходзе да новага жыцьця.

* * *

Старшыня праўленьня Нацыянальнага банку Беларусі С.Багданкевіч правёў перамовы ў Лёндане з кіраўніцтвам Нацыянальнага банку Англіі. Была дасягнута дамоўленасьць аб выдзяленьні РБ цераз яе Нацыянальны банк 30 млн. даляраў ЗША для разьвіцьця малога і сярэдняга бізнэсу.

* * *

З БІЯГРАФІІ ПРЭТЭНДЭНТА НА ПАСАДУ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА. Гісторык паводле адукацыі. Дакладней, гісторык мастацтва. З 1981 году З.Пазьняк некалькі гадоў працуе ў новай для сябе гістарычнай дысцыпліне — археалёгіі. Вядзе раскопкі, вывучае помнікі сярэднявечнай Беларусі. Веды археалёгіі дапамаглі яму адкрыць трагічныя Курапаты, якія ўзрушылі сьвядомасьць суайчыньнікаў у 1988 годзе. Ён ініцыятар утварэньня Беларускага Народнага Фронту. Актыўна далучыўся да выкрыцьця праўды аб чарнобыльскай бядзе. Дзед Ян загінуў у кіпцюрах НКУС восеньню 1939 г. Хутка пасьля нараджэньня сына бацька Зянона загінуў у баях за вызваленьне Польшчы. Брат маці Ясь згарэў у танку ўжо на тэрыторыі Нямеччыны. Маці выхавала сына адна... Пераадольваючы пасьляваенныя цяжкасьці, Зянон пасьпяхова скончыў тэатральна-мастацкі інстытут і асьпіранту-ру. Жыве кандыдат у прэзыдэнты з маці-пэнсыянэркай у стандартнай двухпакаёвай кватэры. Ні дачы, ні машыны ня мае.

## АБ'ЯВА

30 чэрвеня а 18 гадзіне ў залі ТБК па вул. Жыгімонту 12-3 адбудзецца вечар, прысьвечаны памяці дзеячоў беларускай культуры: сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага і кампазытара Канстанціна Галкоўскага. Уваход свабодны. Усіх сардэчна запрашаем.

Рада ТБК

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 па тэлебачаньню Літвы — беларуская праграма.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — па першай праграме Літоўскага радыё.
— Хата-чытальня ТБК па вул. Жыгімонта 12-3. Працы з 11.00 да 14.00 і з 17.00 да 20.00 штодня акрамя суботы і нядзелі. Тэл. 61-65-32.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49

ТБК БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 37

# ДА СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ КРАІН БАЛТЫІ

На пачатку гэтага года паміж кіраўніцтвам Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Таварыствам Беларускай Культуры і другімі беларускім суполкамі Літвы абмяркоўвалася пытаньне аб правядзеньні ў траўні ці пазьней ў 1994 годзе сустрэчы беларусаў краін Балтыі — Літвы, Латвіі, Эстоніі, Калінінграда і Пецярбурга. Мэта зьезду — азнаямленьне з беларускай прысутнасьцю ў рэгіёнах Балтыі, агульныя інтарэсы ў мінулым, сучасным ды будучым і наогул усталяваньне больш цесных сувязей паміж беларусамі гэтага рэгіёну. Такіх сувязей на сёньня амаль няма.

У Рызе і Таліне такія сустрэчы прадбачаныя на наступныя гады. Аднак на шляху ажыцьцяўленьня згаданай ідэі аказалася нямала перашкод.

Так, урад Літвы цераз дэпартамэнт па справах нацыянальнасьцяў і рэгіянальных праблем адмовіў у фінансавай падтрымцы зьезду. У цяжкім эканамічным стане апынулася Згуртаваньне Б.С. «Бацькаўшчына». Ня мае сваёй камэрцыйнай дзейнасьці і фінансавых сродкаў Таварыства Беларускай Культуры.

Адзіным рашэньнем у такім выпадку была адмова ў правядзеньні сустрэчы ў гэтым годзе. Але ці ёсьць гв族 гарантыя, што становішча палепшыцца ў наступным годзе?

На канфэрэнцыі «Культура беларускага замежжа», якая праходзіла 12-13 чэрвеня ў Менску абмяркоўвалася з прадстаўнікамі краін Балтыі таксама пытаньне сустрэчы беларусаў у Вільні.

Дэлегаты Балтыі выказаліся, каб такая сустрэча абавязкова адбылася. Яны, улічваючы наш цяжкі эканамічны стан, пагодзяцца на дрэнныя бытавыя ўмовы і гатовы харчавацца толькі сваімі бутэрбродамі.

Таму ТБК канчаткова пагадзілася на правядзеньне сустрэчы 6 і 7 жніўня г.г. у Вільні, праўда, у значна меншай колькасьці гасьцей, спадзеючыся на падтрымку нашых чытачоў і прыхільнікаў.

Таварыства Беларускай Культуры просіць паведаміць, хто і колькі зможа прыняць нанач нашых суайчыньнікаў з-за мяжы.

Можа знойдзецца спонсар, які фінансава зможа нам дапамагчы. Просім свае прапановы кіраваць па тэл. 355595 і 449001 альбо па тэлефоне культурнага цэнтра 616532.

Рада Таварыства
Беларускай Культуры ў Літве

# Сем дзён сярод беларусаў Лёндана

З балькону чатырохпавярховага будынку, які знаходзіцца на рагу Тальбот стрыт і вуліцы Сьв. Сьцяпана ў Лёндане, разьвяваецца бел-чырвона-белы сьцяг. Тутака рэзыдуе Пасол Рэспублікі Беларусь у Англіі. Амбасада першай у гісторыі Беларусі незалежнай дзяржавы.

Кожны дзень каля 9-е гадзіны перад уваходам у будынак зьяўляецца адзін вельмі цікавы чалавек. Ён размераным няхуткім крокам падыходзіць да будынку, з любоўю і гонарам пазірае на бел-чырвона-белы сьцяг і ўваходзіць у будынак, дзе на першым паверсе знаходзіцца яго офіс. Гэта гаспадар будынку, вельмі паважаны чалавек ня толькі сярод беларусаў Англіі, але і сярод ангельцаў, прадпрыемцаў, якія лічацца з ім, а часта пытаюць рады, — спадар Янка Домінік, беларус з крыві і косьці.

Ён заўсёды гаворыць, што можна сябраваць з усімі, каторыя будуць адносіцца да цябе як да роўнага і ня будуць называць цябе мінскаю бульбаю. Спадар Домінік вельмі ганарыцца тым, што ў яго хаце знаходзіцца Пасольства Рэспублікі Беларусь, а на хаце разьвяваецца беларускі нацыянальны сьцяг.

У сям'і Тамары і Янкі Домінікаў, дзе мы спаткаліся з іхняю дачкою Марыяй, мы правялі сем цудоўных дзён. Хіба ня трэба казаць, якое ўражаньне мы аднясьлі ад знаёмства з Лёнданам, Віндзорам, яго замкам, унівэрсытэцкім гарадком Оксфардам... Гэта ўсё было вельмі добра і прыемна. Але самымі прыемнымі, поўнымі хваляваньня былі бясконцыя гадзіны гутарак, успаміны аб мінулых гадох, аб бацькаўшчыне, аб людзёх, якіх мы ведалі, шмат якіх ужо няма ў жывых, аб тых, пра якіх чулі, аб падзеях. І хоць спадар Янка добра асьвядомлены аб падзеях у Беларусі і наогул у сьвеце, усё ж вельмі цікавіўся жыцьцём беларускай грамадзкасьці ў Вільні, дзе ён некалі жыў і вучыўся.

Нас жа цікавіла жыцьцё беларусаў у Англіі і канкрэтна ў Лёндане, і нашу зацікаўленасьць спадар Янка намагаўся задаволіць. Мы пачулі шмат цікавага аб жыцьці беларусаў Англіі, часта паўтараліся прозьвішчы тамтэйшых беларусаў: Ю.Весялкоўскага, айца Аляксандра Надсана, Здановіча, Дзейкі і інш.

У хаце спадарства Домінікаў і ў офісе спадара Янкі мы чулі тэлефонныя гутаркі ня толькі на ангельскай мове, але і па-беларуску, што сьведчыць аб тым, што лёнданскія беларусы ўвесь час падтрымоўваюць сувязь між сабою. А колькі беларусаў знаходзіла маральную і матэрыяльную патрымку Янкі Домініка?!

Мы даведаліся, як цікава адзначаюць беларусы Англіі гадавіны незалежнасьці Беларусі, Слуцкага паўстаньня, царкоўныя сьвяты, сходы і г.д. Якраз у офісе спадара Домініка нам давялося пазнаёміцца з амбасадарам Рэспублікі Беларусь у Англіі Яго Эксцэленцыяй спадаром У.Сянько, консулам А.Якавіцкім, яго жонкаю і цудоўнаю дачушкаю. Не абышлося без таго, каб прысутным не засьпяваў беларускіх песень мой муж Лявон, так быў экспромтам арганізаваны канцэрт.

Мы даведаліся, што сёлета 26 траўня адбылося ўручэньне даверчых лістоў Яе Вялікасьці Каралеве Елізавеце II-й Пастом Беларусі. З гатэля «Дорчэстэр» маршал дыпляматычнага корпуса сэр Джэймс запрасіў Пасла Беларусі са сьвітаю ў каралеўскія карэты, якія накіраваліся ў Букінгэм на аўдыенцыю да Каралевы.

Пасьля аўдыенцыі ў Каралевы Пасол Беларусі даў кактэйль у гатэлі «Дорчэстэр» (нас спэцыяльна падвозіла туды ў самаходзе дачка спадара Домініка), на якім прысутнічалі маршал дыпкорпуса сэр Джэймс, яго намесьнік спадар Фігс, ну і самыя дарагія госьці, як казаў консул спадар А.Якавіцкі: спадарства Тамара і Янка Домінік, айцец Аляксандар Надсан, спадар Здановіч, спадарства Дзейкі, спадар Весялкоўскі, спадарыня Міхалюк і інш.

Сем дзён праляцелі, як адна хвіліна, мы разьвіталіся зь Лёнданам, з гаспадарамі — спадарствам Тамарай і Янкам Домінікамі. Перад ад'ездам угледзела гэткі абраз, на які без хваляваньня нельга было глядзець. Перад будынкам Беларускай амбасады ўзяўшыся за рукі стаялі два немаладыя чалавекі. Яны глядзелі на бел-чырвона-белы сьцяг, а з іх вачэй ліліся сьлёзы, якіх мы не саромеліся, бо вельмі доўга чакалі гэтага. Гэта былі стрыечныя браты Янка Домінік з Лёндана і Лявон Мурашка з Вільні.

Вікторыя Мурашкене

# АБ'ЯВЫ

Нагадваем, што з ліпеня месяца ТБК настаянна атрымлівае сьвежыя беларускія перыядычныя выданьні, з якімі можна пазнаёміцца ў хаце-чытальні па вул. Жыгімонта 12-3.

* * *

У чацьвер 21 ліпеня ў залі ТБК па вул. Жыгімонта 12-3 а 18 гадзіне адбудзецца вечар, прысьвечаны памяці віднага архітэктара-віленчука Л.Дубейкаўскага. Праграму вядзе мастцтвазнаўца С.Харэўскі.

* * *

23 і 24 ліпеня ў праваслаўным Сьвята-Духавым манастыры адбудзецца сьвятая імша, у якой возьмуць удзел вернікі Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў з Беларусі.

# Весткі з Беларусі

* * *

Бальшыня выбаршчыкаў у Беларусі, што прыйшла 10 ліпеня на другі тур выбараў прэзыдэнта, аддала свае галасы за А.Лукашэнку.

Праграмы яго і ягонага канкурэнта В.Кебіча мала чым адрозьніваліся: гэта фактычнае адмаўленьне рынкавых рэформаў, адмоўнае стаўленьне да нацыянальнакультурнага адраджэньня і цесны эканамічна-палітычны саюз з Расеяй. Тым ня менш, большасьць выбрала прэзыдэнтам чалавека, які мае толькі вопыт камсамольскай работы і не скупіўся на абяцанні хутка вырашыць усе праблемы краіны.

Адсутнасьць беларускай дзяржаўнасьці і асыміляцыйная палітыка савецкага перыяду перашкодзілі зразумець, што шлях да лепшага і заможнага жыцьця ляжыць цераз дэмакратычныя рэформы і сумленную працу грамадзтва. І той, хто замест свабоды хоча кілбасы, у рэшце рэшт ня мае ні першага, ні другога.

Замежная прэса адмоўна паставілася да вынікаў выбараў, а газэта «Дэр Шпігель» напісала: «Спакойныя беларусы далі маху і прагаласавалі за шарлатана». Мабыць Беларусі наканавана яшчэ нямала выпрабаваньняў на шляху да сапраўднай незалежнасьці і дабрабыту.

* * *

У сувязі з 52-й гадавінай з дня сьмерці Янкі Купалы у Менску прайшоў дзень памяці паэта, народнага песьняра нашай Бацькаўшчыны. Загадак вакол яго трагічнай сьмерці шмат. Адно сёньня можна сказаць пэўна: пайшоў заўчасна з жыцьця ня толькі адзін з самых слаўтых нацыянальных творцаў, класік беларускай літаратуры, а і прарок Айчыны.

* * *

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусьціла зборнік твораў Васіля Быкава ў шасьці тамах. Шматлікія прыхільнікі слыннага майстра слова атрымалі магчымасьць мець пад рукою ўсе ягоныя творы.

Тым жа выдавецтвам выпушчаны зборнік апавяданьняў класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага, што ўпершыню, яшчэ ў 1914 годзе, выйшаў у Вільні ў друкарні Марціна Кухты.

## ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 на тэлебачаньню Літвы — беларуская праграма.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё передача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — па першай праграме Літоўскага радыё.
— Хата-чытальня ТБК па вул. Жыгімонта 12-3. Працы з 11.00 да 14.00 і з 17.00 да 20.00 штодня акрамя суботы і нядзелі. Тэл. 61-65-32.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49



# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 38

## Сустрэча з дэлегатамі брацтва

23 і 24 ліпеня ў праваслаўным Сьвята-Духавым манастыры адбудзецца сьвятая імша, у якой возьмуць удзел вернікі Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў з Беларусі. Сустрэча грамадзкасьці з дэлегатамі брацтва адбудзецца 23 ліпеня а 15 гадзіне ў зале Таварыства Беларускай Культуры па вул. Жыгімонта 12-3.

## З ГАЗЭТ

Гартаючы апошнія нумары газэты «Голас Радзімы», дзе ёсьць карэспандэнцыі ад беларусаў Эстоніі і Латвіі, міжволі ўзьнікае роздум пра зьезд беларусаў Балтыі, пра спадзяваньні і рэальныя пэрспэктывы зьдзяйсьненьня гэтай ініцыятывы. Ідэя скліканьня такога зьезду ўзьнікла яшчэ ў другой палове мінулага году ў кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», пры гэтым месцам правядзеньня зьезду была прадбачана Вільня. Зразумела, гэта шчыра падтрымалі віленчукі, спагадліва аднесьліся й прадстаўнікі беларускіх суполак другіх прыбалтыйскіх краінаў. Вядома ж, усім хочацца мець больш інфармацыі пра грамадзкае жыцьцё суседзяў.

Таму цікава пазнаёміцца з зацемкай ў №25 памянёнай вышэй газэты ў рубрыцы «Беларусы ў Эстоніі». Вось фрагмэнты гутаркі з Вольгай Галавашкінай-Крамарэнка, карэспандэнтам Эстонскага радыё, якая вядзе там перадачы для нашых суайчыньнікаў. Яна кажа:

— Я лічу беларусамі ўсіх, хто паходзіць з Беларусі, хто падтрымлівае беларускую культуру, ведае беларускую мову. А такіх у Эстоніі нямала. Ёсьць некалькі моцных суполак. Адна ў Кохтла-Ярве, горадзе шахцёраў. Працоўныя людзі менш цікавяцца палітыкай, больш культурай, захоўваюць свае звычаі, абрады, мову.

На пытаньне, як пачуваюць сябе беларусы сярод эстонцаў, спадарыня Вольга сказала: «Тыя, хто зразумеў і падтрымаў Эстонію ў яе барацьбе за незалежнасьць, жывуць нядрэнна, бо ў гэтай краіне паважаюць людзей, якія памятаюць і ведаюць свае карані, гісторыю, культуру, мову.

Наша беларуская суполка зьбіралася адзначыць 25 Сакавіка, Дзень незалежнасьці Беларусі, але нідзе не маглі знайсьці памяшканьне, бо арэнда яго каштуе вельмі дорага. І самае было для нас цікавае і нечаканае, што знайшлі мы яго ў самым цэнтры Таліна на Ратушнай плошчы. Там ёсьць невялікая прыватная кавярня, а ў ёй працуюць жанчыны, да іх мы зьвярнуліся, расказалі пра свае патрэбы. Яны прапанавалі правесьці сьвята ў іх кавярні. Ім проста цікава было паглядзець, як беларусы сьвяткуюць, што сьпяваюць. І нават эстонцы, якія прыходзілі з вуліцы, спыняліся і слухалі, як мы сьпявалі свае беларускія песьні. Цяпер нас запрашаюць, ды і грошы не бяруць. І ўсё гэта за песьні!..

І яшчэ я хацела сказаць, што да нас нядрэнна ставяцца ўлады Эстоніі. Мне здаецца, што яны нас паважаюць не як рускамоўных, а як беларусаў. Мы можам адкрываць свае школы з беларускай мовай. Мы маем права друкаваць свае газэты і часопісы, мець сваё радыё.

А на пытаньне, ці абавязкова беларусам, якія жывуць у Эстоніі, ведаць эстонскую мову, яна сказала: «На бытавым узроўні абавязкова. Мы павінны паважаць людзей, сярод якіх мы жывем, тады і нас будуць паважаць».

У №26 тэй жа газэты чытаем рэпартаж з Латвіі пад назваю: «Гукі роднай мовы пахнуць верасам і мятаю». У ім паведамляецца, што «26 траўня ў Доме Саюза пісьменьнікаў Латвіі адбылася сустрэча беларусаў, якія пражываюць ў Рызе, Даўгаўпілсе, Ліепаі, Вентспілсе, з дарагімі гасьцямі — пісьменьнікамі з Беларусі. Сустрэчу адкрыў старшыня праўленьня Саюза пісьменьнікаў Латвіі Віктар Авотыньш. Гоман беларускіх дуброў, сініх рэк і азёраў, рытуалы, каб ураджай на славу вырас і прыход Купальля — усё гэта аднавіў у памяці дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Сяргея Аленкіна. Ён выступіў адразу пасьля афіцыйнай часткі сустрэчы. Невялічкі канцэрт — гэта яшчэ адна магчымасьць зразумець глыбінную повязь традыцый двух народаў-суседзяў. Гэтую ж тэму разьвіў у сваім выступленьні паэт Сяргей Панізьнік».

На сустрэчы шмат гаварылася пра літаратурныя сувязі, пра дасягненьні перакладчыкаў, якія дапамагаюць ажыцьцявіць такую сувязь.

«Зьдзіўляюся таму, колькі агульных каранёў ёсьць у абодвух народаў. Гэта ня можа не спрыяць стварэньню добрых і праўдзівых твораў. Аб дружбе, дабраце беларусаў, аб іх чыстасардэчных прачуцьцях гаварылі на сустрэчы перакладчыкі і паэты.

А завяршыў сустрэчу мастацкі ансабль беларускай дыяспары «Надзея». Прагучалі беларускія народныя песьні — лірычныя й жартоўныя, фальклёрныя, абрадавыя напевы. Удзельнікі ансамбля гэтым самым як бы пацьвердзілі тое, аб чым гаварылі многія выступаючыя: «Гукі мовы беларускай сапраўды пахнуць верасам і мятай, яны кранаюць сэрцы людзей», — паведаміў з Рыгі Лявон Шакавец.

А як жывуць беларусы ў Літве? Пакуль што пра іх дасягненьні мала вядома шырэйшаму чытачу, прынамсі са старонак «Голаса Радзімы». Ці мо тутака мала што адбываецца вартага ўвагі, ці мо гэта вынік іх сьціпласьці?

Зьезд беларусаў Балтыі павінен прынесьці многа карысьці ўсім яго ўдзельнікам, дапамагчы падзяліцца вопытам, атрымаць зьмястоўную інфармацыю з першых рук, абмеркаваць свае цяжкасьці, многія з якіх супольныя для ўсіх нашых згуртаваньняў. Толькі прыведзеныя два допісы пацьвярджаюць, як нам патрэбна родная песьня, мілагучная родная мова, як неабходна пазбыцца абразьлівага ярлыка «рускамоўнае насельніцтва», якім спэкулююць рэваншысцкія імпэрскія сілы Расеі, што быццам нас «бароняць», а па сутнасьці стаяць на перашкодзе аднаўленьня грамадзкага жыцьця.

У беластоцкай газэце «Ніва» ёсьць вартае ўвагі паведамленьне нашага земляка з Варшавы Янкі Жамойціна пра ўражаньні ад сьвяткаваньня юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі. Ён станоўча ацэньвае ўзаемаадносіны між беларускімі суполкамі Вільні:

— Салідарнае і талковае супрацоўніцтва ўсіх грамадзкіх арганізацый віленскіх беларусаў дае неблагія вынікі. Таварыства Беларускай Культуры пасьпяхова вядзе перамовы з уладамі горада ў справе будынка і самастойнасьці для беларускай сярэдняй школы, арганізуе ў собскім памешканьні пры вул. Жыгіманту 12 сустрэчы, розныя імпрэзы, дабілася згоды на атрыманьне гляцу пад будову музэя Якуба Коласа ў прыгарадзе Павільніс. «Сябрына» ладзіць вечарыны, напрыклад, велікодныя і іншыя. Арганізуюцца раённыя суполкі ТБК, напрыклад, у Сьвянцянах. Шматгадовы грамадзкі дзеяч беларускага асяродзьдзя Мікола Рулінскі пазнаёміў мяне з праектам статута культурнага таварыства, арганізаванага ім ў Тракайскім раёне. Такім чынам цэментуецца беларускае асяродзьдзе».

Вось гэткі погляд староньняга й аб'ектыўнага назіральніка. Гэта робіць гонар віленскім беларусам.

Падрыхтаваў Іван Міхальчук

## РАЗМЫЎ

Калі ў старажытным сібірскім горадзе Томску, гэтым дзіўным горадзе, дзе на галоўнай вуліцы заўсёды безьліч юных твараў, а побач, па ціхіх вулках дажываюць свой век дзівакаватыя томскія бабулькі й дрэмлюць між шматпавярховак і сьмецьцевых скрынак цудоўныя карункавыя церамы, калі ў гэтым слаўным горадзе сесьці на шпаркую «Ракету», праз якую гадзіну вынясе цябе змучаная хімікаліямі прыгажуня Томь на вольны абшар магутнай Абі, і паплывеш ты далей на поўнач у край, які афіцыйна завецца Томскай вобласьцю, а называўся здаўна Нарымскім краем.

Амаль дваццаць гадоў мінула, як зь дзіцячым захапленьнем плылі мы, томскія першакурсьнікі, у тыя мясьціны, у Чаінскі раён, «на бульбу». Ведалі мы тады, што гэта рамантычны край тайгі, балотаў, «вялікай нафты» ды царскай катаргі. Са зьдзіўленьнем пачула я тады ў тамтэйшых вёсках родную беларускую мову. Мясцовы хлопец на маё зацікаўленае пытаньне толькі махнуў рукой: «Ай, у нас тут сплошь потомки кулаков живут».

Толькі праз шмат гадоў дачуліся мы праўды аб гэтых мясьцінах: як прывозілі людзей параходамі і скідалі на пустэльных берагах ды на выспах бяз ежы, адзеньня, як паміралі яны тут, як елі гадаў, як тыя, каму пашанцавала ўцалець, абжывалі гэтыя халодныя берагі. Везьлі сюды адусюль і вельмі шмат — з Беларусі і Ўкраіны. У дваццатых гадох было тут 40 тысяч насельніцтва, а ўжо ў 1931 годзе пад назіраньнем спецкамэндатураў знаходзіліся больш за 200 тысяч чалавек. А гэта быў толькі пачатак. Бяспраўныя людзі не хацелі моўчкі схіляць галовы, не аднойчы паўставалі. У раёне, дзе мы працавалі, у пачатку трыццатых палала вялікае паўстаньне, якое жорстка й бязьлітасна было падушана вайскоўцамі. Людзей забівалі на мейсцы, звозілі на расправу ў акружны цэнтар Калпашава.

З дзяцінства добра ведаю бабуліну сям'ю. Ужо вельмі старэнькія, бабуля і тры яе сястры і зараз сябруюць між сабой і клапоцяцца адна аб другой. Сябрую і я са сваімі стрыечнымі бабулямі, цёткамі, дзядзькамі і іх дзеткамі. І таму дужа дзіўлюся, калі нядаўна падчас шчырай размовы чую ад бабулі нечаканае: што мелі яны яшчэ й старэйшую сястру, і што была яна сасланая на пачатку трыццатых у Томскую вобласьць разам з сям'ёй мужа. Называе бабуля й дакладны адрас, адкуль атрымалі яны апошні ліст яшчэ перад вайной. Пачуўшы яго, я ледзьве не падаю з крэсла. Бо гэта менавіта тая самая вёска, дзе бесклапотна кідалі зерне, ірвалі лён, бавілі час на скоках мы дваццаць гадоў таму. І нагадваю адразу ж непрыветны, сумны край і беларускую мову мясцовых жыхароў. Пачынаю ўпікаць бабулю: «Чаму ты раней маўчала?», але спыняюся. Пытаю ў сябе: «А ці ж цікавіліся мы раней, а ці ж распытвалі нашых старых?» Час, у які мы гадаваліся, быў часам глухога маўчаньня. Маўчалі людзі, маўчалі злачынцы (маўчаць яны і зараз), маўчалі родныя пакутнікаў, маўчалі і тыя пакутнікі, якім пашчасьціла застацца жывымі.

Забыліся на ўсё? Не! Нагадала ж мая васьмідзесяцігадовая бабулька адразу, без паперкі дакладны адрас і імёны ўсіх сасланых родных. Дванаццаць чалавек іх было: Ганна, Юліян, Бронік, Стась, Казімір, Амалія, Сальвіна, Янка... Няўжо ўсе бесьсьлядоўна загінулі? «Шукалі мы іх», — кажа бабуля, «пісалі туды некалькі разоў. Аднойчы й адказ атрымалі: «Скуратович Анна с сыновьями выехала в неизвестном направлении».

Дзе той невядомы напрамак? Ці ня ў той жудаснай яміне, якая адкрылася ў глухі 1979 год у Калпашаве, былым цэнтры Нарымскай акругі. Здаецца, сама прырода не вытрымала тады людзкога маўчаньня. Раньняй і цёплай была вясна ў тым годзе, шырока разьліліся рэчкі. Томская вобласьць пад кіраўніцтвам Ягора Кузьміча Лігачова зьбіралася ўрачыста адзначыць чарговы Першамай. Напярэданьні сьвята Обь падмыла стромкі, вышынёй некалькі дзесяткаў мэтраў Калпашаўскі яр, бераг абрушыўся і перад вачыма зьнямелых калпашаўцаў як быццам зьявіўся ад. Вялізная яміна дзе ляжалі сотні трупаў. Мужчыны, жанчыны, дзеці... Перасыпаныя вапнай, яны цалкам захаваліся ў халоднай паўночнай зямлі. Замітусіліся ўлады. Што рабіць? Абнесьлі страшнае месца высокім плотам, і пачалася жудасная расправа з нябожчыкамі. З Томску быў вызваны буксір і адданы загад змываць бераг разам з трупамі. Мылі некалькі сутак і ўдзень і ўначы. Трупы падалі ў ваду. Да іх прывязвалі балванкі й тапілі. Тых, якія не хацелі тануць, рэзалі вінтамі, білі вёсламі. Рэшткі раскрышаных трупаў плылі ўніз па Абі, да акіяна. «Запах был ужасный, не пожелаешь и врагу, — успамінае капітан цеплахода, — мы люди подневольные, делали что прикажут. Топлива сожгли 60 тонн. Трупы были целые, разной величины. Видел на трупах розово-белое бельё. Трупы плавали. Кагэбэшники фотографировали. Полковник заметил, что у нас нету мяса. На следующий день мясо привезли, и кушали мы весь период работы очень хорошо. Теплоход почти весь ушел в берег (образовалась бухта). В Томске меня повезли в КГБ на чёрной «Волге». Страх был у меня. От имени Андропова вынесли благодарность и подарили приёмник «Томь», механику — часы, женщинам по 20 рублей».

Рэха гэтай нечалавечай расправы пракацілася тады па вобласьці і сьціхла. Калі вада сыйшла, агаліўся бераг, усыпаны касьцьмі. Іх закідалі graвіем. Але доўга яшчэ неразумныя калпашаўскія хлапчукі каталі па вулках дзядоўскія чарапы.

Толькі праз дзесяць гадоў, дзякуючы дасьледваньням томскай грамадзкасьці, томскага «Мэмарыялу», аб калпашаўскім размыву стала шырока вядома, былі сабраны матэрыялы, апрошаны сьведкі. Былі намаганьні прыцягнуць да адказнасьці вінаватых у гэтым блюзьнерстве. Але...

І ўсё ж, ня гледзячы на супярэчлівасьці й цяжкасьці часу, у які мы зараз жывем, я ўдзячна яму, нашаму часу, што ён хоць часткова спыніў размыў ня менш страшны за калпашаўскі, размыў нашае памяці, нашага сумленьня. Што пачынаем успамінаць загінуўшых на роднай зямлі і ў халоднай далечыні Сібіры, пакуль жывыя яшчэ старыя, якія могуць расказаць, пакуль мы, маладзейшыя, ня страцілі зусім патрэбу слухаць, памятаць, хварэць сэрцам. Але ці не здараецца часам так, што памянуўшы ўсіх разам, запаліўшы сьвечкі на братэрскіх могілках, не імкнемся мы далей знайсьці і ўспомніць кожнага. Бо кожны з іх меў родных, меў свой куток, дзе зараз жывуць яго нашчадкі, яго суседзі. Калі пакутавалі яны, калі клалі свае галовы ў чужую зямлю, напэўна спадзяваліся, што мы, іх родныя і суайчыньнікі, калі-небудзь успомнім і даведаемся, якія яны былі, як жылі, на што спадзяваліся і як загінулі.

Шукаю з дапамогай томскіх сяброў сваю стрыечную бабулю, маю надзею знайсьці хоць нейкія зьвесткі аб гэтай вялікай сям'і, бо веру, што гэта патрэбна ня толькі маёй старэнькай бабулі і яе сёстрам, гэта патрэбна мне, маім малым дзецям і будучым дзецям маіх дзяцей, бо забыцьцё мінулага гарантуе яго паўтор. «Толькі рабы ня памятаюць сваёй гісторыі» (Анатоль Франс).

Тацьцяна Дзербан

## *Беларуская кніга ў Вільні*

Апошнім часам у віленчукоў зьявілася магчымасьць набыць беларускія кніжныя навінкі. У кнігарнях «Menskas» і «Русская книга» вось ужо месяц дзейнічаюць беларускія аддзелы. Там вы можаце выбраць на свой густ дзіцячую, мастацкую і навуковую літаратуру.

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 па тэлебачаньню Літвы — беларуская праграма.
— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».
— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — па першай праграме Літоўскага радыё.
— Хата-чытальня ТБК па вул. Жыгімонта 12-3. Працы з 11.00 да 14.00 і з 17.00 да 20.00 штодня акрамя суботы і нядзелі. Тэл. 61-65-32.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях званіце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49



# БЕЛАРУС ВІЛЕНШЧЫНЫ

ШТОТЫДНЁВАЯ СТАРОНКА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ № 39

## І ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ КРАІН БАЛТЫІ

*Рэгіёны:* Літва, Латвія, Эстонія, Пецярбург, Каралевец, Польшча.

*Асноўная задача:* Усталяваньне сталых сувязяў паміж беларусамі, якія жывуць у гэтым рэгіёне, а таксама Бацькаўшчынай, у галіне нацыянальна-культурнага жыцьця.

*Час правядзеньня:* 6-7 жніўня 1994 года.

ПРАГРАМА

**6-га жніўня**

*11.00* Урачыстае адкрыцьцё

*14.00* — прывітальныя выступленьні

— канцэрт беларускіх артыстаў Вільні

*15.00-17.30* Выступленьні дэлегатаў

*18.00-19.00* Адкрыцьцё мэмарыяльнай таблiцы Янкі Купалы (вул. Віленская 14)

**7-га жніўня**

*10.00-12.45* Дыскусіі, рабочыя сустэчы па інтэрэсах (заля ТБК, вул. Жыгімонта 12-3)

Асноўныя тэмы:

1. беларускія суполкі і іх узаемасувязь
2. сродкі масавай інфармацыі
3. школьніцтва, праблемы адукацыі
4. мастацкая самадзейнасьць
5. рэгіянальныя сувязі і абмены
6. сувязі з Беларусяй праз ЗБС «Бацькаўшчына»

*13.00-14-00* Прыняцьце выніковых дакумэнтаў

*15.00-18.00* Экскурсіі па беларускіх мясьцінах Вільні, ускладаньне кветак на могілках Росы

Арганізацыйны штаб зьезду — тэл. 616532

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

* * *

У 1995 годзе выдавецтва «Полымя» плянуе выпусьціць шэраг кніг, што садзейнічаюць абуджэньню нацыянальнай сьвядомасьці. Найперш гэта краязнаўчая літаратура. Мяркуецца выдаць першую кнігу нарысаў С.Барыса «Сыны і пасынкі Беларусі», героямі якой зьяўляюцца Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, А.Міцкевіч, В.Урублеўскі, К.Езавітаў, Т.Касьцюшка, С.Булак-Булаховіч, С.Рак-Міхайлоўскі, Б.Кіт, Ф.Аляхновіч ды іншыя. Працягам кнігі «Імя ў летапісу» В.Чаропкі стане яго ж кніга «Ўладары Вялікага княства», са старонак якой паўстаюць воблікі М.Глінскага, К.Астрожскага, Л.Сапегі, Я.Радзівіла і іншых слынных сыноў Бацькаўшчыны.

* * *

Адбыўся ўстаноўчы сход Згуртаваньня навааградцаў сьвету. Шмат навааградцаў, што цяпер раскіданы па ўсяму сьвету, унясьлі ўклад у сусьветную навуку й культуру. Узяць хаця б Барыса Кіта, які стаў аўтарам кнігі пра цьвёрдае паліва для касьмічных караблёў, прызнаным аўтарытэтам у галіне матэматыкі й астранаўтыкі. Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, доктар Язэп Сажыч, рэдактар газэты «Беларус», доктар Ян Запруднік, кіраўнік беларускага радыё ў Аўстраліі Міхась Раецкі, кіраўнік фальклёрна-этнаграфічнага гурта «Васількі» з Нью-Ёрку, прафэсар хіміі Ала Орса-Рамана — усе яны выхадцы з Навагрaдчыны. Старшынёй згуртаваньня выбраны Я.Лецка.

* * *

Знакамітая фірма «Дайнова», якая апошнім часам спрыяе нацыянальнаму адраджэньню, зьяўляючыся спонсарам многіх добрых пачынаньняў, вырашыла матэрыяльна падтрымаць вядомага гісторыка й пісьменьніка, аўтара кнігі «Старажытная Беларусь» Міколу Ермаловіча. «Дайнова» устанавіла Міколу Іванавічу пажыцьцёвую штомесячную стыпэндыю ў памеры 500 тыс. рублёў (з улікам інфляцыі). Так адзначаны яго па сапраўднаму адраджэнскі подзьвіг. Як вядома, М.Ермаловіч не адзін дзесятак гадоў працаваў над гэтай кнігай, не маючы спадзяваньня, што яна калі-небудзь убачыць сьвет.

*Таварыства Беларускай Культуры выказвае шчырую падзяку Малышаву Ўладзіміру Міхайлавічу за матэрыяльную дапамогу.*

## Горкая сустрэча з Бацькаўшчынай

12-13 чэрвеня ў Менску па ініцыятыве Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» адбылася навуковая канфэрэнцыя «Культура беларускага замежжа». Для ўдзелу ў ёй прыехалі беларусы з многіх краін сьвету, у тым ліку і дэлегацыя ТБК з Літвы. Лёс раскідаў беларусаў па ўсяму сьвету, па-рознаму склалася жыцьцё. Многія з тых, хто апынуўся ў далёкім замежжы, вялі барацьбу за вызваленьне Бацькаўшчыны, бо былі ўпэўнены: дзень вызваленьня настане, захоўвалі самасьвядомасьць. І галоўнае, жывучы далёка ад дому, захавалі родную мову, веру ў свой народ.

Вось і я ехала на Бацькаўшчыну з захапленьнем, цікаўнасьцю, бо ў Менску, напрыклад, на экскурсіі была, калі вучылася ў школе, а з таго часу мінула ўжо нямала гадоў. Але Менск робіць такое ўражаньне, што знаходзішся ў глыбіні Расеі, дзесь у Іванаве: вуліца Леніна, шыльды па-расейску, мовы сваёй не чуваць, нічога беларускага ў сталіцы Беларусі няма. Далей — болей. Каля помніка Максіму Багдановічу няма ніводнай кветкі, ляжаў венік, падыйшоўшы бліжэй можна было разгледзець галінку бэзу, што даўно высахла й прыбраць якую няма каму. Вайсковыя могілкі зусім запушчаныя, у запусьценьні магілка Якуба Коласа. Вось такая ўдзячнасьць нашчадкаў. Дарма я шукала ў Менску сваё — беларускае, роднае, кроўнае, але нават у Траецкім прадмесьці нічога не знайшла. Уладкаваліся мы ў гатэлі «Беларусь», да Дому літаратараў нас вазіў аўтобус. Уваходзіць маладая жанчына ў аўтобус, прадстаўляецца, ня буду называць яе імя — ня гэта галоўнае: «Я работаю в гимназии, преподаю белорусскую мову, но лучше говорить по-русски». Каментарыі непатрэбны. Аб якой будучыні можна гаварыць, а тым больш аб сьвядомасьці. І што больш зьдзівіла: менскае згуртаваньне «Бацькаўшчына» — паміж сабой размаўляюць па-расейску.

Зусім іншым уяўляла Менск. Дарэчы, у Вільню часта прыязджалі прадстаўнікі розных згуртаваньняў з Менска, здаецца, размаўляюць па-беларуску, нібыта нешта робяць для захаваньня нашай культуры, але гэта на словах толькі. Захапляюцца Вільняй, але ў Літве іншыя адносіны да культуры нацыянальнай, да літаратуры, да рэлігіі і ўвогуле да спадчыны. Іншая сьвядомасьць, іншая актыўнасьць моладзі, іншае асяродзьдзе. Як можна выкладаць і не любіць мову, бо калі выкладчык не размаўляе па-беларуску, ён ня можа зацікавіць дзяцей. Зьява фэнаменальная. А дзе яшчэ можна сустрэць такі маразм, акрамя Беларусі, каб сэсіі розных Саветаў вяліся не на дзяржаўнай мове?

Партыйная наменклатура, якая зьнішчыла нашу культуру, беларускія школы, архітэктуру, апляввала гісторыю, трымае ўладу ў сваіх руках. Гавораць: «Які кіраўнік, такі і народ». Нельга з гэтым канчаткова згадзіцца. Няўжо наш народ такі безаблічны, заідэалагізаваны, нсадукаваны?

Пакідала Менск, а ў душы боль: калі раней і была надзея на адраджэньне Бацькаўшчыны, то яна ўжо канчаткова зьнікла. Бо гэта залежыць толькі ад нас саміх, ніхто й нішто не дапаможа, нават расейскі рубель.

Леакадзія Мілаш, Вільня

## Да 125-х угодкаў нараджэньня Лявона Вітан-Дубейкаўскага

*біяграфічны нарыс*



Лявона Вітан-Дубейкаўскага, беларускага культурна-грамадзкага дзеяча й інжынера-архітэктара высокай кваліфікацыі можна сьмела залічыць да заслужаных віленчукоў ня толькі таму, што яго магіла знаходзіцца на старажытных могілках Росы ў Вільні. Але ж Лявон Дубейкаўскі пражыў бязвыезна прынамсі два апошніх дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця ды з беларускім асяродзьдзем Вільні быў у цесным кантакце яшчэ з гэтак званай «нашаніўскай пары», калі тут выдавалася тая першая сапраўдная газэта «Наша Ніва». І хаця лёс кідаў яго па розных краінах, але ж у Вільні прыжыўся вельмі трывала. У памяці нашчадкаў ён застаўся і як дзеяч таго асяродзьдзя, што змагалася за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, і як папулярызатар беларускай культурнай спадчыны, і як таленавіты дойлід, якога будоўлі яшчэ сёньня можам знайсьці ў Вільні, на Віленшчыне, па ўсёй Беларусі і нават па-за яе межамі.

Дык ня дзіва, што яго магілу пры кожнай нагодзе з вялікай пашанай наведваюць прадстаўнікі тутэйшага беларускага грамадзтва і яна згадваецца ў літоўскім і польскім даведніках пра могілкі Росы, дзе пазначаны магілы знаных дзеячоў культуры нашага краю.

Пачынаючы кароткі жыцьцяпіс Лявона Вітан-Дубейкаўскага, хочацца адзначыць, што неўзабаве будзе нагода адзначыць 125-ыя ўгодкі яго нараджэньня, бо нарадзіўся ён 7 ліпеня 1869 году ў вёсцы Дубейкава на Мсьціслаўшчыне ў патрыярхальнай шляхецкай сям'і гэрбу Вітан. Пачатковую навуку атрымаў у Мсьціслаўскай гарадзкой школцы, на будаўніка вучыўся ў Варшаве ў Школе будаўнічых рамёстваў, скончыўшы якую заснаваў сваё бюро ў Смаленску. Асноўныя будоўлі гэтага пэрыяду — цэрквы ў Манастырышчыне й Ярсаве на Смаленшчыне, скарбніца ў Вязьме. У 1894 г. перамогаю ў конкурсе Дубейкаўскі дамогся права на будову мураванага касьцёла ў Смаленску, а ў 1901 г. — фабрыкі жалезабэтонных вырабаў. Тым жа часам стала працуе ў рэстаўрацыі — аднаўляе касьцёлы ў Воршы, Мсьціславе, Крычаве, Смалянах, Сьвіслачы ля Бярэзіны.

У 1902-1903 гадах Дубейкаўскі вучыцца ў Пецярбурскім Інстытуце цывільных інжынераў, па заканчэньні якога працягвае працу ў сваім Смаленскім бюро, цяпер ужо і архітэктарам. Каб канчаткова сьцьвердзіцца прафэсыйна, у 1907-1910 гадах навучаецца ў Парыжы ў славутай Акадэміі архітэктуры і атрымлівае дыплём архітэктара-мастака.

З 1910 г. Дубейкаўскі ў Варшаве. Да 1913 г. ён працуе архітэктарам у вядомым бюро Лільпопа і Янкоўскага, праектную працу ў якім сумяшчае з выкладаньнем курса будаўніцтва ў сярэдняй Тэхнічна-прамысловай школе інжынера Пятроўскага. У 1913 г. закладае ўласнае архітэктурнае бюро і даволі пасьпяхова працуе да 1915 г. Сярод тагачасных пабудоваў — летнік Сталыгваў у Ажарове пад Варшавай, шэраг прыбыткавых дамоў. Становіцца сябрам Варшаўскага Кола Архітэктараў.

Жывучы ў Варшаве, быў актыўным удзельнікам створанага там Беларускага гуртка, у склад якога ўваходзілі сярод іншых Гальляш Леўчык, Зоська Верас, Рамуальд Зямкевіч. Наездамі бываў у Вільні, дзе сябраваў з многімі дзеячамі беларускага адраджэньня, што гуртаваліся вакол «Нашай Нівы». Бываў таксама ў Пецярбурзе, дзе таксама сустракаўся з беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Вацлавам Іваноўскім. Пра ўражаньні аб Дубейкаўскім у віленскім асяродзьдзі чытаем у лісьце Марысі Галубянкі да Зоські Верас з 1914 г.: «Дзядзька Лявон, як яго называлі ў Вільні, вельмі мне падабаўся, ён быў дужа вясёлы, з глыбокім пачуцьцём гумару, меў шырокія погляды» — канец цытаты.

У 1916-1917 гадах жыў у Менску, быў блізкі да дзеячоў, што гуртаваліся пры «Беларускай хатцы» — між імі Фальkoўскі, Смоліч, Максім Багдановіч, Зоська Верас, Уладзіслаў Галубок — сярод іх сустрэў новы 1917 год. Пасьля зьезду Беларускіх арганізацый у Менску у сакавіку 1917 году ўвайшоў у склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту. З 1918 году ізноў у Варшаве. У наступным годзе чытае папулярныя лекцыі аб будаўніцтве на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні і Горадні, а затым пераяжджае на сталае жыхарства ў Вільню.

Вось пералік некаторых архітэктурных твораў віленскага пэрыяду: 1922 г. — царква старавераў у Відзах, 1923 г. — перабудова Віленскіх Бэрнардынскіх муроў пад факультэт мастацтва ўнівэрсытэту — цяпер у іх Акадэмія мастацтва Літвы. 1924 г. — касьцёл у Дрысьвятах і прыватны дом на вул. Славацкага ў Вільні, затым лясьніцтва ў Шумску, дамы ў Кене дый шмат іншых пабудоваў у Вільні і на Віленшчыне. У 1925-1929 гадох кіруе Школай будаўлянага рамяства і разам з вучнямі ставіць шэраг будынкаў паводле сваіх праектаў. У 1926 г. перабудоўвае ўласную сядзібу на вуліцы Падгорнай у Вільні, пазьней кіруе аднаўленьнем комплексу Францішканскага кляштару на Троцкай вуліцы, уніяцкага манастыра ў Друі, праектуе кляштар у Непакалянаве ля Варшавы. Асабліва варты ўвагі збудаваны ім комплекс каапэратыўных жыльлёвых дамоў, вельмі сучасных, на Антокалі непадалёк касьцёла Пятра і Паўла ў Вільні.

Вітан-Дубейкаўскі быў жанаты з карэннай віленчанкай нямецкага паходжаньня Юліянай Мэнке — псэўдонім Кветка Вітан. Яна, яе сястра і браты ўдзельнічалі ў беларускім адраджэнскім руху. Сам жа ён быў у цэнтры культурна-грамадзкага жыцьця беларусаў Вільні. Супрацоўнічаў у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, быў сябрам беларускага каапэратыўнага таварыства «Пчала», уваходзіў у склад камісіі дапамогі беларускай студэнцкай моладзі. Чытаў публічныя лекцыі і рэфэраты па беларускаму дойлідзтву, быў шырака вядомы ў колах нашай мясцовай інтэлігенцыі.

Памёр у Вільні ў лістападзе ў 1940 годзе. На магільным камяні надпіс па-беларуску са словамі: «Ня сумуйце, як тыя, што надзеі ня маюць!»

Лявон Луцкевіч

### ІНФАРМАЦЫЯ

— кожны панядзелак у 19.30 па тэлебачаньню Літвы — беларуская праграма.

— кожную суботу ў 11.30 па другой праграме радыё перадача «Беларускае слова на хвалі Літоўскага радыё».

— кожны дзень у 21.00 інфармацыя для беларусаў Літвы — па першай праграме Літоўскага радыё.

— Хата-чытальня ТБК па вул. Жыгімонта 12-3. Працы з 11.00 да 14.00 і з 17.00 да 20.00 штодня акрамя суботы і нядзелі. Тэл. 61-65-32.

Старонка «Беларус Віленшчыны» зьяўляецца органам Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якое нясе ўсю адказнасьць за зьмест і форму публікацый.

Выдавец: Рэдакцыйная калегія Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Старшыня Рады Таварыства Хведар Нюнька.

Свае допісы, пажаданьні і крытычныя заўвагі дасылайце на адрас: 2004 Вільня, вул. Селю 21, кв. 2

Па ўсіх пытаньнях звaніце па тэлефонах: 44-90-01, 75-86-06, 47-15-49